

СПАДЧЫНА

# ЛЯВОН ГМЫРАК

## ТВОРЫ



# ЛЯВОН ГМЫРАК

# ТВОРЫ

## ПРОЗА
## КРЫТЫКА
## ПУБЛІЦЫСТЫКА

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1992

ББК 84Бел1
Г 55

Укладанне, падрыхтоўка тэксту,
прадмова і каментарыі
*Уладзіміра Конана*

Только 24 года прожил способный беллетрист, критик и публицист Мечислав Боброович (1891—1915), известный в литературе по псевдониму Лявон Гмырак. За три года до гибели на войне он опубликовал в «Нашай ніве» и схожих с ней изданиях свои произведения, которые вошли в эту первую книгу писателя. В них талантливо проявились искренний демократизм, любовь к народу и жертвенность «нашаніўскіх» возрожденцев.

Г $\frac{4702120101-122}{М\ 302(03)-92}$ 120—92

ISNB 5-340-00766-9

## «ХАЦЕЎ ЁН ВОЛІ ДЛЯ СЯЛЯН...»

Што ведаем мы сёння пра Лявона Гмырака — аднаго з самых яркіх публіцыстаў газеты «Наша ніва»? Не толькі чытачы, але і спецыялісты, гісторыкі літаратуры? Да сораму мала. А між тым, каб ягоны лёс склаўся шчасліва, дык ён мог быць нашым сучаснікам. Ва ўсякім выпадку для старэйшых, чыя маладосць прыпадае на 50—60-я гады.

Летась споўнілася сто гадоў з дня яго нараджэння. Яшчэ адзін журботны юбілей беларускай літаратуры!

Першы «запісаў» яго ў нацыянальны мартыралог Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920). Усяго некалькі радкоў: «Гмырак Лявон (М. Бабровіч) — малады, надта здольны нашаніўскі публіцыст. Пісаў і белетрыстыку (Б. Заяц). Быў родам з Віленшчыны (двор Пархвенава Вілейскага павету), забіты на вайне пад Коўнаю 30 чэрвеня 1915 года (13 ліпеня 1915 года па новаму стылю)».

У часопісе «Рунь» (9.05.1920) змешчана кароткае слова пра пісьменніка, напісанае, здаецца, З. Бядулем: «Ён родам з-пад Буцлава Вілейскага павету... У сваіх творах заўсёды адстойваў правы беларускага селяніна. Ён быў вельмі шчыры беларус і вялікі ідэаліст у жыцці».

Крыху пазней Яфім Карскі («Белорусы. Т. III. Выпуск 3. Художественная литература на народном языке. Петроград, 1922) паведаміў у раздзеле «Матэрыялы для слоўніка іншых беларускіх пісьменнікаў апошняга часу»: «Заяц Б. Лявон Гмырак. Абодва псеўданімы Мечыслава Бабровіча (1915 ). Пісаў апавяданні ў «Нашай ніве»; пісаў і крытычныя артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў. Плаўнік (Ясакар) у «Задушках» так успамінае яго:

Лявон Гмырак, з душой магутнай,
Любіў бязмер свой край пакутны,
Сасонка Віленшчыны сумнай,
Дзіця Вяльлі, ракі задумнай,
Хацеў рассеяць ён туман,
Хацеў ён волі для сялян.
Святлейшых, лепшых, шчасных дзён
Жадаў для брата свайго ён.

Біяграфічныя звесткі пра яго — у «Беларусі», 1920, № 145».

Усяго 24 гады жыцця. З іх на літаратурную творчасць выпала толькі тры (1912—1914). Равеснік Максіма Багдановіча. Як для сённяшняга часу — сярэдні ўзрост студэнта-выпускніка.

Гісторыкі беларускай літаратуры, здаецца, яшчэ не звярнулі ўвагу на адну загадкавую і трагічную асаблівасць: нашу літаратуру і нацыянальную культуру ў пачатку XX стагоддзя стваралі зусім маладыя людзі. І паміралі маладымі.

Аўтару геніяльнага «Вянка» было толькі 22 гады. Сяргей Палуян закончыў самагубствам на дваццатай вясне свайго жыцця. Менш вядомы яго сучаснік, паэт і карэспандэнт «Нашай нівы» Альфонс Петрашкевіч пажыў усяго 24 гады. Алесь Гарун крыху больш — 33 гады. Аўтару першай «Гісторыі беларускай літаратуры» ў 1920 годзе споўнілася 27 гадоў. Браніслаў Тарашкевіч апублікаваў (з вялікімі цяжкасцямі і спазненнем!) «Беларускую граматыку для школ» (1918), калі яму было 24 гады. Аўтарка «Курганнай кветкі» (1914) — дваццацігадовая дзяўчына Канстанцыя Буйло. Сярэдні ўзрост тых, хто найбольш друкаваў вершы, апавяданні, артыкулы, карэспандэнцыі ў «Нашай ніве», часопісах «Маладая Беларусь», «Лучынка» — недзе каля 20—22 гадоў. Да трыццацігадовых Янкі Купалы, Якуба Коласа, Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага яны звярталіся з сыноўняй павагай — дзядзька.

Элаіза Пашкевіч, якой было таксама трыццаць, калі пачалі выходзіць газеты «Наша доля», і «Наша ніва», стала Цёткай беларускай літаратуры.

Гэта, відаць, і была вядомая ў нашым літаратуразнаўстве паскоранасць. У дачыненні да жыццёвага лёсу творцаў яна азначала гераічны прарыў з нябыту ў быццё. Гераізм і трагічнасць — даўно заўважаныя прыкметы беларускай нацыянальнай культуры. Трагізм незаканчанасці творчага выяўлення: тады, калі яно пачалося занадта позна, як у Багушэвіча і шмат каго з яго паслядоўнікаў-нашаніўцаў; і асабліва тады, калі жыццё абрываецца ў пачатку творчага ўзыходжання, як гэта сталася з Гмыракам.

Біяграфічныя звесткі пра пісьменніка фрагментарныя і недакладныя. Вядома, што нарадзіўся ён у фальварку Пярхвенава, відаць, недзе каля Даўгінава, старадаўняга мястэчка (цяпер — вёска Вілейскага раёна). У нататцы «Пільнуйцеся свайго» Гмырак называе яго «Нашым Даўгінавым». Недзе там ён набыў пачатковую адукацыю. Семнаццацігадовым юнаком скончыў Віленскую гімназію (1908), хутчэй за ўсё рускую: аналіз яго твораў, асабліва публіцыстычных, выяўляе русізмы і спецыфічны для рускай мовы стылістычны лад. Характэрных для беларускіх пісьменнікаў з польскай адукацыяй паланізмаў у Гмырака бадай што няма. Па-беларуску гаварыць навучыўся ў дзяцінстве ад сваіх бацькоў і аднавяскоўцаў; а літаратурнай беларускай мове прыходзілася вучыцца ўжо ў працэсе літаратурнай працы. Публіцыстычная спадчына пісьменніка сведчыць, што ён ведаў рускую літаратуру і грамадска-палітычную думку, быў паслядоўнікам (з істотнымі папраўкамі на беларускія ўмовы) рускага народніцтва ў яго радыкальна-сялянскай плыні.

Якіх-небудзь слядоў лучнасці гімназіста Мечыслава Бабровіча з беларускай літаратурай не знойдзена. Відаць, ён далучыўся да адраджэнскага руху ў апошні год вучобы ў Варшаўскай тэхніка-прамысловай школе (1908—1912). Творчая індывідуальнасць пісьменніка выявілася неяк рап-

тоўна ў 1913—1914 гадах: на старонках «Нашай нівы» і блізкіх да яе выданняў (зборнік «Велікодная пісанка», часопіс «Лучынка») з'явіліся таленавітыя публіцыстычныя артыкулы і апавяданне «Васілёва вяселле». Яны звярнулі на аўтара пільную ўвагу беларускіх чытачоў і літаратурнай грамадскасці. Л. Гмырак цяпер — вядучы публіцыст газеты, яе карэспандэнт і дарадчык.

У архіве «Нашай нівы» (Аддзел рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР, г. Вільнюс, фонд 21, адзінкі захавання 32—34) захаваліся аўтографы некалькіх артыкулаў Мечыслава Бабровіча і лістоў у рэдакцыю. Артыкулы (з рэдакцыйнымі папраўкамі і скарачэннямі) друкаваліся ў газеце за 1914 год. Лісты пісьменніка высвятляюць творчую асобу пісьменніка, яго светапогляд, літаратурныя схільнасці і антыпатыі. Апрача таго, яны нешта даюць для яго біяграфіі і, мабыць, паслужаць ключом для архіўных пошукаў, без якіх яго жыццяпіс нельга пакуль што напісаць.

У лісце ад 25 лютага 1914 года Мечыслаў Бабровіч просіць прыслаць яму ў Варшаву беларускія кніжкі, у першую чаргу «Вянок» Максіма Багдановіча, на які абяцае напісаць рэцэнзію. Скардзіцца на сваю ізаляцыю ад нацыянальна-культурнага руху: «Жыву я ў чужой старане, далёка ад беларускага жыцця, находжуся, адным словам, зусім не ў «курсе спраў»... Вось цяпер мне яшчэ некалькі месяцаў прыйдзецца жыць у Варшаве». Просіць даць адрасы варшаўскіх беларусаў, пазнаёміць з Гальяшом Леўчыкам, якога, паводле яго слоў, тут хваляць. Да паштовых марак, дасланых для аплаты Багдановічавага «Вянка», дабаўляе яшчэ маркі на 60 капеек для аплаты падпіскі на дзіцячы часопіс «Іскрачка», які планаваўся нашаніўцамі, аднак не здзейсніўся. Часопіс планаваўся на 1915 год, і М. Бабровіч просіць пасылаць яго на адрас: «Паштовая станцыя Даўгінава, Віленскай губерні, Шымкоўшчына, С. І. Бабровічу».

С. І. Бабровіч, бясспрэчна,— бацька пісьменніка, а

Шымкоўшчына — вёска альбо, хутчэй, фальварак, бо ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці» Яўгена Рапановіча вёскі пад такой назвай няма. У лістах пісьменнік называе яшчэ два свае часовыя прыстанішчы. 20 студзеня 1914 года ён просіць прысылаць «Нашу ніву» на адрас: «Паштовая станцыя Івангорад Люблінскай губерні, Сабешынскае сельскагаспадарчае вучылішча ў маёнтку Бржазова, тэхніку-практыканту М. Бабровічу». Відаць, ён нейкі час там працаваў выкладчыкам. А на адным з канвертаў яго, пазначаным паштовым штэмпелем «Варшава, 12.5.(19)14», ёсць адрас-аўтограф: «От М. С. Бобровича из Варшавы, Золотая ул., дом № 56, кв. 1». Пісьменнік адчуваў сябе ў гэтым горадзе чужым, жыў беларускімі справамі, марыў праз год канчаткова асесці ў роднай Даўгінаўшчыне.

Перапіска Л. Гмырака з рэдакцыяй «Нашай нівы» мала што дадае да скупых звестак пра яго жыццё, затое раскрывае кола яго пісьменніцкіх інтарэсаў, дачыненні да розных плыняў у беларускім адраджэнскім руху. Так, у першым лісце (3 студзеня 1914 г.) ён паведамляе, што пасылаў у рэдакцыю артыкул «Вялікая гадавіна», прысвечаны вызваленню сялянства ад прыгоннага права паводле Маніфеста 19 лютага 1861 года. Далей паведамляе: «У «Маладую Беларусь» адну стаццю я ўжо паслаў, калі пачне выходзіць «Лучынка», трэба будзе што-небудзь напісаць і туды». Альманах «Маладая Беларусь» спыніўся на трэцім выпуску за 1913 год, а ў «Лучынцы» (1914, № 3) з'явіўся артыкул Гмырака «Сіла з народу». У прыпісцы да ліста ён паведамляў: «Цяпер я працую над вялікай стаццёй «Белорусское национальное возрождение». Як кончу, пашлю яе ў «Русское богатство», можа надрукуюць». У рускім часопісе такі артыкул не з'явіўся, а па-беларуску ён апублікаваны ў зборніку «Велікодная пісанка» (1914).

У другім лісце (20 студзеня 1914 г.) Л. Гмырак просіць надрукаваць без скарачэнняў артыкул пра Тараса Шаўчэнку. «Гэтую стаццю,— пісаў ён,— я находжу для

«Нашай нівы» патрэбнай. Пэўна Вы згодзіцеся з тым, што кожны свядомы беларус павінен ведаць, хто гэткі Т. Шаўчэнка. Тым часам нават сярод чытачоў «Нашай нівы», сялян, бадай ці не палавіна, калі не болей, або зусім не чула гэтага імені, або ведае аб ім дужа мала. У рабочых газетах я часта спатыкаў з прычыны розных юбілеяў (Дабралюбава, Караленкі, Памялоўскага і інш.) стацці якраз гэткага тыпу, як мая, заключаючы ў сябе кароткую біяграфію і характарыстыку творчасці».

У маі 1914 года публіцыст прапануе аб'явіць у газеце, што неўзабаве з'явіцца ў шэрагу нумароў яго артыкул «Земства і воласць». «Праца над ім,— зазначае аўтар,— заняла ў мяне шмат часу, бо і пісаць трэба было многа, і спраўляцца дзе ў якіх кнігах». Ён клапаціўся пра лёс раней высланых артыкулаў («Вымаганне жыцця», «Бюджэт на 1914 год» і інш.), балюча рэагаваў на скарачэнні і скажэнні сваёй думкі: «Вы за апошнія часы зрабілі моду скарачаць і перарабляць мае стацці. Я прасіў Вас, і не адзін раз, гэтыя пераробкі рабіць толькі з майго ведама. Вось стаццю «Беларускае нацыянальнае адраджэнне», праўда, Вы перарабілі, запытаўшы майго сагласу,— гэта так, а дробныя стацці («Ізноў паркалёвыя» і др.) перарабляеце самі... Вось на прыкметнае, вялікае пакарачэнне стаццей маёй згоды няма. Трошку перарабляйце, калі хочаце; як надумаецеся зрабіць большыя перамены — напішыце мне, што і як». Л. Гмырак згодзен друкавацца толькі ў выданнях кірыліцай: «Супрацоўнічаць у выданнях, друкаваных лацінікай, я адказваюся раз назаўсёды». Гэта, зразумела, ішло ад няспелага «радыкалізму», які, на маю думку, з пасталеннем аўтара прайшоў бы.

За два гады да смерці Л. Гмырак працаваў шмат, напісаў амаль усе свае творы. Прапаноўваў рэдакцыі ўсё новыя і новыя тэмы: «Можа, надумаецеся ў скорым часе выдаць які зборнік ці што такое, дзе была б патрэбнай даўжэйшая сур'ёзная стацця. У мяне ў галаве тоўпяцца ажно 4 гэткіх стацці. Не пішу іх, шкадуючы хватыгі.

Працую я цяжка, часу свабоднага маю мала,— вось і неахвота пісаць дарма. Ведаючы, што мая праца мае шансы быць у скорасці надрукаванай, я бы ўжо найшоў час за гэта ўзяцца. Але пісаць у надзеі, што гэта зробіцца толькі «после дождика в четверг», ужо зусім не хочацца».

На радыкальнае народніцтва Мечыслава Бабровіча, відаць, паўплываў рэвалюцыйны рух на яго Даўгінаўшчыне ў 1905—1907 гг. Там узнікла арганізацыя РСДРП (у жніўні 1906 года ў ёй было 80 чалавек). Яе ўзначальваў падпольны «сход» з дзевяці чалавек, які для штодзённай працы выбраў «цэнтр» і стварыў сялянскую арганізацыю. Сярод сялян і рабочых распаўсюджваліся лістоўкі з заклікамі да паўстання. У снежні 1905 года даўгінаўскія сяляне праводзілі мітынгі, разагналі мясцовую паліцыю, захоплівалі памешчыцкія землі. А летам 1906 года адбылася забастоўка падзёншчыкаў, у выніку якой была павялічана аплата іх працы. Толькі ў гады рэакцыі гэты рух прыпынены, арганізацыі разгромлены.

Зусім верагодна, што пятнаццацігадовы юнак быў сведкам ці нават удзельнікам гэтага руху, што ў пэўнай ступені запраграмавала яго светапогляд. Пазней М. Бабровіч стаў адным з самых радыкальных публіцыстаў «Нашай нівы». Ён быў, бадай што, адзіным актыўным аўтарам, які крытыкаваў газету злева, патрабаваў класавага завастрэння публіцыстычных матэрыялаў. На гэта ў свой час звярнуў увагу Сцяпан Александровіч у нарысах «Пуцявіны роднага слова» (1971). 21 лютага 1914 года «Наша ніва» змясціла артыкул «Бяздомныя» і допіс «Звяры, а не людзі». Атрымаўшы гэты нумар, Л. Гмырак напісаў ліст у рэдакцыю. Пра артыкул «Бяздомныя» ён адзначае: «Не трэба шукаць людзей гэтак жа няшчасных, як беларусы, аж у Індыі, калі, напрыклад, расейскія ўкраінцы якраз у гэткім палажэнні знаходзяцца, а бадай што, не так ужо шмат лепей жывецца «господствующей нации». Нацыянальнага гнёту тут няма, але «сторона наша убогая, выгнать некуда коровушку» і ў іх!»

Адносна нататкі «Звяры, а не людзі», ён зазначыў: «Што мужыкі не ратуюць коней тонучага пана (едзе ён у касцёл, коні мае 200-рублёвых, значыць, або пан, або грашавік-шляхціц), нічога благога няма. Цешыцца з гэтага трэба і жадаць, каб болей было такіх праяў, бо не зверствы тут праяўляюцца, а свядомае зразуменне «классовых противоречий» ды вынікаючая з гэтага нянавісць».

Добра, што «Нашай нівай» кіравалі вопытныя людзі і не друкавалі такіх праяў «дзіцячай» жорсткасці. Л. Гмырак зблытаў этыку з палітыкай, палітычную барацьбу з маральным нігілізмам. Чаму сяляне павінны былі быць абыякавымі да гібелі «грашавіка-шляхціца», які, відаць, працаваў не менш, а больш за іх? І хіба ж вінаватыя яго коні, калі нават за іх ён заплаціў 200 рублёў? Пачынаўся жорсткі век, век нянавісці і чалавечых трагедый. «Наша ніва» ў той жорсткі век прапаведавала дабро і чалавечую салідарнасць. Можна здагадвацца, што Мечыслаў Бабровіч, пасталеўшы, выракся б сваіх жорсткіх слоў.

Насуперак гэтым эмацыянальным зрывам быў ён чалавекам гуманным. У палітыцы прымыкаў да беларускай плыні «сялянска-работніцкага» сацыял-дэмакратызму, сутнасць якога раскрыта ў брашуры «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе мэты і задачы» (1920 г., часопіс «Беларусь», 1989, № 10). Сутнасць яе — у спадзяванні на сацыяльнае адзінства ўсіх працоўных — сялян, гарадскіх работнікаў і народнай інтэлігенцыі, супрацьпастаўленых «класу капіталістаў», пад якімі разумеліся і буйныя абшарнікі, і фабрыканты, і, урэшце, урадавая бюракратыя. Вось што пісаў Лявон Гмырак рэдакцыі «Нашай нівы» ў маі 1914 года: «Работніцкія газеты за апошнія часы ад пары да пары выдаюць «Областные приложения», гэта значыць лісткі, якія ўкладваюцца ў № газеты. Гэтыя лісткі прысвечаны разгляданню палажэння работнікаў у якой-небудзь адной вобласці ці галіве працы (...). Работніцкі рух — гэта бадай ці не найпрыкметнейшая праява грамадскага жыцця сучаснай Расіі. Пралетарыят

пакуль што ядыная сіла, зноў пасля некалькігадовага зацішша выступаючая актыўна. Свядомыя беларусы ў ніякім разе не павінны ігнараваць гэтай сілы. У нас, як ва ўсіх іншых народаў, пралетарыят — адзін з найважнейшых класаў грамадзянства. Пралетарыят у нас, як бы там ні было, ёсць (...). Беларускае работніцтва мае свае спецыяльныя інтарэсы: як для сялян важна аграрная рэформа, так для іх 8-гадзінны рабочы дзень і інш. Само сабой, ніякага антаганізму прамеж інтарэсамі сялян і фабрычных няма і быць не можа. Праграма, абхопліваючая абарону тых ды другіх, лічачая іх за ядыны працоўны народ, і ёсць праўдзівая, здольная да жыцця праграма. Для беларускай справы важна, каб наш пралетарыят быў свядомы не толькі класава, але і нацыянальна. Але для гэтага трэба, каб ён пачуў у беларускай мове слова ў сваю абарону, каб хоць ад пары да пары (дакуль не будзе змогі наладзіць пастаяннага работніцкага выдаўніцтва) выходзілі лістоўкі і кніжкі беларускія, разглядаючыя работніцкае пытанне».

Л. Гмырак прапанаваў выдаваць пры «Нашай ніве» два-тры разы ў год дадаткі і назваць іх «Работніцкая лістоўка» ці «Работніцкая пісанка», друкаваць у іх праблемныя артыкулы пра жыццё беларускіх рабочых, карэспандэнцыі і хроніку рабочага руху, вершы і інш. матэрыялы. «Падумайце, дзядзька, аб гэтым, парайцеся, пагаварыце з другімі. Справа вельмі важная, варта яе наладзіць. Калі б не найшлося другіх супрацоўнікаў, я адзін абавязваюся пісаць гэтулькі стацей, колькі будзе трэба». Л. Гмырак раіў таксама звярнуцца за дапамогай да Цішкі Гартнага, Алеся Гурло, да рабочых-беларусаў, што працавалі ў гарадах Беларусі і Расіі. Ён абяцаў арганізаваць фінансавую дапамогу, прысылаць «невялікія складкі, як гэта робяць свядомыя рускія», пашукаць аўтараў, дапамагаць распаўсюджваць новае выданне. Прапанаваў таксама ідэйныя прынцыпы гэтага выдання: «Беларуская работніцкая лістоўка павінна стаяць на становішчы класавай барацьбы. Партыйнага, а тым больш фракцыйнага характару насіць

яна не павінна. Работніцкая праграма адна і тая ж у народнікаў і ў марксістаў. Трэба пісаць гэтак, каб нашу лістоўку ўважаў сваёй — чытаў ды шырыў — і народнік (с.-р.) і марксіст (с.-д.). «Спорных пунктаў» лепей не чапаць, калі ўспамінаўшы іх мімаходам. Трэба прыпамінаць, што патрэбна еднасць і салідарнасць усіх напрамкаў у супольных выступленнях, што з часам яны могуць злучыцца, што гэта добра было б, ды не шкодзіла б гэтую хвіліну прыбліжаць».

Л. Гмырак яшчэ і яшчэ раз пытаўся: «Вось ці не можна было б наладзіць гэткае штукі пры «Н[ашай] н[іве]». «Н[аша] н[іва]» асталася б тым, чым яна ёсць дагэтуль,— органам нацыянальнага адраджэння і сялянскай газетай; «Лістоўка» задавальняла б патрэбы работнікаў (...). Няхай, калі не можна часцей, дык хоць раз альбо два ў год выйдзе «Работніцкая лістоўка», усё ж такі мы, беларусы-пралетары, будзем мець свой орган у роднай мове».

Цікава адно паведамленне Л. Гмырака ў гэтым лісце: «Працую я цяпер над прадмовай да кніжкі Грынчэнка «Національна та інтернаціональна ідея» (Вы яе чыталі) і ператтлумачваннем (перакладам.— *У. К.*) яе. Гэта брашура тлумачыць, як праўдзіва глядзіць сацыялізм на нацыянальную справу і змагаецца з вульгарнымі касмапалітычнымі думкамі, каторых трымаюцца некаторыя тэарэтыкі с.-д. (але далёка не ўсе) і мала свядомая маса. Нам такая рэч дужа патрэбна».

І яшчэ прыпіска да ліста: «Пры работніцкіх газетах можа выйдзе «Северо-Западное областное приложение». Каб яно наладзілася пры газеце народнікаў, або ліквідатараў («Наша рабочая газета»), то туды можна было б уторкнуць стацейку аб патрэбе нацыянальнага адраджэння для беларускага пралетарыята; калі пры «Пути правды», органе гэтак называючых сябе «последовательных марксистов», то бадай што гэтага яны не памесцяць. Але і ў лепшым разе, «приложение» гэта будзе «Северо-Запад-

ное», а не беларускае, беларушчына ў ім калі і дапушчана будзе, дык на палажэнні «бедного родственника», пісаць туды можна будзе толькі па-расейску...»

У гэтых лістах Л. Гмырака — сутнасць яго сацыяльна-палітычных поглядаў, нацыянальная самабытнасць беларускага сацыялістычнага руху, вытокі якога пачынаюцца з народніцкага «Гомана», а пазней — з Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) і яе фактычнага органа — газеты «Наша ніва».

У адным з лістоў М. Бабровіч крытыкаваў рэдакцыю «Нашай нівы» за надрукаваную ў ёй нататку «З усіх старон» (17 красавіка 1914, № 15), у якой паўтараліся звесткі з газет, нібыта рускія рабочыя пратэстуюць супраць таго, каб сацыялісты прадстаўлялі іх інтарэсы. «Гэтая звестка,— скардзіўся публіцыст,— надрукавана без ніякіх каментарыяў з боку рэдакцыі: «Не хараша. А калі не хочаце ці баіцеся казаць праўду, дык лепей гэткія факты замоўчваць, чым трымацца гэтак, што «і нашым і вашым».

Асабліва абураўся пісьменнік «інцыдэнтам» з Сцяпанам Зенчанкам. 17 кастрычніка 1913 года «Наша ніва» надрукавала нататку-споведзь свайго селькора «Да роднай Беларусі», падпісаную гэтым імем. Л. Гмырак, які ўважліва сачыў за рускай журналістыкай, прачытаў надрукаваны ў часопісе «Русское богатство» (1913, № 7. С. 299—304) фельетон некага І. Гардзеева «Адраджэнне вёскі». У ім паведамлялася, што С. Зенчанка з групай маладых сялян быў пасланы афіцыёзнай арганізацыяй «Русское зерно» ў Чэхію для азнаямлення з вопытам інтэнсіўнай сельскай гаспадаркі. Вярнуўшыся на радзіму, Зенчанка выступіў з дакладам на сходзе «Русского зерна». Адраджэнне «глухой беларускай вёскі» ён бачыў у яе хутарызацыі, аднак вымушаны быў прызнаць, што сяляне варожа сустрэлі гэтую ідэю і нават спалілі хутар «сталыпінскага адраджэнца».

Л. Гмырак быў паслядоўнікам народніцкай канцэпцыі «сялянскага сацыялізму» і абаронцам «міру» (абшчыны).

У лісце ад 25 лютага 1914 года да рэдакцыі «Нашай нівы» ён пытаўся: «Будзьце ласкавы, напішыце, хто такі супрацоўнік «Н[ашай] н[івы]» Сцяпан Зенчанка, дакажыце, калі можаце, што ткі не праўда — не пішуць у газеце «мірскія здраднікі»... «Н[аша] н[іва]» заўсёды ж стаяла за хутары (толькі ў № 5 сёлета напісана слова праўды аб іх) [аўтар мае на ўвазе нататку Зрэбнага (А. Калпака) «Аб выхадзе на хутары», 31.01.1914, якую ён падтрымаў у сваім артыкуле «Колькі слоў аб хутарах» — *У. К.*], друкавала час ад часу карэспандэнцыі, дзе зусім не «трудавыя» сялянскія думкі праглядаюць... Можа гэта і натуральна, што людцы, з помаччу паліцыі грабячыя «мір», знаходзяць у ёй прытулак. Растлумачце мне, што гэта, бо, ей-богу, «ум за разум заходит».

Рэдакцыя «Нашай нівы» апярэдзіла Гмырака: у кастрычніку 1913 года яна запрасіла даведку пра Зенчанку ў М. Багдановіча. У адказ паэт пісаў 21.10.1913.: «Стефан Зенченко судзіўся ў Ніжнім Ноўгарадзе па вялікаму працэсу, так званаму «сормовскому восстанию», быў паміж падсудзімых (выключна рабочых) вельмі прыкметным чалавекам і нават гаварыў ад іх імені на судзе. Пачуўшы, што Зенчанка — беларус, я пераслаў у турму да яго колькі першых беларускіх кніжак і «Нашу долю» (было гэта ў канцы 1906 р[оку]). Аднак далі наша знаёмства не пайшло і нават у вочы Зенчанку я ніколі не бачыў; сталася гэта так таму, што па гораду пайшлі чуткі, быццам Зенчанка — правакатар (...). Сколькі ў гэтым праўды — сказаць не магу, як Вы самі ведаеце, вінаваціць у правакацыі ў нас занадта лёгка. Таму, здаецца, самым лепшым было б абвясціць аб гэтым толькі дзе каго са сваіх людзей і пільнаваць толькі, каб Зенчанка не ўбіўся да якой-небудзь беларускай і наогул грамадзянскай справы. Тым часам я напішу ў Ніжні Ноўгарад, каб мне далі больш пэўныя вядомасці».

У гэтых лістах пісьменнікаў-равеснікаў — два полюсы беларускай літаратуры нашаніўскай эпохі: на адным — па-сялянску даверлівы, празмерна палітызаваны, занадта

«класавы», начытаны, але часам па-правінцыйнаму абмежаваны Лявон Гмырак; на другім — такі ж малады, але і духоўна мудры, разважлівы, гуманны і Богам прызваны паэт-мастак Максім Багдановіч. Але абодва любілі свой народ. Праўда, па-свойму: для Гмырака народ — гэта «працоўныя», сялянскі «мір» і работніцкая арцель; адным словам, людзі фізічнай працы ды іх палітычныя прарокі — народнікі-інтэлігенты, эсеры-аграрнікі. Для Багдановіча народ — гэта нацыя як генетычная і духоўная цэласнасць не толькі з пункту погляду «бягучага моманту», але і ў полі зроку вечнасці. Гэтыя непадобныя беларускія інтэлігенты збліжаліся ў тым, што любілі не абстрактнае паняцце народа, не толькі яго будучыню, але клапаціліся перш за ўсё пра яго жывую рэальнасць.

Адносіны Л. Гмырака да М. Багдановіча неадназначныя: цікавіўся паэтам, паважаў як самаахвярнага чалавека і пісьменніка, аднак не паспеў заглыбіцца ў крынічную чысціню яго паэзіі. Прадстаўленую Багдановічам літаратурную плынь высокага мастацкага прафесіяналізму публіцыст разумеў павярхоўна, а часам «пад гарачую руку» — яшчэ і тэндэнцыйна. Вось яго ліст у рэдакцыю «Нашай нівы» (3 студзеня 1914 г.): «Трохі крыўдую я за тое, што ў «Каляднай пісанцы» Вы надрукавалі стаццю Багдановіча, а не надрукавалі маю, тут ужо трошкі самалюбіе закранута; ды і сумна тое, што, відаць, ужо «Нашай нівай» зусім запанавана крытычная манера а lа Багдановіч (у № 50 нейкі І. Л. напісаў «Агляд кніг» якраз гэткім фасонам, як піша крытычныя стаццi Багдановіч. Не ўбываецца неяк у Вас рэальная крытыка, а шкада)».

У «Каляднай пісанцы» (1913) друкаваўся артыкул Багдановіча «За тры гады. Агляд беларускай краснай пісьменнасці за 1911—1913 гг.». І. Л.— крыптонім Івана Луцэвіча (Янкі Купалы); гэта яго «Агляд кніг» друкаваўся ў «Нашай ніве». Яны, мабыць, упершыню ў беларускай крытыцы парадаваліся не толькі таму, што «жыве Беларусь», бо мае сваю літаратуру, але яшчэ і таму, што

талент пісьменніка развіваецца, а мастацкая вартасць іх твораў падвышаецца. «А гэта,— зазначыў Багдановіч,— можа значыць адно: тое, што ў нас вырабілася літаратурная мова. Кожны, хто працаваў на гэтым, зразумее, з якой радасцю я пішу гэтыя словы». Беларуская літаратура тады выходзіла на новы этап развіцця, пераадольваючы першасную этнаграфічную прастату і набываючы прыкметы класічнай складанасці. У сацыяльным плане яна пераставала быць толькі сродкам сацыяльнага і нацыянальнага адраджэння народа, станавілася духоўнай самакаштоўнасцю, аб'ектам эстэтычнай ацэнкі. М. Багдановіч якраз і быў у нас заснавальнікам эстэтычнай крытыкі, якую Л. Гмырак недакладна назваў «рэальнай». Гэта была, па сутнасці, мастацкая рэвалюцыя, яна азначала выхад беларускай літаратуры ў сям'ю славянскіх і еўрапейскіх літаратур. З літаратуры толькі «народнай» яна станавілася нацыянальнай.

Гэты духоўны «прарыў» сёння добра бачыцца ў гістарычнай рэтраспектыве. Але не ўсім сучаснікам удалося заўважыць яго, бо яны глядзелі «з блізкай адлегласці», будучы моцна ўключанымі ў ідэйна-палітычную барацьбу. Нават для акадэміка Я. Карскага беларуская літаратурная класіка ўсё яшчэ заставалася «художественной литературой на народном языке». А народніку Л. Гмыраку яна ўяўлялася «народнай», сялянскай, звернутай да самабытнага, але ўсё ж такі абмежаванага жыццёвага вопыту вясковай абшчыны. Праўда, ён заўважыў у ёй інтэлектуальную плынь, аднак лічыў, што гэтая з'ява яшчэ не актуальная. І не прымаў у «Нашай ніве» празмернай, як здавалася яму, складанасці стылю і наватарскіх пошукаў у галіне мастацкай формы. «Чаму вы надта многа пушчаеце смецця ў белетрыстычным аддзеле газеты? — пытаўся ён у рэдакцыі.— Вось Піліпава ажно ў двух нумарах (14 і 18) пусцілі. Няхай бы сваё «глыбокомыслие» п. Піліпаў праяўляў у «Маладой Беларусі» ці дзе-небудзь. «Наша ніва» папулярная народная газета, і гэткім рэчам там ня мейсца

Няўжо ж Гушча, Лейка, Бядуля, Ядвігін Ш., Гарэцкі і др. не надсылаюць Вам лепшага матэрыялу? Калі няма добрай, падыходзячай белетрыстыкі, дык лепей у «фельетонным» мейсцы стаццю памясціць, чымся друкаваць абы-што».

Гутарка ідзе пра сімвалічныя імпрэсіі І. Піліпава (Язэпа Нялепкі) «Гутаркі» (3 красавіка і 8 мая 1914 г.). Пісьменнік трымаўся фальклорных традыцый, але спрабаваў адысці ад традыцыйнага бытаапісальніцтва, і гэта, відаць, не падабалася Гмыраку. Крытыкаваў ён таксама артыкулы В. Ластоўскага і Л. Луцкевіча, якія спрабавалі расшырыць ідэйны і вобразны дыяпазон адраджэнскай літаратуры. Ён казаў ім: «Шмат у чым крыва глядзіце Вы, панове генералы беларускага адраджэння. Гэткая ясная, простая, шырокая ляжыць дарога, а Вы ў тым ды сім блыкаецеся па (...) сцежках. Глядзіце, каб не выйшла — Цусіма». З беларускіх крытыкаў ён хваліў больш за іншых Максіма Гарэцкага. Перадаваў ён у лістах прывітанне Янку Купалу і Змітраку Бядулі.

Літаратурныя погляды Гмырака вызначаюцца шчырым дэмакратызмам, натуральнай, непадробленай народнасцю. У гэтым сэнсе публіцыстыка пісьменніка вельмі тыповая для «Нашай нівы». Артыкулам «Яшчэ раз аб сплачванні доўгу» пісьменнік уступіў у літаратурную дыскусію, якая пачалася ў «Нашай ніве» з выступлення Ю. Верашчакі (В. Ластоўскага) «Сплачвайце доўг» (5 ліпеня 1913 г.) і адказам «Аднаго з Парнаснікаў» (Янкі Купалы) «Чаму плача песня наша?» (26 ліпеня 1913 г.). Спрэчка гэта добра вядомая ў гісторыі нашай літаратуры. Доўгі час яна празмерна «палітызавалася»: у ёй бачылася толькі сутыкненне дэмакратычных і ліберальных тэндэнцый у крытыцы. А на самай справе гэта было часовае, абумоўленае развіццём беларускай літаратуры сутыкненне дзвюх тэндэнцый, якія дапаўнялі адна адну: крытыка існуючага грамадска-палітычнага ладу царскай Расіі і бяспраўнага становішча беларускага народа, з аднаго боку, і ўслаўленне красы роднага краю, прыгажосці і гераізму працоўнага

народа, яго духоўнага подзвігу, з другога боку. Традыцыйны ў часоў рамантызму XIX стагоддзя матыў — «плач па роднай старонцы» не заціхаў у маладой паэзіі, але паступова ўступаў месца ўласна мастацкім, эстэтычным каштоўнасцям, выяўленню прыгожага, узнёслага, трагічнага і камічнага ў жывым быцці народа. Сваім палемічным артыкулам Ластоўскі толькі зафіксаваў працэсы, якія пачаліся ў літаратуры раней. Бо калі адбывалася дыскусія, выйшлі ў свет паэтычныя зборнікі Купалы «Гусляр» і «Шляхам жыцця», друкаваліся раздзелы з «Новай зямлі» Коласа, была ўжо створана паэма «Яна і я» Купалы (апублікавана толькі ў 1920 г.) і здадзены ў друк «Вянок» Багдановіча. І хоць Ластоўскі, палемічна завастраючы свой артыкул, крытыкаваў радкі вершаў Купалы, Коласа і Багдановіча, хоць ён «абстраляў авангард» літаратуры, але на справе яго палеміка датычылася эпігонаў ад паэзіі.

І ўсё ж рэвалюцыйна-дэмакратычныя тэмы і матывы заставаліся актуальнымі ў ёй тады, на пачатку 20-х гадоў, а пазней — у Заходняй Беларусі. На яе дэмакратызме і грамадскім прызначэнні акцэнтаваў увагу Л. Гмырак. Праўда, ён быў не арыгінальным у крытыцы так званага «дэкадэнства». Гэта былі ходкія ідэі тагачаснай рускай журналістыкі, якая не заўважыла вытокаў «сярэбранага веку» рускай паэзіі ў пачатку нашага стагоддзя. Беларускі крытык быў знаёмы з рускай класічнай літаратурай, сачыў за творчасцю М. Горкага, рэвалюцыйнай і народніцкай публіцыстыкай, але не мог прафесійна ацаніць сімвалізм, які нават у Расіі быў «адкрыты» значна пазней.

Не паспеў ён сказаць сваё слова пра аўтара «Вянка», абмежаваўся агульным і недакладным вызначэннем: «Асобна ад другіх трэба паставіць паэта Максіма Багдановіча, каторы шмат нам даў тыповых пробак паэзіі «штукарства для штукарства». Як разумець гэтыя словы? Калі паэт «даў нам», то выходзіць, што пашырыў тэматыку і выяўленчыя магчымасці беларускага мастацкага слова. Але ж «мастацтва дзеля мастацтва» ў кантэксце палемічных арты-

кулаў Гмырака ацэньваецца як адыход ад магістральнага кірунку беларускай літаратуры. Ва ўсякім разе крытык прымаў Багдановіча як паэта нацыянальнага адраджэння, але тады яшчэ не знайшоў «ключа» да спасціжэння яго мастацкіх адкрыццяў.

У тым жа 8-м нумары «Нашай нівы» (21 лютага 1914 г.), дзе друкаваўся артыкул Л. Гмырака «Тарас Шаўчэнка», з'явілася рэцэнзія на «Вянок» М. Багдановіча пад назвай «Пясняр чыстай красы», падпісаная крыптонімам Г. Б. (Генрык Букавецкі — псеўданім Антона Луцкевіча, вядомага пад псеўданімам Антона Навіны). «Чытаць вершы Багдановіча,— пісаў крытык,— павінны толькі тыя, хто разумее музыку слова, чыя душа бачыць хараство ў чыстай паэзіі... «Вянок» — гэта праўдзівая пэрла ў беларускай паэзіі. Раўнаваць Багдановіча ні з кім не будзем: не затым, што няма лепшых за яго паэтаў (бо такія ёсць), але затым, што ён ні на каго не падобны. Яго душа, замкнёная ў сабе, жыве ў нейкім іншым, асаблівым свеце — у свеце чыстай красы і шчырай паэзіі, ды толькі праз яе глядзіць на наша жыццё — рэальнае, цяжкае, поўнае змагання і безупыннай працы. І як у летні гарачы дзень у крыштальна чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца наша цела, так асвяжае душу паэзія М. Багдановіча».

Беларуская літаратурная думка адкрыла для сябе простую праўду, паэзія «чыстай красы» — гэта не «дэкадэнства», не велікасвецкае «эстэцтва», а паглыбленне мастацтва ў сваю ўласную сутнасць. І чым «чысцейшае» мастацтва, тым большае яго ўздзеянне на чалавечую душу, а праз яе — на сацыяльную і духоўную культуру грамадства. У гэтым плане і формула Л. Гмырака «штукарства для штукарства» (пазней у форме «мастацтва дзеля мастацтва» яна стала ярлыком для ідэалагічнага адлучэння ад «прагрэсіўных традыцый») азначае рыцарскае служэнне паэта свайму мастацтву, а праз яго — грамадству, народу, нацыі і чалавецтву. Сёння, здаецца, мы гэта пачынаем разумець. І зусім невыпадкова,

што колішнія «дэкадэнты», «эстэты» і рыцары «чыстай красы» сталі любімымі народам пісьменнікамі і мастакамі.

Праўда, Л. Гмырак не быў гатовы для такіх высноў. Сацыяльная «ангажыраванасць» літаратуры гіпертрафіравалася ім за кошт яе мастацкай самакаштоўнасці.

Відавочныя мастацкія вартасці яго апавядання «Васілёва вяселле» (каларытныя сялянскія характары, жывапісная пластычнасць вобразаў) сведчылі, што аўтар мог стаць цікавым празаікам. Аднак зноў жа не паспеў развіць свой талент. Яму не хапала ведання жывой народнай мовы, на што звярнуў увагу З. Бядуля ў нататцы «Думаць і гаварыць трэба па-беларуску» («Наша ніва», 24 кастрычніка 1913 г.), падпісанай крыптонімам С. П. (Самуіл Плаўнік).

На маю думку, ёсць падставы лічыць Лявона Гмырака аўтарам яшчэ аднаго апавядання пад назвай «Хутара-ра, хутара», апублікаванага годам раней у альманаху «Маладая Беларусь» (1912) і падпісанага псеўданімам Лявон Хмуры. Ёсць шмат аргументаў на карысць гэтай здагадкі. У сваіх лістах ён абяцае пісаць для «Маладой Беларусі», але толькі пры ўмове, што яго творы будуць друкаваць кірыліцай (першая кніжка «Маладой Беларусі» ў 1912 годзе друкавалася часткова лацінікай, і якраз гэтым шрыфтам было набрана апавяданне Лявона Хмурага). Лексіка і стылістыка апавядання блізкія да вядомых тэкстаў Гмырака. Тэма апавядання — хутарызацыя, да яе адносяцца скептычна Гмырак і Лявон Хмуры. У «Нашай ніве», зборніках і іншых беларускіх выданнях гэты псеўданім пакуль што нікому не прыпісаны. Урэшце — семантычная тоеснасць псеўданімаў: паводле «Слоўніка беларускай мовы» Івана Насовіча (па ім пісьменнікі-пачаткоўцы вывучалі беларускую мову) «гмыра» альбо «гмура» азначае суровага, хмурага чалавека.

Урэшце, ёсць важкія аргументы на карысць таго, што Мечыслаў Бабровіч — аўтар шэрагу артыкулаў, апублікаваных у рускай віленскай «Вечерней газете» за 1912—

1915 гг. («Из белорусской жизни», «Из жизни белорусов. Новый курс», «Выступление белорусов-рабочих», «Борьба за родной язык», «Принципиальный спор», «М. Горький о белорусах»), падпісаных псеўданімам Бо — віч. Грамадска-палітычная «Вечерняя газета» ліберальнага кірунку (1912—1915) выкарыстоўвалася нашаніўцамі для прапаганды нацыянальнага адраджэння і беларускай літаратуры. Яна прыхільна ставілася да беларускага руху, выступала за самавызначэнне народаў Расіі, асвятляла рабочы і сялянскі рух на Беларусі і ў Літве, прапагандавала дзейнасць Беларускага музычна-драматычнага гуртка. 22—25 жніўня 1914 года газета змясціла чатыры вершы Янкі Купалы ў перакладзе В. Брусава на рускую мову («Як у лесе зацвіталі...», «На Купалле», «У начным царстве», «Адцвітанне»).

Што ж датычыцца названых вышэй «адраджэнскіх» артыкулаў, то іх тэматыка, аргументы, матывы, выяўленыя ў іх погляды — з арсеналу нашаніўскіх публікацый Л. Гмырака і ягоных лістоў у рэдакцыю «Нашай нівы». На жаль, псеўданім Бо-вічў канчаткова не расшыфраваны. У «Слоўніку беларускіх псеўданімаў» Янкі Саламевіча (с. 23, 168) пазначана, што крыптонімам Б — овіч падпісваў у канцы XIX стагоддзя свае публікацыі Адам Ягоравіч Багдановіч, а пазней падобнымі крыптонімамі (М. Б-віч, Максім Б — віч) падпісвала рэдакцыя «Нашай нівы» асобныя творы яго сына Максіма Багдановіча.

Адам Багдановіч не мог быць аўтарам артыкулаў пра беларускі нацыянальны рух у «Вечерней газете», бо гэта — не яго тэматыка, і супрацоўніцтва яго ў гэтым выданні не зафіксавана. Спадчына Максіма Багдановіча, у тым ліку яго архівы, грунтоўна даследаваліся, яго супрацоўніцтва ў віленскім рускім друку не зафіксавана. Малаверагодна таксама, каб паэт і грунтоўны даследчык М. Багдановіч быў аўтарам артыкулаў у жанры газетных палемічных рэпартажаў, напісаных на супастаўленні матэрыялаў «Нашай нівы» і варожых ёй польскіх нацыяналістычных выдан-

няў. Да таго ж ён не закранаў праблемы беларусізацыі каталіцкага касцёла на Беларусі, якая была адной з тэм артыкулаў Бо-віча.

Урэшце, яшчэ адна малаверагодная здагадка: аўтарам артыкулаў у «Вечерней газете» мог быць Барыс Даніловіч — старшыня Беларускага музычна-драматычнага гуртка, сакратар Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні. Аднак яго літаратурныя і публіцыстычныя выступленні нідзе не зафіксаваны. Такім чынам, найбольш верагодны аўтар артыкулаў у «Вечерней газете» М. Бабровіч (па руску — Бобровичъ). З яго ных лістоў у рэдакцыю «Нашай нівы» мы ведаем, што публіцыст шукаў кантактаў з прагрэсіўным рускім друкам і хацеў супрацоўнічаць у ім. Ёсць падставы ўключыць гэтыя публікацыі ў раздзел верагодных твораў Л. Гмырака. Аднак яго аўтарства можа быць даказана альбо абвергнута толькі на падставе архіўных матэрыялаў, якія яшчэ не знойдзены.

У заключэнне некалькі высноў. Спадчына Мечыслава Бабровіча адносіцца да самабытнай плыні крытычнага рэалізму ў беларускай нашаніўскай літаратуры. Паводле свайго светапогляду ён — рэвалюцыйны дэмакрат, сялянскі сацыяліст. Урэшце, паводле шкалы эстэтычных ацэнак творчасць яго адпавядае катэгорыям узнёслага і гераічнага. Сваім рыгарызмам і непрыманнем мастацтва як сферы свабоднай «гульні фантазіі» і эстэтычнай асалоды яго можна было б назваць беларускім Пісаравым. Падобна таму, як Сяргей Палуян (Ясяновіч) мог стаць нашым Бялінскім. Сёння, калі на Беларусі ўзнікае новая хваля адраджэнскага руху, а свядомая інтэлігенцыя вяртаецца да першакрыніц народнай культуры, літаратурная спадчына гэтага трагічнага пісьменніка блізкая нам па духу.

* * *

Ужо пасля таго, як рукапіс гэтай кніжкі быў падрыхтаваны да друку, пашэнціла адшукаць 145-ты нумар газеты «Беларусь» за 1920 год (Менск, 7 ліпеня), на які спасылаўся Я. Карскі ў сваёй фрагментарнай даведцы пра пісьменніка. Здаецца, ці не адзіны экземпляр гэтага выпуску газеты захаваўся ў фундаментальнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай рэспублікі. Копію адпаведнай старонкі даслаў мне Аляксей Каўка, за што шчыра дзякую нашаму калегу. Там, аказваецца, надрукаваны малавядомы артыкул М. Гарэцкага «Лявон Гмырак (1891—1915)». Гэты нарыс дадае некалькі штрыхоў да біяграфіі пісьменніка.

«Нарадзіўся ён,— паведамляе М. Гарэцкі,— 6 красавіка (на ст. стылю.— *У. К.*) 1891 году ў фальварку Пархвенаве Вялейскага павету Віленскай губерні. Бацька яго служыў ляснічым у паноў Слатвінскіх. Матка яго — полька з Варшавы. Пад яе ўплывам рос Гмырак і змалку быў вельмі рэлігійны. На адзінаццатым годзе жыцця паступіў ён у 1-ю віленскую гімназію. Спачатку вучыўся дужа добра і затым быў пераведзены ў бясплатны пансіён. Надта многа чытаў, асабліва па-польску; галава яго была забіта героямі Сянкевіча, і ён нават рабіў тады дзіцячую спробу пісаць аповесць — па-польску і з польскай гісторыі. З прыходам 1905-га году чад польскага патрыятызму ў яго значна слабее; хлопца захопліваюць ідэі сацыялізму, ён заводзіць бібліятэчку з забароненых кніжак, пішыць у вучнёўскі часопіс. Калі ж рэвалюцыя была знішчана і царскі ўрад не даравáў нават дзецям, на Гмырака таксама нехта данёс, да яго прыйшлі з рэвізіяй, знайшлі забароненыя кніжкі і павялі ў турму. Дзякуючы малалецтву, суд зменшыў кару да 6 месяцаў астрогу, якія Лявон і адседзеў у Вільні ж. Маці яго ў гэты час захварэла на сухоты.

Выйшаўшы на волю, Гмырак прыехаў дамоў, дзе тро-

ху чытаў, троху вучыў дзяцей у суседа-пана, а найбо-лей сядзеў, заціснуўшы вусны, і слухаў ад бацькі роз-ныя дакоры. У 1908 годзе яму ўдалося паступіць у прыватную тэхнічна-прамысловую школу ў Варшаве, якую скончыў у 1912 годзе. У Варшаве Гмырак пазнаёміўся з беларускім рухам і сам прымкнуў да яго. Гэта была новая непрыемнасць для бацькоў, і на гэты раз абое ішлі ў адно проціў няўдалага сына. Шмат было прыкрас-цяў. Але сын незвычайна любіў усё роднае, любіў родны народ. Чытае, напрыклад, меншая сястра аб расійскім «прянике» і думае, што гэта беларускі пранік да бялізны,— Лявон з радасцю крычыць: «Вось беларускае дзіця». Паставіў яго бацька (тады ён ужо меў свой фальварачак ля Пархвенава) даглядаць работнікаў, а Лявон,пабачыўшы, як адной старой бабульцы цяжка цягаць кошыкі з буль-баю, сам працуе за яе цэлы дзень, забыўшыся на сваю ролю прыганятага».

Восенню 1912 года, паведамляе далей М. Гарэцкі, Ля-вона забралі ў салдаты, некалькі месяцаў служыў ён у Маскве ў грэнадзёрах, але пазней быў адпушчаны па льгоце. Вярнуўшыся ў Вільню, працаваў па сваёй спе-цыяльнасці, працаваў і як просты работнік. Самаахвярна супрацоўнічаў у беларускім друку, пакінуў шмат артыку-лаў, «пісаў ён і папулярныя рэчы ў месячніку «Лучынка», даў спробу чыста народнага апавядання. Але ўсё гэта, на думку Гарэцкага, «самая нязначная частка таго, на што можна было спадзявацца».

Урэшце, М. Гарэцкі расказаў пра апошні шлях мала-дога пісьменніка: «Вайна 1914 года захапіла і Лявона. Блізка году прабыў ён у апалчэнскай дружыне ў Коўне, а пасля, як прапаршчык пайшоў на пазіцыю, і ў баёх пад крэпасцю загінуў 30 чэрвеня 1915 году, здабыўшы за адвагу Георгіеўскі крыж».

*Уладзімір Конан*

# ВАСІЛЁВА ВЯСЕЛЛЕ

## I

У сяле Ліпоўках аўтарнае свята бывае на Уздвіжанне. Сёлета дзень быў надзіва цёплы — сонейка грэла так, як рэдка грэе ў сярэдзіне верасня. На полі такжа нішто сабе дабро вырасла: жыты былі кругом добрыя, зжалі, звезлі і на лета засеялі ўсё ў пару — ураджай бульбы быў надта добры, ярына, праўда, выйшла дрэнная, але ўсё ж такі, агулам кажучы, даўно ўжо гэткага году не было. Бульбу ўжо ўсюды ўпарадкавалі, малаціць яшчэ не пачыналі і, карыстаючы з свабоднага часу і добрага надвор'я, падзякаваць Богу за яго ласку, з'ехалася ў Ліпоўкі з усёй ваколіцы гэтулькі народу, як рэдка калі бывала. Увесь пляц перад цэрквай, дзе ў будныя дні скубуць нічыю травічку авечкі і гуляюць дзеці, цяпер быў застаўлен вазамі так, што і прайсці нялёгка. Вазамі былі застаўлены ўсе вуліцы сяла, у кожным дзядзінцы стаяла іх з пяток і шмат яшчэ, не стоўпіўшыся ў сяле, памясцілася на полі. Надта многа навезлі і ўсялякага тавару, як хатняй работы, так і крамнага, адным словам, кірмаш маніўся быць што называецца. Але пакуль што на вуліцы дайжа саўсім не

відаць людзей. Толькі дзе-нідзе ляжыць хто-небудзь на калёсах і пілнуе свайго возу і некалькіх суседніх. Тавар увесь пахаваны па вазах і шалашах. Рэдка пройдзе хто-небудзь у той бок сяла, дзе на ўзгорку стаіць цэрква. Увесь народ там. Хаця пабудаваная пятнаццаць гадоў таму назад, на месцы старой драўлянай, пекная мураваная цэрква лічыцца найбольшай ва ўсёй ваколіцы, усё ж такі і ў ёй увесь народ не тоўпіцца, і шмат яго стаіць без шапак і моляцца на цвінтары[1]. Хоць і надта цёплы выдаўся дзень, усё ж такі шмат хто з прыезджых, маючы на ўвазе тое, што ўжо восень і мо, пакуль вернуцца дамоў, прыцісне мароз, адзеліся ў кажухі. Шмат відаць сярмяг, сярмяжных кулькоў і лапцей, але гэта носяць найболей немаладыя, барадатыя сяляне, моладзь жа фарсіць у намазаных у каго дзёгцем, у каго ваксай ботах, у крамных колерных кашулях і крамных куртках і штанах, дзе-нідзе пападаюцца і франты, адзягнуўшыяся саўсім па-панску. Яшчэ фарсісцей адзягнуўшыся бабы: там у кажухах толькі старыя, а дзяўчаты і нават маладзіцы надта выстраіўшыся.

Душна ў цэркві і цесна, што яблыку недзе ўпасці. Пекна пяе хор вучанікоў Ліпоўскай царкоўна-парахіяльнай школкі[2]; шчыра моляцца сяляне свайму грознаму Богу, каторы пасылае

на зямлю і добрае і благое, і ўроду і няўроду, ад каторага залежыць усё жыццё; дзякуюць за тое, што зміласаваўся і адпусціўся сёлета, і замальваюць, каб не надта на іх сердаваў надалей.

У кутку ля парога стаяла бедна адзетая маладая гожая дзяўчына і надта шчыра са слязамі малілася. Пачула яна ад людзей, што Васіль Булай з суседняй вёскі, каторы, як вярнуўся летась з салдатаў і пабачыўся з ёй на вечарынцы ў іхнім сяле, адразу звярнуў на яе ўвагу і кляўся з той пары не раз, што як толькі трошку паправіцца з гаспадаркай, дык яе абавязкова возьме,— пачула яна, што Васіль сватаецца да дачкі старога Мірона Рудзькі. Не паверыла адразу дзяўчына, але чутка гэта неяк не змаўкала, і ўсе аб гэтым гаварылі, завідуючы Васілю і кажучы, што ён праз такую жаніцьбу добра паправіць сваё харацкае[3] жыццё. Прытым жа і Васіль, каторы перад тым кожную нядзелю быў у царкві і, варочаючыся адтуль, заўсёды заходзіў у іхнюю хату, цяпер даўно не паказваецца,— чула сэрца дзяўчыніна нядобрае. Гаворыць яна малазразумелыя словы пацераў і, побач з тым, звяртаецца да Бога па-свойму з гарачай просьбай, каб не загубіў ён яе маладога жыцця, каб не кінуў яе Васіль, без каторага надта цяжка будзе жыць, каб злітаваўся Бог над ёй. Ахвяруецца

яна паставіць вялікую свечку перад абразам Спаса і двох падсвінкаў ды тры аршыны кросен занесці бацюшку на Каляды — і неяк лягчэй на душы ў яе робіцца, можа, ткі Бог дасць, што і не збудзецца дасужая гаворка суседаў і не пакіне яе Васіль.

Служба кончылася. Народ паваліў з цэрквы. Дзяўчына абцёрла слёзы, пайшла адна з першых і стала прыглядацца на выходзячых з цэрквы людзей, каб ткі пабачыць Васіля. Не можа быць, каб ён, жывучы тры вярсты ад сяла, сягоння не быў у цэркві, трэба, канечна, пабачыцца з ім і спытацца, ці праўду людзі кажуць.

Во і Васіль. Высокі ён, чорнавалосы і ўдалы малец, шмат дзевак ён, як кажуць, скрыўдзіў, крута і да яе браўся, але ткі яна неяк не далася, і дзякуй Богу, а то што б было, калі і праўда, што маецца браць ён Міронаву Марылю. Сэрца яе закалацілася. Васіль яе не ўбачыў і шпарка прайшоў ля яе, спяшаючыся на рынак. Дзяўчына пайшла за ім і ўжо пасярод вазоў дагнала.

— Здароў, Васіль, што ж ты ўжо і не пазнаеш мяне? — дрыжачым голасам пачала яна.— Прайшоў міма і слова не сказаў!

Малец, відаць, надта не рад быў сустрэчы.

— А, Наста, здравія жалаю (ужо каля года прайшло, як вярнуўся ён з салдатаў,—

адразу гаварыў усё па-расейску, цяпер ужо забыўся, але ўсё ж такі пара да пары ў гаворцы яго саўсім інстынктыўна адгукаецца салдацкая «абразованнасць»).— Ну, што скажаш?

— Васілёк! Зойдзем, міленькі, да нас, у хаце шмат народу будзе, дык пойдзем у пуню, трэба з табой пагаварыць, а тут усюды людзі, усё пачуюць, будуць смяяцца.

— Добра,— неахвотна згадзіўся малец, бо адмовіцца не было-ткі як.

Калі яны праходзілі па рынку, то рынак ужо быў перапоўнен народам. Людзі снавалі ва ўсе староны, падходзілі да вазоў і будак, дзе гандляры паспелі ўжо разлажыць тавар, і дапытваліся цэн. Жаласна пялі сядзячыя каля цэрквы старцы, дзеці пробавалі, ці добра граюць толькі што купленыя гармонікі і петушкі. Крычалі, заахвочваючы да сябе пакупцоў, гандляры і вадзіліся аб цану з пакупцамі. А там гурток хлапцоў, сабраўшыся каля гарманіста, хорам пяяў песні, там брыдка лаяліся і во зара ўжо за чубы схопяцца. Усё гэта злівалася ў адзін кірмашовы гул, добра вядомы ўсякаму, хто жыве ў Беларусі.

— Ай, ай, Васіль! Васпаватую, лупатую браць будзеш, а гэтую красуню зводзіш дарма. Дзе ў цябе сумленне ў гада! — паківаўшы галавой, сказаў стары селянін у кажуху

і лапцях, калі яны ля яго праходзілі. Васіль пачырванеў, як бурак, і не адказаў нічога. Наста, прыкмеціўшы гэта, ледзьве ўтрымалася, каб не расплакацца. У канцы дабраліся яны і да пуні. Увайшоўшы там, Наста запёрла дзверы, агледзелася, што кругом няма нікога, і тады, ужо не змогшы ўтрымацца, расплакалася. Зморшчыўся Васіль — не любіў ён гэтага — нашто, усё роўна не пераменіцца нічога, і зразу хацеў пакінуць дзяўчыну і ўцячы на сяло, але пасля неяк шкада зрабілася.

— Настачка, галубка, не плач. Пакінь, сястрычка! — Васіль, абняўшы дзяўчыну, гладзіў яе па галаве. Яна прытулілася да яго, уся дрыжэла і ціха плакала.

— Ты ж у мяне дзяўчынка разумная, ведаеш жыццё і тое, што надта паганае яно ў нашага брата. Во і ў майго бацькі зямлі пяць дзесяцін і чатыры сыны: старшы ўжо памёр, пакінуў нам карміць жонку і двое рабят, я толькі летась вярнуўся з салдатаў. Максім цяпер служыць, і меншы, Юрка, у двор пастухом наняўся. Маці саўсім старая, хворая, многа працаваць не можа, братава гэтаксама не ўпраўляецца, во чуць я вярнуўся з салдатаў — зараз жа на мяне населі — жаніся. Я ані туды тое, за дзеўкамі цягацца я любіў і, што грэх таіць, нашкодзіў тутка шмат, то жаніцца і не рупіўся — бацькі сваё, а я сваё, і ані. Во спаткаўся

я з табой. Упадабаў цябе. Перш папрабаваў, каб па-сваему ўзяцца,— бачу — не выходзіць нешта. Мяне злосць узяла, яшчэ болей захацелася дабіцца гэткай мэты — і сам не агледзеўся, як ткі саўсім укляпаўся ў цябе... во як. Вер. Настачка, праўду кажу. Праўда і тое, што хацеў браць цябе. Да-душы хацеў — і ўзяў бы. У пільніцу, сама разумееш, што няма як, а ўвосень узяў бы. Аж тут выйшла не гэтак.

— Міронава Марыся? — ціха спыталася Наста.

— Яна. Бацька яе першы багач у воласці. Наезны ён. Прыехаў сюды, купіў фальварак і яшчэ грошы нажыў. Дзяцей у яго — сын і дачка — ды і то Апанас п'яніца, лодыр, а Марыля працавітая, але брыдкая, як зданне, лупатая, воспаватая. Усё ж такі для грошы шмат хто ўзяў бы яе, але за харака бацька не хацеў аддаваць, хацеў, каб за якога пісара, ураднiка ці вучыцеля. А гэткія не пападаліся. Во і сядзіць Марыся ў дзеўках, аж даседзелася. У іхнюю вёску на пабыўку прыехаў гвардзейскі гусар-вахмістр, дванаццаць гадоў ужо служыць і шмат «абразованасці» мае, прыгожы дужа, во ён і звёў сваім «галанцерным абрашчэннем» зусім дзеўку з пуці. Тут ужо няма што думаць аб пісарах і вучыцелях. Добры і харак. «За каго з іх ахватней пойдзеш? — пытае стары (любіць ён яе дужа).— Усякі на

той пасаг паквапіцца, выбірай». Сказала, што найахватней за мяне, бо ткі бачыш, і я сабе хлапец нішто. Во Мірон, пабачыўшы мяне, і кажа: так і так, братка. Дачка ў мяне лупатая, васпаватая, з бахуром[4]. Але, акром бахура, пасагу будзе трыста рублёў, дзве каровы, усялякага дабра шмат і за свае грошы такое вяселле выпраўлю, якога не бывала тут ніколі. Ну, што, братка, калі надакучыла мякіну есці, надумляйся. Ну, а цяпер скажы ты, што мне тут было рабіць. Ты ж не дурная.

Наста ўздыхнула і не адказала нічога. Васіль трошку памаўчаў і далей цягнуў:

— Сама ведаеш, што ад гэткага пасагу добра можна паправіцца. Во ў хаце маёй вецер, як у полі, свішча, шаляваць яе трэба, печ паправіць, снасці ўсялякай прыкупіць,— а дагэтуль усё выходзіла няўпраўка. За трыста рублёў ого як агледзецца можна, ды яшчэ і зямлі прыкупіць, цяпер праз банк прадаецца фальварак. Астапкава, во дзесяціну-другую я там і купіў бы. А гэта яшчэ не усё: дзве каровы і ўсякага дабра, кросен, гаршкоў навязе Марыля, ой, ой, колькі!.. Ну скажы-ткі, няўжо ж усё гэта адкінуць?

— А што са мной будзе, Васілька? — праз слёзы ледзьве магла азвацца Наста.

— З табой, сястрычка міленькая?.. Ці ж лёгка мне браць непрыгожую жонку! Падумай

3—1747

сама. Ці ж лёгка мне цябе кідаць? А усё ж такі трэба, нічога не зробіш. Эх, Наста, Наста! — голас Васіля задрыжэў,— і чаму ткі гэтага пасагу ў цябе няма, чаму ты гэткая бедная? Як ні думай, нельга мне цябе браць. Эх, гора ты маё! Дзякуй Богу,— казаў далей Васіль,— што ткі ты мне волі не дала. Яшчэ горай тады б было. Ну, а так што? Пасядзіш трошкі ў дзеўках, а там і замуж выйдзеш. Прыгожа ты дужа. Во старшыноў сын Мікіта маніцца, чуў я, слаць да цябе сватоў. Што ж? Ён малец нішто, далікатны, унцера ў салдатах заслужыў і не бедзен! Добра табе будзе за ім, лепей, чым было б за мной, хараком гаротным.— У Васіля паказаліся слёзы. Цяжка ўздыхнула Наста. Надта шкада было Васіля, але што ж зрабіць! Так усё зладжылася, што іначай і быць не можа. Гэтак, відаць, ужо пастанавіў Бог, і нічога не зробіш. Шмат гора перанесла яна на сваім вяку, не мінаваць і гэтага.

— Эх ты, доля мая, доля! Не бачыла я дабра, бадай што, і не ўбачу. Прыйдзецца мне быць Мікітавай ці чыёй жонкай і звекаваць век з нямілым.

І Наста трошку супакоілася. З тупой пакорнасцю пераносіла яна дагэтуль усё гора, гэтак жа яна гатова была ўжо спаткаць і гэту бяду. Некалькі часу маўчалі. Васіль, відаць, абдумваў нешта.

— Эх, Наста! — крыкнуў ён. — Ды пропадам прападзі Марыля і ўсё яе багацце. Не пакінуў [redacted] цябе, мая зязюлечка! У горад паедзем — жывуць жа там людзі, і іншыя нішто сабе прыстроіліся, і зажывем там... ну, а бацькі хай упраўляюцца як хочуць.

— Без толку ты кажаш, Васілёк, — з горкай усмешкай адказала Наста. — Ну, што ты рабіць будзеш у горадзе. Ані граматы ты не знаеш, ані рамясла ніякага, ну, куды ты дзенешся? Мала, думаеш, такіх гаруноў, як ты, там жыве. Прытым жа і работы цяпер па гарадах няма, бо ўжо болей года шмат хто [redacted] іх вярнуўся, і ў нашым сяле вярнулася з пяток мальцаў, фабрыкі, кажуць, усе закрываюцца, неяк яны гэта па-вучонаму называюць. Як гэта... Ага! «Крызіс», кажуць. І майстры яны, [redacted] ўсё ж такі вярнуліся. Ну, [redacted] бацькоў як кінеш? Юрка яшчэ не работнік, Максім толькі праз год з салдатаў вернецца, бацька стары... Што ж, жабраваць яму, ці што? Ён жа цябе выгадаваў! Васілёк, даражэнькі! Бяры мяне так. І ты да гора прывучоны і я. Будзем бедаваць разам. Працаваць буду рук не пакладаючы, шанаваць і слухаць цябе ва ўсім, ніколі ніякага наракання не пачуеш ты ад мяне... І пражывём у вёсцы век. Ну што? Добра?

Але Васіль, відаць, ізноў раздумаў і жалеў, што так, не абдумаўшы, ахвяраваўся браць Насту...

— Праўду кажаш,— цягнуў паволі ён.— У горад цяпер няма як ехаць, ну а харакавацъ у вёсцы надакучыла — годзе ўжо!.. Марылю, і ўсё тут! Ну, бывай здарова, загаварыўся з табой я...

І, не чакаючы ўжо, пакуль Наста збярэцца што-небудзь адказаць, Васіль бягом уцёк з пуні.

— Ох-ох-ох... Госпадзі! — загаласіла Наста. Уваскрэсшая было на мінуту надзея ізноў пакінула яе, і бедная дзяўчына чула, што сілы яе пакідаюць, што не вытрывае.

— А, ты тут! — пачула яна голас раззлаванага бацькі.— Шукаю я па ўсім мястэчку, а яна ў пуні запёрлася. Чаго разраўлася? Васіль не бярэць? Дык чорт з ім. Вялікае шчасце, падумаеш! Харака-лапатніка не бачыла! Лепшыя знойдуцца! Жыва ў хату ідзі, есці давай, ахрап'е[5] насеч трэба, і ўсё такое... Ну ідзі.

## II

Не ашукаў стары Мірон Рудзька Васіля. На дзень перад вяселлем усе чыста грошы як ёсць даў яму і кароў прыгнаў. Вяселле такжа стары справіў на славу.

Захацелася яму пафарсіць і пахваліцца сваім багацтвам, накупіў ён усякай усячаны; водак і харчоў гэтулькі, што ўсе госці не надзіві-

ліся. І музыкаў з мястэчка паклікаў стары, і багацей важных пастараўся. Былі тут і дзяк (бацюшка трымаўся панам, з сялянамі не сябраваў, і папрасіць яго Мірон не адважыўся), і вучыцель прыходскага вучылішча, і сядзелец, і пісар, і ўраднік, і старшына — усе з сем'ямі. Паглядзець на небывала багатае вяселле прыйшла ўся вёска і шмат моладзі з другіх вёсак. Усім быў рад Мірон і ўсе, пацясніўшыся, стоўпіліся ў ягонай вялікай хаце. Калыску з бахурам, каб не было прыкрага ўспаміну, аднеслі ў суседнюю хату да кумы, дзе даглядаць рабёнка дакляравалася старая кутніца Параска. Сама Марыля была надта рада. Рада была яна, што выходзіць замуж хоць і за беднага, але прыгожага мальца, рада была, што пакіне бацькаву хату, дзе маці заўсёды сварылася і прыпамінала ёй ейны грэх. Бацька, дык той, крэпка злупцаваўшы яе колькі разоў лейцамі, пасля адпусціўся і дараваў. Любіў ён надта сваю няўдалую дачку,— прытым жа і не дзіва, што сышла яна з дарогі — надта ж ткі прыгожы быў гэты гусар... Як гэта ён і ўвагу сваю на яе звярнуў? Памятаючы аб гэтым, Мірон не злаваў ужо на дачку і ад душы быў рад, што бярэ яе хоць і бедны, але працавіты малец і не п'яніца.

Васіль, адзеты ў швагравы гарнітур (свайго ён не меў, а Мірон не хацеў, каб на вяселлі

зяць выглядаў нефарсіста), каторы на ім ляжаў мехавата, з раніцы ўжо паспеў са шваграм Апанасам добра напіцца і затое мала неяк думаў над тым, што тут робіцца, што бярэ ён не каго іншага, а лупатую Марылю,— і спачатку трымаўся бадзёра.

Калі ўжо іх павянчалі і, варочаючыся з царквы, пасадзілі на возе побач,— глянуў ён на Марылю, прыгледзеўся лепей, і надта неяк праціўна яна стала — хмель саўсім вылецеў з яго галавы, уцяміў малец, што ткі ўсё ўжо кончана, што ён Марылін муж, і стала яму цяжка на душы.

Прыехалі. Расселіся за сталы. Ізноў маладых пасадзілі побач. Бледны, як нябожчык, сядзеў Васіль. Усё ў яго скакала перад вачамі, і сам ён не разбіраўся добра, у сне ці наяве робіцца гэта. А тым часам госці ўжо добра закусілі, выпілі. «Горка, горка! — хрыплым голасам крычыць ураднік.— Ну, што ж ты, Васіль! Кажу «горка», ведаеш, што трэба рабіць? Цалуй жонку! Жыва!» — «Гэтак, гэтак, цалуйся са сваёй красуняй!» — падхапілі п'яныя хлопцы. Усе яны завідавалі Васілю, што гэткі пасаг захапіў ён, і рады былі зрабіць яму прыкрасць. Няма што. Прыйшлося пацалавацца. Увесь задрыжаў Васіль, дакрануўшыся да Марылінай лупы, надта прыкра яму стала. Яшчэ не раз прыйшлося яму ў гэты вечар цалавацца, бо

ўсё крычалі «горка», але пасля ён неяк прывык і рабіў гэта машынальна, а першы раз надта прыкра было.

Кончылі вячэраць. Музыкі зайгралі танец. Старшыноў Мікіта свіснуў, топнуў і пусціўся танцаваць пасярод хаты. Усе кругом абступілі і прыглядаліся. «Шчаслівы Мікіта,— думаў Васіль,— пасватаўся да Насты, тая згадзілася пайсці, дык праз тыдні тры будзе гуляць сваё вяселле; добрую, працавітую жонку нажыве, ды і прыгожую, а я... Эх, гора ты маё». Слёзы выступілі на вачах Васіля, стараўся ён іх затрымаць, але не мог. Праўда, у таўкатні і гомане трудна было і прыкмеціць гэта, але ўсё ж такі Наталка, Кірылы храмога дачка (бядовая дзеўка, як яе звалі ў вёсцы, бо надта востры мела язык), была ў горадзе, адкуль нядаўна вярнулася, а аб гарадскім жыцці яе шмат чаго казалі,— Наталка пабачыла гэта. Нейкая злосная думка блеснула ёй у галаве, глянула яна на Васіля і аж кусок языка высунула яму напаказ ды давай зара шаптацца ў куце з дзеўкамі. Тым, відаць, словы яе прыйшліся даўпадобы, бо Марылю не любілі ўсе і шкадавалі, што гэткі ўдалы хлопец папаўся ёй.

Змардаваныя музыкі перасталі іграць. Танцоры разышліся па кутках трошку адпачыць, каб пасля ізноў пачаць гульню. «А мой жа ты

сакалок, плакаў, ці што — вочкі ў цябе чырвоныя,— быццам шкадуючы, прыязна азвалася падгавораная Наталкай старая Агапка,— чаго ж ты, сакалок? Жоначку ж ты ўзяў багатую. Цешыцца павінен. Ды яшчэ і тое скажу, што спакой ты будзеш мець. Не дарма кажа прыказка: «Купляй кабылу гарбатую, а жонку бяры лупатую, дык ніхто не звядзець». Мірон і Міроніха, не чакаючы нічога такога, разінуліся і глядзяць дурнямі, адкуль што ўзялося? У Васіля са злосці і жалю ізноў паказаліся слёзы. «Што ж ты, мой каток, напраўду плачаш. А я пажартавала толькі, ды і то дзеўкі падгаварылі»,— азвалася Агапка, каторай ужо шкада зрабілася Васіля. Але Наталка не супакоілася. Змеркаваўшы, што ўжо пара другую штуку паказаць, міргнула яна дзеўкам, і ўсе разам запяялі:

А як жа Васілёчку не плакаць,
Калі побач сядзіць Марыля, як лапаць...

— Ха-ха-ха, ой, братцы, памру,— аж качаўся са смеху ўраднік. Смяяліся ўсе. Марыля чула, што нешта як бы хапае за горла яе і душыць. Сурова глядзеў на яе Васіль, і яна ўся траслася ад гэтага прыглядання. «Ну што, жоначка мілая,— казаў вачамі ён,— га, як песня падабалася?.. Праўду, чыстую праўду пяюць яны. Як лапаць ты, брыда праклятая, дзеўка лядачая. Гарбатай кабылы і лупа-

тай жонкі ніхто не зводзіць, кажа прыказка, а во цябе ўсё ж такі звялі. Лапаць ты праўдзівы, а век мне з табой жыць трэба. У сабакі воч пазычыўшы хіба, пакажуся я з табой у людзі! А не дзе дзенешся? Паказацца прыйдзецца, і не раз... І нашто ты жыццё маё пагубіла? Нашто мне папярок дарогі станула? Не скусілі б мяне твае грошы, браў бы я Насту, гараваў бы, але шчаслівейшы б быў куды! Свет ты мне заступіла... Ну, добра, гадзіна. Папомніш жа ты! Катаргай табе стане жыццё за мной!.. Праклянеш ты не раз тую хвіліну, калі на мяне пакваліласяі...»

Усе гэтыя мыслі мужа ўгадвала Марыля, і страшна ёй рабілася — надта нярадасна ўжо выглядала жыццё за глыбока ненавідзячым яе мужам, нічога добрага ў будучыні ждаць было нельга, а разам з тым і жаль браў: «За што? Па добрай жа ахвоце бярэш ты мяне,— не ўпадабаў ты лупатай, васпаватай, «лядачай дзеўкі» Марылі — дык нашто ж жаніўся? Браў бы сабе Насту, любіўся з ёй, ды еў бы без хлеба — ніхто ж не бараніў. Не ткі захацелася багацця, ну а багацце дарма не прыходзе. Ды чым жа я вінавата? Ой, Божухна!» І надта сумна стала Марылі, і не вытрымала яна... «А во і Марыля плача»,— загаманілі кругом. Ну і вяселле — чыстыя хаўтуры. Тым часам Васіль наліваў сабе ў шклянку гарэлкі і, не

адрываючыся, піў шклянку за шклянкай. Высмактаў ён іх са тры, тады закачаўся...

— Не вытрываю. Годзе ўжо жыць. Надакучыла. Побач мяне сядзіць жонка, як лапаць. Згінь, прападзі ты са сваім багаццем... Пайду ўтаплюся, і ўсё тут...— блытаючыся ў славах, казаў ён і, ківаючыся, пайшоў з хаты, але на парозе спаткнуўся і паваліўся. Зараз жа Мірон з Сымонам паднялі яго, адняслі ў кут, дзе і палажылі яго на ложку, і малады зараз жа заснуў.

— Госцікі дарагія, не турбуйцеся! — звярнуўся гаспадар да ўсіх.— Васіль, ведама, напіўся, п'яны, дык і мелець без толку. Гуляйце, скачыце... Эй, музыкі — «Лявоніху»!

Але гульня, як ні стараўся ажывіць яе Мірон, ніяк не клеілася — усе аставаліся пад уражаннем разыграўшайся прад імі драмы і нават дамоў сталі разыходзіцца раней, чым заўсягды на вяселлях бывае. Разыходзячыся, гаварылі, што няважнае хіба будзе жыццё Васіля з Марыляй, і паківалі галавой.

# ЯШЧЭ РАЗ АБ СПЛАЧВАННІ ДОЎГУ

Расійскія народнікі сямідзесятых гадоў лічылі, што яны маюць перад народам вялікі, неаплачаны доўг, каторы трэба вярнуць. «Исторические письма» Лаўрова[1] сфармулявалі гэтую думку, гаворачы, што ўсе багацейшыя станы праз цэлыя вякі карысталі з працы народу, самі прадукцыйна не працуючы,— забіралі большую частку здабытага мазалістымі рукамі дабра; бралі вялікі падатак крыві, беручы шмат народу ў салдаты, зрабілі ўрэшце ўвесь народ сваім нявольнікам, сурова панавалі над ім, здзекуючыся і саўсем не лічачыся з яго пачуццём уласнага гонару. Рабілі гэта вышэйшыя станы, саўсем не задумваючыся над тым, ці маюць яны на гэта маральнае права. Але во і ў гэтых станах з'явіліся людзі з больш адзыўчывай душой, з чуткім сумленнем; задумаліся яны над тым, ці справядліва гэта, ці павінна так быць. І зразумеўшы, што так быць не павінна, адчулі, колькі зла іх бацькі зрабілі народу, колькі ён ад іх крыўды перанёс.

Гэта крыўда і ёсць той вялікі доўг, каторы яны павінны вярнуць, пасвяціўшы ўсе свае сілы працы дзеля народнага дабра. Доўг гэ-

ты ляжыць не толькі як плата[2] за грахі бацькоў. І яны самі ўжо скарысталі з народнай працы: яны паканчалі розныя школы, прачыталі шмат разумных кніг. А хто ж плаціць грошы за ўтрыманне школ, калі не народ? Выгадавалі іх бацькі за якія грошы? За грошы, здабытыя эксплуатацыяй народу.

Шмат гадоў прайшло з той пары. Сямідзесятнікі, нягледзячы на ўсе геройскія натугі, на ўсю маральную сваю чысціню, на ўсю інтэлектуальную сумленнасць, не змаглі дабіцца сваёй мэты. Аб прынцыпе сплачвання доўгу, на каторы сямідзесятнікі часта спасылаліся, іх патомкі перасталі гаварыць. Гэты прынцып стаўся элементарнай, усім вядомай праўдай, каторай адны з энтузіязмам трымаліся, другія адкідалі, але ўсе гэта ведалі і спамінаць ім не трэба было.

Бывалі наконт гэтага[3] і кур'ёзы. Пару гадоў таму назад гр. Бобрынскі[4] на сходзе[5] мінскіх нацыяналістаў[6] клікаў іх сплачываць доўг беларускаму народу. Які гэта доўг прызнаваў граф і як яго мінскія нацыяналісты мяркуюць сплачываць, мы не ведаем. Ведаем толькі, што сам Бобрынскі багач, памешчык Тульскай губерні. Яго вясковыя суседзі, куды бліжэйшыя яму па крыві, чым мінскія беларусы, колькі гадоў таму назад,— відаць, мала рахуючы на тое, што граф прыпомніць аб сваім доўгу,— пра-

бавалі вярнуць яго «сваімі стрэдствіямі», але даўжнік паклікаў ваенную помач, і крэдытораў высеклі, як сідараву казу. Вось як сплачвае доўг граф на практыцы, а на словах — глядзі куды махнуў.

Успомніўшы гэта, як кур'ёз, прыгледзімся да дужа арыгінальнай фармуліроўкі сплачвання доўгу, якую даў нам Юрый Верашчака ў № 26—27 «Нашай нівы». Ягамосць Юры Верашчака прызнае факт, што беларускія дзяйцы маюць доўг... перад прыродай Беларусі. Родная наша прырода сваёй велічавай прыгажосцю будзіць у кожнай адзыўчывай душы гэтулькі пекных пераржыванняў — ахвоты да таго, каб самому стацца лепшым і пхнуць да гэтага другіх, што чалавек за гэта мае перад ёй вялікі доўг. Значыць, гэты доўг маюць і нашы паэты і белетрысты, і яны павінны пачаць сплачваць яго, даючы пекныя, праўдзівыя малюнкі гэтай прыроды. Ягамосць Верашчака знаходзіць, што дагэтуль яны гэтага доўгу і ў малой нават частцы не сплацілі, бо яны, калі спаміналі яго, то казалі «невясёлая старонка наша Беларусь», «Край наш бедны, край наш родны — гразь, балота ды пясок»[7] і г. д.

Гэтая фармуліроўка сплачвання доўгу пераносіць справу ў саўсем другую плоскасць — падыходзіць да яе саўсем не з таго боку[8], з якога падышоў Лаўроў і расейскія сямідзесятнікі.

Думкі ягамосця Верашчакі, трэба гэта прызнаць, дужа арыгінальныя, і калі іх акуратна выразумець, зусім справядлівыя. Я абедзвюма рукамі гатоў падпісацца пад тым, што багата душы дала прырода нашай бацькаўшчыне, што за гэта мы даўжнікі яе, гэты доўг мы павінны адчуваць і колькі хопіць сіл старацца звярнуць яго. Але разам з гэтым я лічу саўсем справядліва і той бок сплачвання доўгу, аб якім казаў Лаўроў. Калі гэтак, то, значыцца, поўная фармуліроўка гэтай справы павінна абхопліваць абедзве формулы. Аб гэтым ягамосць Верашчака не абгаварыўся і даў праз тое права думаць, што прызнае толькі доўг перад прыродай, а адракаецца ад прызнання яго перад людзьмі. Бадай што, ягамосць Верашчака свядома справы гэтай так не ставіў і толькі няясна выразіўся, праз што даў повад да ўсіх гэтых думак.

Далей мы ведаем, што чуць не ўсе беларускія пісьменнікі і дзейцы выйшлі з народу, што іхнія дзяды адбывалі прыгон і пераносілі ўсялякі здзек,— значыць, яны скарэй крэдытары, чым даўжнікі. З другога боку, яны ўсё ж такі зрабіліся сілай, маюць у большай ці меншай меры дар «глаголам жэч сэрцы людзей»[9],— і зусім натуральна будзе, калі яны пачуюць патрэбу, а нават і прызнаюць сваёй павіннасцю тое, каб народ падняць да таго, да чаго яны

самі дайшлі. Прытым жа хоць і не багата іх, а ўсё ж такі ўжо ёсць, [redacted] ў будучыні мо і болей будзе такіх людзей, каторыя па бацьках дасталі не аплачаныя даўгі, [redacted] нават і самі за сваё гадаванне і навукі, вялікія ці малыя, але ўсё ж такі даўгі маюць.

Прытым важна нам не гэтулькі сама формула, колькі вывады з яе, не гэтулькі разгадка пытання, ёсць за намі доўг ці не, колькі канкрэтная задача працаваць для народнага дабра. Тых, хто не прызнае гэтай формулы, можна падазраваць, што яны не прызнаюць і яе вывадаў; а калі гэтак, раз зайшла гаворка аб сплачванні доўгу, нельга абысці маўчаннем і гэтага боку справы.

Цяпер паглядзім, як сплачвае доўг народу беларускае пісьменства, гэта значыць, які яно мае характар цяпер і якія шляхі намячаюцца яго ў будучыні.

Усім, знаёмым з творамі нашых пісьменнікаў, кідаецца ў вочы тое, што яно перайшло ўжо дзве стадыі развіцця: першую — сентыментальнае народніцтва з моцнай [10] польскай, а нават шляхецкай закваскай, другую — рэалізм, глыбока пранікнуты шчырым дэмакратызмам. Баршчэўскі, Марцінкевіч і іншыя менш выдатныя іх сучаснікі — гэта прадстаўнікі першай стадыі. Багушэвіч стаіць на раздарожжы, і творчасць яго мае яшчэ, хоць сабе і шмат

слабейшую, як у яго папярэднікаў, клерыкальна-польскую закваску («Свая зямля», «Хрэсьбіны Мацюка»)[11], з другога боку, ён нам даў такія творы, як «У судзе», «У астрозе», «Быў у чыстцы», «Скацінная апека», «Кепска будзе» і іншыя, каторыя пранікнуты шчырым народніцтвам саўсем не польскага тыпу.

Пасля 1905 года з'явілася плеяда беларускіх пісьменнікаў, якія ўсе да аднаго выйшлі з народу, і яны ўжо саўсем ясна далі той характар пісьменству, які яно цяпер носіць. У іх творчасці мы знаходзім тыя ж грамадзянскія ноткі, той шчыры і шырокі дэмакратызм, які вырастае зазвычай на здаровай і плоднай народнай глебе. Нашы пісьменнікі глыбока адчуваюць народнае гора, шчыра спагадаюць сярмяжнікам і дужа праўдзіва малююць іх жыццё, іх злыбеду, з якой ім трэба змагацца. Творчасць іхняя пранікнута здаровым аптымізмам і цвёрдай верай у тое, што будзе ўнукам панаванне, там, дзе сёння плача дзед. Гэтымі настроямі пранікнута творчасць Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, Цішкі Гартнага, Галубка, Я. Журбы.

Т. Гушча, М. Беларус[12], З. Бядуля, Ядвігін Ш. і іншыя нашы белетрысты таксама малююць рэальнае жыццё. Дэкадэнцкія настроі, так прыметныя ў пісьменствах іншых народаў, у нас пакуль што не праяўляюцца.

Наша нацыя дужа дэмакратычная — вышэйшыя станы «in corpore»[13] перайшлі [redacted] чужым — лічыць на нацыянальнае адраджэнне іх няма што. Аддзельныя асобы адтуль пераходзілі да нас і будуць пераходзіць — але маса заўсягды будзе варожа нашаму руху. Гэта бачым у ўсіх адраджаючыхся нацый — няма чаго спадзявацца, што ў нас будзе інакш.

Тыя, што з паваротнай хваляй пераходзяць да нас з пануючых нацый,— гэта найбольш людзі, глыбока пранікнутыя любоўю да народу, якія хочуць працаваць для яго лепшай будучыні. Гэткія людзі найчасцей бываюць надта далёкія ад усялякіх дэкадэнцкіх настрояў; [redacted] тыя, хто гэтыя настроі перажывае, так далёкія ад рэальнага жыцця і яго патрэб, што бадай ці хто-небудзь [redacted] іх пяройдзе да нас. Яны астануцца там, дзе цяпер знаходзяцца, а, праўду кажучы, не надта яны нам патрэбныя.

Далей мы бачым, што дагэтуль большасць нашых пісьменнікаў выйшла з народных мас. У будучыні, калі жыццё нашае, як і ўсюды, будзе ўсё болей дэмакратызавацца і народу болей, як цяпер, стане даступнай асвета,— лік такіх самародкаў дужа ўзрасце, і яны, а не выпадковыя перакінчыкі, будуць даваць тон пісьменству, як і дагэтуль яно было.

Таго ж, каб пісьменнікі, выйшаўшыя з народу, пранікліся дэкадэншчынай, бадай што, не

будзе. Дэкадэншчына — гэта вынік раскладу і выраджэння пануючых класаў; народу з яго цяжкім працавітым жыццём, з яго пакуль што не рэалізаваным ідэалам лепшага жыцця гэтая псіхалогія саўсем чужая. Мы і бачым, што нашы пісьменнікі далёка ад гэтага. Расейскія журналы пішуць, што паміж рабочых і сялян дужа любяць чытаць Някрасава, Глеба Успенскага, Шчадрына і іншых пісьменнікаў-грамадзян, а саўсім мала цікавяцца тымі дэкадэнцкімі пісакамі, якіх там ахвотна чытаюць паны.

Мы бачым, што ў украінцаў, якія жывуць у варунках надта падобных да нашых, у пісьменстве перамагае рэалізм і грамадзянскія ноты, хоць там сярод пісьменнікаў працэнт «паваротнай хвалі» куды большы, чым сярод нас ёсць цяпер і можа быць у будучыні. Шмат ёсць украінскіх пісьменнікаў-мадэрністаў — гэта праўда; але бадай ці не большасць іх галічане. У расійскай Украіне перамагае рэалізм, чым украінскае пісьменства карысна розніцца ад сучаснага расейскага.

Асобныя пісьменнікі-дэкадэнты з часам, калі больш пашырыцца наш рух, калі шырэй захопіць ён грамадзянства, можа, і явяцца, але перамагаючая большасць пісьменнікаў, усе лепшыя сілы будуць ісці, як і дагэтуль ішлі, «шляхам жыцця». Адгукаючыся на ўсе важ-

нейшыя праявы жыцця і магучай сілы слова будзячы ў нашым грамадстве любоў да бацькаўшчыны, гуманныя думкі, жаданні ўсе сілы аддаць свайму гаротнаму народу, любоў да ўсяго свайго і нашай прыгожай прыроды, яны праз гэта падрыхтуюць кадры працаўнікоў для дабра свайго краю, паколькі хопіць сіл, гатовых сплачваць яму доўг.

## БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

### I

XIX век, век пары і электрычаства да вышэйшага развіцця дэмакратыі, каторая праз гэтае стагоддзе[1] дабыла сабе болей, чым за ўсе быўшыя перад ім стагоддзі; век гэты быў таксама і векам нацыянальнага адраджэння многіх, здавалася, ужо саўсем заняпаўшых нацый. Такіх нацый за папярэднія стагоддзі сабралася шмат. Часта бывала, што калі які народ запануе над другім, то з часам гэты апошні пападаў не толькі ў палітычную ды эканамічную, але таксама і ў культурную залежнасць ад свайго ўладара. Перш-наперш вышэйшыя станы пераймалі адтуль мову, культуру, усе звычаі і мала-памалу зусім чужымі, а нават ворагамі станавіліся свайму народу. Свайго

трымаўся толькі народ, але дзеля таго, што ён сам быў прыгнечаны, не меў ніякіх правоў чалавека,— як той казаў, «і ў людзі не лічыўся», то на ўсё прыналежачае такому народу, на яго мову, звычаі, абычаі, паэзію і мудрасць, устанаўліваўся пагляд, як на нешта «грубае», «простае», «мужыцкае», з чым «далікатныя» паны нічога супольнага не маюць.

Багата ўсялякіх прычын прывяло да нацыянальнага ўпадку розныя нацыі. Разбірацца тутака ў іх мы не маем змогі, абмяжуемся[2] толькі адмечаннем таго факту, што на пачатку XIX стагоддзя такіх народаў было надта многа. Асабліва сумны абраз прадстаўляла тады славянства. Палудзённыя славяне, каторыя былі пад гнётам турэцкага дэспатызму, сістэматычна былі дэнацыяналізаваны з боку вышэйшага духавенства, якое[3] ў тых старонках было грэцкае, і не давалі дайжэ ніякага знаку нацыянальнага жыцця. Другая частка палудзённых славян, каторая жыла пад Аўстрыяй (усё заходняе славянства, акрамя палякаў), знаходзілася пад гнётам нямецкай культуры. А ўсходнія славянскія народы, беларусы ды ўкраінцы, зусім, здавалася, счэзлі як асобныя народы.

З усёй славяншчыны тады нацыянальна жылі толькі два ўсходнія славянскія народы — Маскоўшчына і Польшча. Маскоўцы стварылі

да гэтай пары велізарную і дужую дзяржаву[4]; палякі якраз нядоўга перад гэтым страцілі сваю дзяржаўнасць. Хоць у Прусіі ды Аўстрыі палякаў тады колькі мага анямечвалі. Шлёнзк (Сілезія), ужо колькі вякоў нямеччыны, быў нацыянальна зусім заснуўшы, але палякі мелі гэткую багатую культуру, што згінуць не маглі, тым болей што надта многа духовых рэсурсаў бралі яны з пасярод апалячанага, саўсем адарваўшагася ад роднага пня панства Беларусі і Правабярэжнай Украіны.

Але ў пачатку XIX стагоддзя, побач з развіццём рамантызму, пачынае скрозь па Еўропе праяўляцца любоў да народнай паэзіі і штукарства, у след за гэтым і да народу, стварыўшага гэту красу. Пачынаюць углядаць у долю заняпаўшых народаў, раскапваць яго гісторыю, знаходзяцца абаронцы пакрыўджаных, пачуваючыя кроўную сувязь[5] сваю [redacted] народам. І вось пачынаецца нацыянальнае адраджэнне навекі, здавалася, загінуўшых нацый. Гэткі рух абхапіў надта многа як славянскіх, так і да іншых плямёнаў належачых народаў. І вось мы бачым, што, напрыклад, чэхі, у каторых якіх 80 гадоў таму назад усё панства было анямечана, чэшская мова лічылася «простай», «мужыцкай», і гаварыў ёю толькі працоўны народ,— за гэтых 80 гадоў яны здолелі стварыць ба-

гатую нацыянальную культуру, каторая ўсе іх патрэбы духоўныя здавальняе,— дабіліся для сваёй мовы правоў і чуюць яе цяпер ва ўсіх урадавых установах (ва ўсіх школах, як ніжэйшых, так сярэдніх і вышэйшых навучаюць цяпер па-чэшску). Другія адрадзіўшыяся народы, адны болей, другія меней, але ўсе гэтаксама, шмат чаго ў гэтым кірунку зрабілі. Не адзінакавыя ўсюды былі варункі, у якіх адбывалася нацыянальнае адраджэнне розных народаў: адны крапчэйшых мелі ворагаў ды болей усялякіх загародак і перашкод, другія сустракалі на сваёй дарозе меней усяго таго. У цеснай залежнасці ад гэтага былі вынікі[6] працы адраджаючыхся народаў.

А вось цяпер на шлях нацыянальнага адраджэння стаў і наш беларускі народ.

## II

Цяпер беларусы жывуць ва ўсёй Магілёўскай губерні, Мінскай (акрамя ўкраінскай часткі Пінскага павету), Гродзенскай (акрамя Кобрынскага ды Брэсцкая пав., дзе жывуць украінцы, і польскай часткі Бельскага, Сакольскага), Віцебскай (у некаторых паветах тут жыве шмат латышоў ды старавераў — вялікаросаў), Віленскай (акрамя меншай часткі

Свянцянскага, Віленскага, Лідскага пав. і большай — Троцкага, дзе жывуць літвіны).

Далей беларусы жывуць у 7-мі заходніх паветах Смаленшчыны, 6-ці паўночных Чарнігаўчыны ды ў пагранічных паветах губерній Арлоўскай, Калужскай, Тверскай, Пскоўскай, Курляндскай, Ковенскай, Сувальскай.

Усяго цяпер беларусаў набярэцца, калі прыняць у лік перасяленцаў ды эмігрантаў,— 10 000 000 душ.

Багата гістарычных прычын злажылася на тое, што цяпер беларускі народ па веры дзеліцца на дзве часткі: на праваслаўных і каталікаў. Праваслаўных беларусаў будзе каля 8-мі мільёнаў, католікаў — не поўныя 2 мільёны. Усё панства і частка мяшчан адарваліся тут ад свайго народу, дзеля чаго цяпер беларусы з'яўляюцца адным з найболей дэмакратычных народаў на свеце — бо бадай што пагалоўна жывуць яны з працы рукамі.

Беларуская мова знаходзіцца цяпер на становішчы[7] «простай». Ніякіх правоў яна нідзе не мае. Ва ўсіх дзяржаўных установах: школе, судзе, воласці, праваслаўнай царкве, пануе цяпер расейская мова; у каталіцкім касцёле — польская. Інтэлігенцыя ў Беларусі складаецца з памешчыкаў-палякаў і апалячаных, з чыноўніцтва расейскага і абруселага ды мяшчанства, часткова[8] абруселага, часткова апалячанага.

Не чуючы сваёй мовы ў ніякай установе і ад інтэлігенцыі, цёмны селянін-беларус думае, што яго мова — гэта мова толькі бедных і бяспраўных, і ніякіх правоў ёй не належыцца. У гэтай думцы трымаюць яго пакрыжаваныя інтарэсы пануючых нацый, якія, паміма заўзятай барацьбы паміж сабой за культурнае панаванне над беларусамі, усё ж такі дужа згодна стараюцца, каб селянін-беларус не разабраўся ў тым, хто ён такі. Ды яшчэ цэлы груд іншых варункаў, разбірацца ў якіх будзем.

Зусім нядаўна, можна сказаць, ніякай нацыянальнай свядомасці ў беларусоў-сялян не было. Пачуццё лакальнай асобнасці («тутэйшасці») у нас было даволі слабае. Не толькі «вярхі», якія даўно ўжо адарваліся ад свайго народу, але і сялянскія дзеці, узгадаваныя падсялянскай страхой, калі ім удавалася, так ці іначай, выйсці «ў людзі», стараліся забыцца чым скарэй, «чые яны дзеці, якіх бацькоў», і цалкам[9] пераходзілі да дужэйшых. Асноўная народная маса, хоць і заставалася беларускай, але таксама памаленьку траціла свае нацыянальныя прыкметы. У мову ўсё болей ды болей ўваходзілі чужыя словы,— чужыя звычаі, песні, адзежа, і яны даволі лёгка выцяснялі беларускае.

Багата дзеля якіх прычын дэнацыяналізаваўся беларускі народ. Дэнацыяналізацыя ішла

з двух бакоў: праваслаўныя беларусы абрасейваліся, [redacted] нават і самі сябе схільныя[10] былі лічыць «рускімі» (не разбіраючыся ў значэнні старасвецкага слова «рускі»); католікі, з аднаго боку, таксама абрасейваліся, з другога — апалячваліся ды называлі сябе «палякамі». Тыя ж «сыны вёскі», якія зрабілі кар'еру (разбагацелі), зусім пераходзілі — хто к расейцам, хто [redacted] палякам.

Паварот да лепшага пачынаецца толькі цяпер, калі беларускае адраджэнне крок за крокам перамагае тую путаніцу, якая ў цёмных галовах пануе, і будзіць нацыянальную свядомасць. Паглядзім, чаму беларусы дайшлі да нацыянальнага ўпадку.

У асобную нацыю беларускі народ злажыўся дужа даўно з усходне-славянскіх плямёнаў: дрыгавічоў, крывічоў ды радзімічаў. Жыў ён тады ў сувязі з іншымі ўсходнімі славянамі, частка каторых у гэтым меней-болей часе злажылася ва ўкраінскі народ, а з другой часткі, ужо куды пазней, злажыўся вялікарускі народ.

Полаччына, захапіўшая добрую палавіну Беларусі, усё ж такі шмат меншая ад іншых абласцей, не прымала ўдзелу ў супольным жыцці Усходняй Славяншчыны ў часе ўдзельнага перыяду: яна ўсё неяк асобна жыла сваім жыццём. Асвета тады ў Полаччыне стаяла высо-

ка, народнае веча мела надта вялікае значэнне, князі шмат болей тутака залежалі ад веча, як у іншых абласцях (акрамя Ноўгарада). З усіх бакоў Полаччыну акружалі ворагі, з якімі яна стойка змагалася. У XII стагоддзі ворагі пачалі перамагаць, і, не маючы сіл адбівацца ад іх,— вобласць нават зусім дабравольна перайшла пад уладу незадоўга перад гэтым узмацаваўшагася Літоўскага княства. Літвіны тады не маглі пахваліцца высокай культурай: ні пісьменнасці, ні асветы літоўскай не было, і яны прынялі пісьменнасць, асвету, формы дзяржаўнай і грамадзянскай арганізацыі ад беларусаў. Гэткім парадкам беларуская мова сталася дзяржаўнай мовай ва ўсім княстве. Знатныя літвіны самі сталі гаварыць па-беларуску. Разам з асветай і дзяржаўнасцю беларусы прынеслі ў Літву і хрысціянскую веру, намнога раней перад афіцыяльным хрышчэннем Літвы. Хрысціянская вера, якую прынеслі беларусы ў Літву, была ўсходняга грэцкага абраду, ці, як тады называлі, «звычаю». Хрысціянамі ўсходняга грэчаскага звычаю былі ўжо некаторыя сыны Гедыміна (паміж імі і вялікі князь Альгерд, хрысціянскае імя якога Дзмітры), і ўсе Альгердавічы. Вялікі князь Ягайла (Якаў) Альгердавіч (перад тым віцебскі князь), за якім злучылася Літва з Польшчай і адбылося хрышчэнне Літвы,— таксама быў хрысціянінам, па грэчаскаму

звычаю, хрышчан быў, малым будучы,— палітоўску нават гаварыць не ўмеў і знаў толькі беларускую мову.

Само сабой, што Літва перамен ва ўклад беларускага жыцця не ўносіла, а, наадварот, парадкі ўсе беларускія, якія былі за беларускімі князямі ў Беларусі, заводзіліся і ў самой Літве. Усяго новага толькі і было, што на месцы старых беларускіх князёў верхаводзілі цяпер князі літоўскія, якія, вышэй было сказана, пераняли мову, звычай і веру, пануючыя ў той час у Беларусі. Дзеля гэтага ўсходнеславянскія вобласці ахвотна пераходзілі пад зверхнасць вялікага князя, які не ў чым не абмяжоўваў далучыўшыяся землі, а бараніў яшчэ ад страшэннай татарскай навалы, якая тады заліла морам-паводкай усю ўсходнюю частку Русі. Да канца XIV стагоддзя гэткім парадкам, нават саўсем без вайны, Літва сабрала пад сябе ўсе беларускія і ўкраінскія землі.

Надта моцнай літоўская дзяржава не была, хоць і займала вялізны[11] абшар. У ёй панавала тая ж удзельная сістэма, што і на Русі. Землі жылі самі па сабе, сувязь была надта слабая, нават у найболей небяспечных для цэльнасці дзяржавы момантах, далёка не заўсёды адна вобласць дапамагала другой. А Літву з усіх бакоў акружалі ворагі, з

якімі яна ледзьве-ледзьве спраўлялася. Вось гэта і было прычынай, што Літва злучылася з Польшчай.

Вялікі князь Ягайла Альгердавіч злучыў у 1387 годзе гэтыя дзве дзяржавы ў адну[12], узяўшы за сябе замуж польскую каралеўну Ядвігу. Пры гэтым ён перайшоў з веры ўсходняга «звычаю» на заходні, гэта значыць у каталіцтва, і ў гэтую, заходняга звычаю, веру хрысціў літоўскіх баяр, якія ўжо былі і якія не былі яшчэ хрысціянамі.

Гэткім парадкам за Ягайлам у Літве была афіцыйна ўстаноўлена дзяржаўнай верай вера заходняга звычаю — каталіцкая. Але дзеля таго, што Русь, як Белая, так і Украінская, трымалася веры ўсходняга звычаю, то перавага, даная Ягайлам людзям веры звычаю рымскага і палітычная залежнасць ад Польшчы, выклікала незадавальненне. Тым болей што ў Беларусі і Украіне, ад вякоў у справах веры нікога не абмяжоўваўшых, унесены быў Ягайлаў дэкрэт (выданы ў Вільні ў 1387 г.), у якім гаварылася аб тым, што ён прысягнуў усіх падданых княства Літоўскага, да якой бы яны ні належалі веры, «упрасіць, угаварыць, прызваць, а нават прымусіць прыняць веру рымскага звычаю». Гэта ўсё ўзятае разам давяло месцамі да адкрытых бунтаў, і ў канцы канцоў замест злучэння ў адну дзяржаву Літ-

вы і Польшчы ўстаноўлена была унія (хаўрус) дзвюх гэтых дзяржаў, і ў Літве ізноў устаноўлены быў асобны Вялікі Князь.

Вялікім князям удалося з часам перамагчы ўдзельных князькоў ды болей цесна звязаць у адно асобныя землі, але зусім аддзяліцца ад Польшчы не давалі ўнутраныя сваркі ды небяспека з боку ворагаў.

А з ворагамі ўсё трудней было сваімі сіламі змагацца. Баяры, бачачы, што ў Польшчы шляхта болей мела правоў, чым яны ў сваёй дзяржаве, дзе перамаглі вялікія паны, хацелі болей цеснай сувязі з Польшчай. У канцы баяры дабіліся свайго: дасталі гербы і прывілеі на меншых сваіх братоў сялян, і ў 1569 годзе, у Любліне, была падпісана ўмова Літвы з Польшчай, якой гэтыя дзве хаўрусныя дзяржавы зліваліся саўсем у адну дзяржаву, з адным каралём і супольнай дзяржаўнай Радай і Сеймам.

Пастаянныя стасункі з палякамі, якія з гэтага часу на добра пачынаюць верхаводзіць у Літве, ды тое, што хоць роўныя правы былі для ўсіх, але большых чыноў лацвей было дабіцца католікам, чым людзям веры грэцкага звычаю, а да таго езуіцкія школы, у якіх вучылася моладзь і баяр і шляхты, без розніцы, веры, высіленая езуіцкая прапаганда каталіцтва і польскасці ў езуіцкіх школах, якія разві-

валі фанатызм сярод сваіх гадаванцаў, давяло да таго, што шляхта даволі хутка пачала пераймаць «лепшыя» польскія звычаі і мову і лічыць саміх сябе палякамі. Гэтым гадаванцам езуіцкіх школ — панам, шляхце, узгадаваным на лаціне і польшчыне, бо ў езуіцкіх школах беларускай пісьменнасці[13] не вучылі, лічачы яе пісьменнасцю выключна «ўсходняга звычаю», не падабалася тое, што ў Літве па-старому дзяржаўнай мовай была ўсё яшчэ мова беларуская; і вось яны на сейме ў 1669 годзе замест яе завялі мову польскую.

Калі пасля раздзелаў Польшчы[14] Беларусь дасталася Расеі — царыца Кацярына II, апіраючыся на тое, што беларуская мова падобна да расейскай ды калісь быццам уся ўсходняя славяншчына жыла супольнымі інтарэсамі, стала лічыць беларусаў расейцамі. Але, як справядліва кажа расейскі вучоны Пыпін, гэткі погляд апіраўся не на сур'ёзным пачуцці племяннной еднасці, якой тады не было і не магло быць, а гэта ўсяго толькі было «казенное стремление до одноформенности».

Доўга гэты пагляд не ўтрымаўся. Ужо цары Павел і Аляксандр I, спагадаючы палякам ды шануючы іх культуру, сталі глядзець на Беларусь праз польскія акуляры. Пры іх устанавіўся погляд, што наш край зусім польскі. Пры іх польшчына ў нашым краі надта ўз-

мацавалася. Бадай што, не надта далёка ад праўды думка, што за гэты час Беларусь болей апалячылася, чым праз усё існаванне Рэчы Паспалітай. Мікалай I болей схіляўся[15] к тым поглядам, якіх трымалася Кацярына II.

Поўны пераварот у палітыцы ўрада ў нас наступіў пасля пальскага паўстання 1863 года[16], калі ізноў Беларусь была прызнана «ісконі-рускім» краем. Палякаў сталі ціснуць. Сістэматычна павялося абрусенне.

Пакуль усё гэта рабілася, беларускае сялянства стагнала пад гнётам прыгону — паншчыны. Скасаванне прыгону гэтаксама нацыянальнай свядомасці ў сялян не разбудзіла. Абрусіцельная палітыка толькі зрабіла тое, што расейская культура, якая да 1863 года зусім не даходзіла да народных беларускіх мас, цяпер сярод праваслаўных беларусаў пачала шырыцца. З другога боку — католікі-беларусы што раз далей адыходзілі ў польскі бок. Здавалася, што поўная дэнацыяналізацыя ўсяго беларускага народу — гэта толькі пытанне болей ці меней далёкай будучыні. Здавалася... Але да гэтага не дапусціла нацыянальнае адраджэнне.

## III

У найтруднейшых варунках, нават у найболей здэнацыяналізаваных слаях, пачуцце ней-

кай асобнасці ў нас ніколі такі саўсем не знікала. Шляхта, лічачы сябе палякамі, сякія-такія «тутэйшыя», лакальна-патрыятычныя інстынкты заўсёды мела. Лічачы бацькаўчынай Польшчу, Беларусь правінцыяй яе, а беларускі народ часткай польскага,— шляхта пачувала сваю племянную асобнасць ад праўдзівых палякаў. Гэткім лакальным патрыятызмам пранікліся таксама і некаторыя выдатныя польскія вучоныя ды пісьменнікі, якія выйшлі з нашага краю, ахвотна браліся за расследаванне гісторыі, этнаграфіі і пісалі абразкі з жыцця нашага краю.

Пасля 1863 года суровыя праследаванні палякаў шмат аслабілі лакальны патрыятызм, але бывае, што ён праяўляецца і цяпер. Багацейшыя паны, якія ездзяць па ўсім свеце, бадай што ніякай лакальнай асобнасці не зберагглі; затое памешчыкі сярэдняй рукі, а яшчэ болей дробная шляхта, тая і цяпер, хоць называе сябе палякамі і ў афіцыяльных выступленнях гаворыць па-польску, але ў штодзённым жыцці, у сваёй сям'і ды сярод добрых знаёмых гаворыць напалавіну па-польску, напалавіну па-беларуску, а ў сваёй кампаніі, за чаркай, беларушчына зусім выцясняе польшчыну.

Гэта самае мы бачым і сярод «вышаўшых у людзі» з беларускай вёскі: вучыцеляў, дробных чыноўнікаў і сярод часткі пра-

васлаўнага духавенства. У расейскую гаворку тутака ўходзіць шмат беларускіх зваротаў і слоў. У сваёй кампаніі беларушчына лунае побач з расейскім. Стыкаючыся на службе з чыноўнікамі вялікаросамі, беларусы не надта з імі сябруюць, усё болей сваёй кампаніі трымаюцца; часамі паміж тутэйшымі і наезнымі нават праяўляецца нейкі антаганізм. Адным словам, тое «тоже малороссийское» пачуццё лакальнай асобнасці, так прыкметнае на Украіне, у нас, хоць і шмат слабей, але таксама праяўляецца.

Дзеля таго, што тутэйшыя палякі — гэта найчасцей патомкі апалячаных беларусаў,— элемент гэты, ад вякоў у нас седзячы і цесна з краем і жыццём краю звязаны,— тады калі расейцы да 1863 года бадай ніякай ролі ў культурным жыцці нашага краю не адыгрывалі,— то і першыя праблескі беларускай нацыянальнай свядомасці ў палавіне XIX стагоддзя ў нас праявіліся ў форме польскай «тоже беларушчыны». Праблескі гэтыя былі як бы далейшым развіццём пачуцця лакальнай асобнасці тутэйшай шляхты, і, па праўдзе кажучы, не лішне далёка адышлі ад «тоже беларушчыны».

Першыя паэты беларускія (Баршчэўскі, Рыпінскі, Дарэўскі і інш.) або пісалі па-польску, устаўляючы часам у польскі тэкст беларускія

словы (найчасцей размову сялян па-беларуску), або рабілі пераклады з польскіх пісьменнікаў, а калі і пісалі па-беларуску арыгінальныя творы (пісалі іх заўсёды лацінікай), то праводзілі ў іх шляхецкія і польскія думкі. (Баршчэўскі нават выхваляў старашляхецкі разгул і, відаць, жадаў павароту «светлых дзён»[17].

Марцінкевіч меў большы талент, як яго папярэднікі, шмат напісаў па-беларуску арыгінальных рэчаў, пераклаў «Пана Тадэвуша»[18] і напісаў польска-беларускую оперу «Сялянка». Шкада толькі, што не многа далей адышоў ад сваіх папярэднікаў у сваім лакальным патрыятызме. Вярыга-Дарэўскі, бадай што, стаяў бліжэй да народу, але, на жаль, творы яго не былі друкаваны, і яны загінулі. Пісалі ў 1840—1850 гадах многа людзей па-беларуску, але ўсе гэтыя пісьменнікі тым толькі і розніліся ад тутэйшых польскіх пісьменнікаў, што часамі пісалі па-беларуску. Прынцыпіяльнай розніцы паміж аднымі і другімі не было. Каб тады беларуская справа была пастаўлена зусім ясна,— надта магло быць, што яны аднесліся б да яе ворага.

У 1863 годзе польскія паўстанцы, каб прыцягнуць к сабе беларускіх сялян, выдалі некалькі пракламацый па-беларуску[19]. У 1865 годзе было забаронена што-небудзь друкаваць

па-беларуску, што, побач з аслабленнем лакальных сімпатый сярод мясцовай шляхты, надоўга затрымала далейшае развіццё беларускага пісьменства. Праўда, што літаратурная творчасць беларуская ад забароны друку не замёрла зусім, шмат хто ў гэтым часе пісаў па-беларуску, але гэтыя творы разыходзіліся толькі ў рукапісах і для шырэйшых слаёў грамадзянства засталіся невядомымі. Тэндэнцыі большасці гэтых твораў тыя ж польскія ды шляхецкія, што і іх папярэднікаў, але ўжо ўплятаюцца дзе-ндзе і новыя тэмы: скасаванне паншчыны, розныя здарэнні, уцешныя апавяданні і сатыра.

У гэтым часе, пад канец XIX стагоддзя, высунуўся наперад у беларускай пісьменнасці Ф. Багушэвіч. Ён сілай свайго таленту далёка пакінуў ззаду ўсіх сваіх папярэднікаў і спыніўся на раздарожжы беларускага нацыянальнага адраджэння. З аднаго боку, у яго творчасці і вычуваюцца шляхецка-польскія перажыткі, а з другога боку, ён пранікнуты духам расейскага народніцтва, якое набыў, будучы ва універсітэце ў Расеі. У прадмове да «Дудкі» ён у пастаноўцы беларускай справы ідзе шмат далей ад сваіх папярэднікаў, далёка шырэй глядзіць на яе. Ён першы падаў зусім ясна кліч: «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». Багушэвіч умеў

унікнуць у долю і крыўду народу беларуска-га і напісаў такія моцныя рэчы, як «У су-дзе», «У астрозе», «Скацінная апека» і інш., дзе панска-польскіх думак няма ані. І гэты бок творчасці Багушэвіча дае яму пачэснае месца ў нашым пісьменстве.

Багушэвіч скрануў беларускае нацыяналь-нае адраджэнне, падаў кліч, і яно памалень-ку пачало разрастацца. У 1890-х гадах шмат дзе па універсітэцкіх гарадах пачалі аргані-зоўвацца беларускія студэнцкія гурткі. Найста-рэйшы маскоўскі гурток выдаў нават пад канец 80-х гадоў, пераклаўшы з Гаршына, «Сігнал». Пры дапамозе вядомага ўкраінскага дзеяча Дра-гаманава пачалі ў 80-х гадах выходзіць за мяжой першыя беларускія сацыялістычныя брашуркі. У 1903 годзе была надрукавана бе-ларускім пецярбургскім студэнцкім гуртком «Вязанка», зборнічак вершаў Янкі Лучыны. Ха-рактэрна, што гэту кніжачку, з прычыны за-бароны беларускага друку, прыйшлося пра-весці праз цэнзуру як кніжку на балгар-скай мове. З ажыўленнем у 1903—1904 гадах грамадзянскай думкі ва ўсёй Расеі болей жыва пачынаюць працаваць і беларускія гурткі.

У 90-х і 900-х гадах паяўляюцца таксама «Очерки из жизни белорусской деревни» Пшчэлкі. Каб лепей разабраць гэту кніжку, мы крыху азірнемся назад.

Да 1863 года, хоць пробы абрусення пачаліся яшчэ пры Кацярыне II, культурны ўплыў Расеі быў у нашым краі слабы і не мог нават раўняцца з польскім. Край наш пазнаў расейцаў пасля раздзелаў Польшчы. Былі гэта прысланыя ў «забраны край» чыноўнікі — элемент з жыццём краю і яго інтарэсамі не звязаны, дзеля чаго ніякія лакальна-беларускія сімпатыі, якія тады (у пачатку XIX ст.) сярод мясцовых палякаў былі даволі моцныя, паміж расейцаў не праяўляліся.

Пасля 63 года, паставіўшы сабе мэту зусім «абрусіць» наш край, урад скінуў са службы ўсіх чыноўнікаў-палякаў, якіх перш было шмат, ды замяніў іх расейцамі. Расейцам жа ўрад раздаваў канфіскаваныя ў паўстанцаў-палякаў двары. Праз гэта расейскі элемент адразу моцна ўзрос і ўсё болей ды болей павялічваўся. Папаўнялі гэты элемент як прыезджыя з Расеі, так і мясцовыя праваслаўныя беларусы, «выйшаўшыя ў людзі». Сярод гэтых беларусаў, а таксама сярод часткі абсеўшых на зямлі расейскіх памешчыкаў, малапамалу пакрыўшыхся слоем «тутэйшасці»; праяўляюцца таксама лакальныя сімпатыі. Само сабой, што бацькаўшчынай яны лічаць Расею, Беларусь — яе апалячанай правінцыяй.

Пшчолка — гэта тыповы пісьменнік, адбіваючы такія настроі[20]. Піша ён па-расейску,

але шмат устаўляе беларускіх слоў ды заротаў, а іншыя апавяданні піша і зусім пабеларуску. Талент Пшчолкі не малы, жыццё беларускай вёскі, якую бярэцца апісваць, ён ведае добра, але беларускай мовы або добра не знае, або свядома перакручвае яе на расейскі лад. На народ Пшчолка глядзіць спачуваючы, але на яго мову, звычаі[21] — з нескрываннай пагардай. Дае абразкі цемнаты і дзікасці, часамі горка-праўдзівыя,— яшчэ часцей — груба павялічаныя. Пашаны да нацыянальнага беларускага гонару нідзе ў яго не прыкметна. У некаторых творах, найчасцей тых, што пісаны зусім па-беларуску, пісьменнік пускаецца на кпінкі з беларуса, кшталтам вясёлых «жыдоўскіх» ці «армянскіх» анекдотаў. Апавяданні Пшчолкі — месцамі гэта глум і здзек з беларуса. Але наша жыццё такое ўжо гаротнае, што нават і Пшчолка месцамі мімавольна ледзьве што не на «грамадзянскія матывы» пераходзіць.

Пшчолка не толькі апавяданні, але і артыкулы[22] ў чарнасоценныя газеты піша, тамака ён, як спецыяліст па часці «беларускага сепаратызму», дужа неспрыстойна нападае на беларускае нацыянальнае адраджэнне.

Гэткія апавяданні зусім падыходзяць да тых вымог, якія можа праяўляць лакальны патрыятызм тутэйшых праваслаўных памешчыкаў, па-

ноў і беларусаў-чыноўнікаў, людзей адрэзаных ад народу і пагарджаючых яго. Сярод іх кніжкі Пшчолкі дужа папулярны.

Мы так доўга затрымаліся над гэтым зусім не дзеля таго, што лічым творчасць Пшчолкі выдатнай літаратурнай з'явай або каб прыдавалі ёй якое-небудзь значэнне для развіцця беларускай нацыянальнай свядомасці,— нас яна можа цікавіць толькі як адгалосак слабенькіх беларускіх сімпатый тых колаў, якія дужа непрыязна ставяцца да нашага нацыянальнага адраджэння.

## IV

Калі ўслед за «эпохай даверыя» пачалася ў Расеі рэвалюцыя — беларускі народ раптам устрапянуўся. «Беларуская сацыялістычная грамада» ў 1905—1906 гадах выдае мноства пракламацый, якія хутка разыходзіліся па ўсім краі, выклікаючы незадаволенне сучаснасцю, а побач з тым будзячы нацыянальную свядомасць. Шмат куды адозвы Грамады траплялі перш ад «літаратуры» расейскіх партый; з іх народ тамака атрымліваў першыя паняцці класавых інтарэсаў, і ў такіх здарэннях нацыянальныя беларускія дамаганні (на якія Грамада ў сваіх выданнях звяртала ўвагу) уваходзілі, як неразлучны элемент, у апазіцыйны светагляд.

У 1906 годзе злажыўся «Беларускі вучыцельскі саюз», да якога прымыкалі шырокія колы народных вучыцеляў. Побач з гэтым пачынаецца рух сярод моладзі сярэдніх школ. У глухоўскім інстытуце і 4-х вучыцельскіх семінарыях арганізуюцца пад нацыянальна-беларускім прапарам хаўрусы вучыцеляў; шмат прыхільнікаў беларушчына знаходзіць і ў духоўных семінарыях (асабліва праваслаўных).

У гэтым жа годзе ў Пецярбургу адкрываецца выдавецкая супалка «Загляне сонца і ў наша ваконца», а ў Вільні пачынае выходзіць першая беларуская газета «Наша доля». «Наша доля» пісала дужа востра, дык з 6-ці выйшаўшых нумароў канфіскавана 5. «Наша доля» закрылася на 6-м нумары, але гэтыя нумары разышліся па ўсім краі ў тысячах экзэмпляраў і для ўзмацнення беларускай свядомасці мелі вялікае значэнне. Яшчэ тады, калі жыла «Наша доля», пачала выходзіць другая беларуская газета «Наша ніва», якая выходзіць і цяпер. «Наша ніва» хутка пайшла ў народ, і ўплыў яе тамака ўсё болей і болей узрастае. Паміж газетай і чытачамі ўстанавілася цесная сувязь. Шмат чытачоў працуе ў газеце, прысылаючы вершы, апавяданні і карэспандэнцыі, якіх з усіх куткоў краю прыходзіць шмат. Гэта паказвае, што газету чытачы лічаць сваёй ды колькі мага працу яе пад-

трымліваюць, хоць ганарару за гэта не дастаюць ні капейкі.

Каб дайсці да ўсіх беларусаў, «Наша ніва», таксама як і «Наша доля», выходзіла двума шрыфтамі: рускім і лацінскім. Пасярод беларусаў ёсць такія, хто чытае толькі лацінскімі літарамі. Па праўдзе кажучы, заводзіць у газеце два шрыфты не было вялікай патрэбы: 4/5 беларусаў — праваслаўныя, якія лацінскіх літар саўсем не ўмеюць чытаць; 1/5 — католікі, ды і тыя вучацца чытаць у казённых школах, і большасць пісьменных паміж іх знае расейскую грамату. Пісьменных толькі па-польску не так ужо і многа, і расейская пісьменнасць з павелічэннем колькасці школ з кожным годам расце.

З самага пачатку трэба было прызнаць беларускім шрыфтам рускія літары, апіраючыся на гістарычныя традыцыі (уся старая беларуская літаратура друкавана славянскімі літарамі) і практычную пастаноўку справы. Інакшая пастаноўка справы тлумачыцца тым, што з самага пачатку зусім свядомых, шчырых беларусаў было не шмат, перамагалі «тожэ беларусы», якія чыталі газету і кніжкі, прызнавалі нацыянальныя дамаганні, але побач з тым далёка не зусім парвалі сувязі с той культурай, у якой гадаваліся. Гэткіх «тожэ беларусаў» было шмат, як з расейскага, так і з польскага

боку. Здараліся людзі паміж першымі і другімі, якія былі схільныя глядзець на беларушчыну як на нейкі прыдатак да польшчыны ці расейшчыны. Рэдакцыя, хочучы захапіць як праваслаўных, так і католікаў да беларускага руху і здаволіць як адзін, так і другі бок, пачала выдаваць газету двума шрыфтамі. Не толькі сярод «тожэ беларусаў», але таксама і сярод шчырых беларусаў, нават католікаў, гэткая пастаноўка справы выклікала нездаволенне. Нездаволенне ў меру развіцця руху ўзрастала. Матыў нездаволення быў той, што пры двух шрыфтах нельга развіваць літаратуры і што яны раздзяляюць адзін народ на двое. У канцы (у 1912 годзе) рэдакцыя «Нашай нівы» звярнулася да чытачоў з анкетай — на які адзін шрыфт перайсці. Вялізная большасць выказалася за «гражданку», і ў канцы 1912 года газета пачала выходзіць толькі гэтымі літарамі. Нездаволеным гэткім паваротам справы аказаўся толькі клерыкальны-каталіцкі сабор, які ў скорасці пасля гэтага пачаў выдаваць сваю клерыкальна-каталіцкую газету «Bielarus» — лацінскімі літарамі. Паступовыя ж беларускія каталіцкія колы падалі голас за рускі шрыфт у беларускай пісьменнасці, шануючы нацыянальную традыцыю.

Пасля 1905 года, як страпянуўся народ, паявілася шмат паэтаў. Народ загаварыў песняй.

Паміж паэтамі і белетрыстамі аказалася няма-ла людзей вялікага таленту, і яны ў кароткі час здолелі паставіць беларускае пісьменства на такую вышыню, якой яно перш не дахо-дзіла. Гэтыя пісьменнікі ўжо зусім павярнулі нашу пісьменнасць на той шлях, да якога адным бокам сваёй творчасці прымыкаў Багу-шэвіч: на шлях рэалізму, глыбока пранікнута-га народалюбствам, здаровым аптымізмам, цвёр-дай верай у тое, што:

Усё ж такі хоць некалі,
А праўды дачакаемся...

Характэрна, што гэтыя пісьменнікі выйшлі ўжо не з асяроддзя апалячанай шляхты або абруселага чыноўніцтва, а з асяроддзя само-га працуючага народу. Паміж імі болей пра-васлаўных, але шмат і католікаў. Бадай усе яны — сыны народу; найболей такіх, якія і ця-пер працуюць рукамі. Найвялікшыя інтэлігенты сярод іх — народныя вучыцелі. Інтэлігентаў, хоць бы і шчыра спагадаючых народу, праўдзівых дэмакратаў, але выйшаўшых з іншых станаў (класаў), у беларускім руху агулам не шмат, а пісьменнікаў сярод іх — толькі на завод.

І хоць патэнтаваных інтэлігентаў сярод су-часных беларускіх пісьменнікаў мала, усё ж цяпер шмат лепей па-беларуску пішуць, чым даўней, болей праўдзівых талентаў, ды боль-

шую вартасць маюць іх творы,— болей пранікнуты сардэчным пачуццём і зразуменнем народу. Некаторыя з нашых пісьменнікаў звярнулі б увагу ў любой старой і багатай літаратуры. Першае месца займаюць: Якуб Колас, Янка Купала; далей ідуць — Алесь Гарун, Максім Багдановіч, К. Буйло, Цётка, Журба, Арол, Цішка Гартны, Янук Д., Лявон Лобік, Стары Улас, Паўловіч, Леўчык, Гурло, Ясакар; навелісты: Тарас Гушча, Ядвігін Ш., Змітрок Бядуля, Максім Беларус, Галубок, Лейко, Аляхновіч-Чаркас, Лёсік, Власт, Юшко і інш.

Дагэтуль перамагае ў беларускім пісьменстве рэалізм — у лепшым значэнні гэтага слова. Пісьменнікі нашы, як праўдзівыя народныя інтэлігенты, цесна звязаны з гаротнай, абяздоленай народнай масай і перш-наперш звяртаюць увагу на тое, што іх акружае. Глыбока адчуваюць песняры-паэты народнае гора, жыццё беспрасветнае свайго народу, на якое: «як не глянеш, сэрца болем зашчыміць».

У маім сэрцы гора гэта
Адгалос знаходзіць,
Сэрца ж, жалем абагрэта,
Песні смутку родзіць.
Няхай плачам у сіняй далі
Песня разліецца,
Каб усе людзі ў свеце знalі,
Як нам тут жывецца...[23]

Гэтак зарысоўвае Колас мэту творчасці беларускага песняра.

Няма хлеба, няма солі,—
Чужому рабі;
Няма шчасця, няма долі,—
Во тут і жыві!
Вот зіма — мароз вялікі,—
Дровы ў Мінск цягні;
Дзеткі змёралі: енкі, крыкі,—
Вот тут і жыві!
Прайшла зімка, цёпла стала,—
Вясна на зямлі,
А тут корму, хлеба мала,—
Вот тут і жыві!
Вясна, лета — час рабочы:
Ары, касі, жні;
Пот крывавы заліў вочы,—
Вот тут і жыві!
Прайшло лета, прыйшла восень,—
Падаткі нясі,
А дзяцей абдзёртых восем! —
Вот тут і жыві!

*Янка Купала.*
З песняў мужыка[24]

Не дзіва, што гэткія «родныя абразкі» выклікаюць сумнае настраенне і беларуская паэзія часта «плачам — у сіняй далі разліваецца».

Побач са злыбедамі і нядоляй пануе ў беларускай вёсцы страшэнная цемната, якая часта прыводзіць да ўсялякіх эксцэсаў, цяжкіх драм і

агулам калечыць псіхалогію чалавека — дае развівацца горшым інстынктам. Патрасаючыя, але праўдзівыя абразкі «панавання цемні» дае ў іншых сваіх апавяданнях Змітрок Бядуля.

Гэта цемната, а таксама зразуменне, што надта многа ўсялякіх загародак і перашкод трэба перамагчы, — зусім натуральна ставіць перад беларускімі дзеячамі пытанне, пастаўленае паэтам Максімам Багдановічам:

Сціснула гора дыханне ў народзе.
Гора ўсюды пануе.
Хваляй шырокай разлілась, як мора, —
Родны наш край затапіла...
Браццяі Ці зможам грамадскае гора?
Браццяі Ці хопіць нам сілы?![25]

На гэтае пытанне беларускія песняры даюць катэгарычныя адказы:

Не! не праўда. Быць не можа,
Каб не грэла цёпла сонца!
Наша праўда нам паможа, —
Бліснe свет і к нам ўваконца.

*(Якуб Колас. Сябрам)*

Пры ласцы Божай усё мы зможам,
Гора затопчам сільнай нагой,
Зможам нядолю, зможам няволю[26],
Светач запалім шчасця свайго.
З'яснеюць ночы, высахнуць вочы,
Злітыя горкай бядноты слязьмі;

Голад загіне, бяда пакіне,
Долю мець будзем,— эй, будзем людзьмі!..

*(Янка Купала. Чаго нам трэба)*

Цярпі, мой ты браце, і вер, што настане
Сярмяжніку лепшае шчасце, жыццё.
Вер! будзе тваё на зямлі панаванне,
Навекі зваюеш ты гора сваё.

*(Галубок. Сярмяжнік)*

От, убачыш, прыйдуць людзі
На ўспамогу ў грамадзе;
Кожны цэглу класці будзе,—
От дзе праца загудзе!
Сцены зробім чыста, гладка,
Як з крышталю, століь, як шкло...
Скажуць людзі: «Вось дык хатка,
Роўнай ў свеце не было!»
Будзем есці ў гэнай хаце
Смачны, чысты, пульхны хлеб,
Пойдзем, муляр, пойдзем, браце,
Хай другі канчае склеп.

*(Алесь Гарун. Муляру[28])*

Гэткіх заяў мы маглі б яшчэ шмат прывесці, але і прыведзеныя вышэй паказваюць, што нашы пісьменнікі пранікнуты здаровым аптымізмам, цвёрдай верай у лепшую будучыню свайго краю і народу.

Зусім натуральна, што выйшаўшыя з народу пісьменнікі перш-наперш звярнулі ўвагу на яго жыццё. Спачатку ў іх творах перамагаюць абразкі народнага гора ды перажывання

шчырых дэмакратаў, глыбока задумаўшыхся над тым, як яго звясці.

Але хоць дужа багатая ды ўдзячная гэта тэма, бадай што, датуль яна не счэрпаецца, дакуль будуць прычыны, выклікаючыя гэткія настраенні пісьменства. Справядліва зразумеўшы сваю задачу, ды не хочучы быць аднабокім, ёю здаволіцца не павінны. Трэба звярнуць увагу таксама і на другія праявы жыцця. Наша пісьменства зусім адпавядае гэтым жаданням: стаўляючы вышэйпамянутыя тэмы на першым плане, яно і на другія патрэбы адгукаецца.

У Ядвігіна Ш., Паўловіча, Галубка і інш. мы знаходзім пробкі праўдзівага беларускага гумару. Часамі высмейваецца і селянін, але скрозь смех праглядае шчырае спагаданне ды любоў да яго. Бывае, што адзін і той жа пісьменнік дае гумарыстычныя і пранікнутыя «грамадзянскім жалем» панурыя абразкі жыцця.

Шмат ёсць дужа прыгожых малюнкаў прыроды. Усё болей ды болей прыбывае твораў, што разглядаюць любоўныя перажыванні. Але хоць развіццё беларускага пісьменства адбывалася якраз у часе глыбокай рэакцыі, калі шмат хто з пісьменнікаў у суседніх нацый даходзіў у пастаноўцы, напр., палавой справы, да нігілізму, блізкага да парнаграфіі, то ў нашым пісьменстве ніякіх адгалоскаў гэтага няма. Не

толькі пісьменнікі, што займаюцца маляваннем «любоўных перажыванняў» паміж іншым, але і тыя, хто, як, напр., К. Буйла, у сваёй творчасці галоўным[28] чынам на гэта звярнулі ўвагу — дужа далёкі ад моднай пастаноўкі гэтага пытання.

Адным словам, беларускае пісьменства ідзе к таму, каб усебакова[29] здаволіць патрэбы свайго грамадзянства. Пакуль што яшчэ далёка да таго, каб гэтае жаданне ў поўнай меры наша літаратура здавольвала, бо не так многа ў нас пісьменнікаў,— іншыя з іх мала пішуць; але нельга забываць, што гэта толькі пачатак. Усё ж такі добра, што ідзе пісьменства тым шляхам, якім існі павінна.

Асобна ад іншых трэба паставіць паэта Максіма Багдановіча, які шмат нам даў тыповых пробак паэзіі «штукарства для штукарства».

Дэкадэнцкіх настрояў, так прыкметных цяпер у іншых пісьменствах, у нас бадай не бывае. Гэта бадай затым, што патэнтаваных і патомных інтэлігентаў сярод нашых літаратараў так як бы і няма. Гаротны народ з яго гаротнай доляй, з яго не збыўшыміся яшчэ пакуль што ідэаламі ад такіх настрояў дужа далёкі. Мы ведаем, што сярод святлейшых расейскіх сялян ды работнікаў надта любяць і чытаюць Някрасава, Глеба Успенскага і інш. пісьмен-

нікаў-грамадзян, а сучаснымі дэкадэнцкімі пісакамі мала цікавяцца; гэтаксама і ў палякаў. Работнікі і сяляне ў Заходняй Еўропе, якіх там шмат, хоць надта выдатных талентаў сярод іх няма,— найболей пішуць аб сваім жыцці і нядолі. Нашы пісьменнікі, як праўдзівыя сыны народу,— тутака таксама зусім з імі згаджаюцца і далёкія ад дэкадэнцтва.

Гэтак стаіць справа цяпер, не іначай хіба будзе і ў будучыні. Нашае панства нацыянальна хіба не адродзіцца,— усе варункі такія, што на гэта лічыць не можна; у будучыні нацыянальную культуру тварыць будзе сам працоўны народ, як і цяпер. Да яго дэкадэнтам даступіцца не лёгка.

Побач з прагрэсам пісьменства развіваюцца і ўсе іншыя праявы беларускага жыцця. З 1910 года пачынае выходзіць Беларускі каляндар, які цяпер разыходзіцца штогод блізка што ў 20 000 экземпляраў па ўсёй Беларусі. Разам з шырокай папулярнасцю ён здабыў сабе славу найлепшага народнага календара ў нашым краі. У 1912 годзе пачынае выходзіць месячнік сельскай гаспадаркі «Саха» і перыядычныя выданні для інтэлігенцыі «Маладая Беларусь». У канцы 1913 года з'яўляецца месячнік «Лучынка» для моладзі[30].

Усё большае ды большае лік свядомых беларусаў-пісьменнікаў. Пад нацыянальным прапарам гуртуецца шмат вучашчайся моладзі, як

у вышэйшых, так і сярэдніх школах. Крапчаюць і далей развіваюцца старыя беларускія гурткі, усё болей і болей прыбывае новых. У гэтых жа гадах творыцца беларускі народны тэатр і народныя хоры. Драматычныя гурткі і хоры закладаюцца як у некаторых большых гарадах, так нават дзе-нідзе і па мястэчках. Шкада толькі, што драматычная літаратура, як арыгінальная, так і перакладная, пакуль што бедна і толькі ў малой частцы можа здаволіць патрэбы. З якога боку ні глянуць на справу, усюды прымецен рух наперад.

Будзіцца ад векавога сну і шырокая маса беларускага сялянства. Калі да яе даходзіць беларуская газета, каляндар ці кніжка,— яна найчасцей спатыкае шчырае і прыхільнае прывітанне.

Усё ж такі шмат ёсць яшчэ такіх куткоў, куды беларускія выданні не даходзілі, і народ нават не ведае, што яны ёсць на свеце. Сярод шырокай масы, час ад часу прачытаўшых тое ці другое ў роднай мове, дагэтуль у поглядах на нацыянальную справу таксама пануе блытаніна. Але ўсё гэта часовы і пераходны стан. Трывае ён — часткова затым, што свядомыя беларусы не могуць як след працаваць — надта многа ўсякіх перашкод і забарон яны ўсюды спатыкаюць.

Але не пужае гэта іх і не адбірае ахвоты

працаваць для дабра свайго краю. Нацыянальна свядомыя беларусы цвёрда вераць у тое, што калі варункі палепшаюць — будзе можна весці шырэйшую работу, калі ўвесь беларускі народ даведаецца аб гэтым ды здолее падаць свой голас у гэтай справе, то ён зусім ясна і адкрыта стане на баку тых, якія «падалі голас» у абарону свайго народу. Тады справу беларускага нацыянальнага адраджэння возьме ён на свае магутныя плечы, і зусім не страшны ёй будуць усе патугі ворагаў ды іх нападкі.

## ТАРАС ШАЎЧЭНКА

Эх! і нам будзь бацькам мілым,
Украінча слаўны!
Плывучы ўдаль, твая песня.
Гасцінцам не вузкім,
Знайшла водгалас пачэсне
Ў сэрцы беларускім.

*Янка Купала.*
*Памяці Шаўчэнкі*

### I

100 гадоў таму назад, 25 лютага 1814 года нарадзіўся[1] найвялікшы ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка. Нарадзіўся ён у беднай сялянскай хаце, у Звенігародскім павеце, на Кіеўшчыне. Бацька яго быў падданым пана Энгельгардта.

Багата ўсялякай злыбеды перанёс Тарас ва ўбогай мужыцкай сям'і, тым болей што ён з самага пачатку быў не гэткі, як усе сялянскія дзецi, а нейкі інакшы: усё ён меў ахвоту маляваць і да работы быў не здацен. Калі Шаўчэнку было 15 гадоў, яго забралі за паслугача ў панскі двор. Пан мала калі быў дома, а ўсё найболей ездзіў па гарадах і цягаў з сабой Тараса. Хлапец свабодным часам, калі ніхто гэтага не бачыў, прабаваў маляваць. Адзін раз, калі ён позна ўначы пры лямпе маляваў, яго зланіў пры гэтым пан. Хлапца за тое, што ён паначы з агнём сядзіць, балюча вылупілі бізуном, але пан, пабачыўшы, што малюе ён нішто сабе, аддаў у навуку да маляра.

Шаўчэнка пабыў у аднаго маляра, а калі пан пераехаў у Піцер, дык аддаў яго да другога. Маляр пасылаў свайго вучня маляваць столі, падлогі, платы і да т. п.

Вечарамі, маючы свабодны час, Шаўчэнка бегаў у Летні сад, дзе было шмат статуй з мармуру, і глядзеў на іх. Вось адзін раз яго пры гэтым надыбаў артыст-маляр Сашэнка, таксама ўкраінец. Сашэнка распытаўся Тараса, хто ён такі і што робіць: пабачыўшы, што Шаўчэнка добра малюе, пазнаёміў яго з добрымі і разумнымі людзьмі.

У гэтай кампаніі Шаўчэнка шмат чаго навучыўся, багата кніг прачытаў ды стаў задум-

вацца над тым, ці справядлівы гэткі парадак, калі адзін чалавек пануе над другім.

Новыя апекуны Шаўчэнкі хацелі аддаць яго ў Акадэмію, каб выйшаў з яго праўдзівы артыст-маляр. Але для гэтага трэба было выкупіцца з панскай няволі. Пан хацеў выкупу ажно 2500 рублёў,— гэткіх вялікіх грошай не было адкуль узяць. Але прыяцелі парупіліся, сабралі гэтыя грошы і выкупілі-ткі Шаўчэнку ў 1838 годзе. Тады ён стаў хадзіць у Акадэмію вучыцца.

Нішто сабе маляваў Шаўчэнка, і ў гэтым ён таксама здабыў сабе славу, але куды большую славу здабыў ён сваімі вершамі. Ужо будучы свабодным чалавекам, Шаўчэнка стаў пісаць вершы, і пісаць іх не «па-панску», а «простай», роднай украінскай мовай. У 1840 годзе выйшаў у свет першы зборнік яго вершаў, а на другі год — паэма «Гайдамакі».

Зрабіўшыся праўдзівым артыстам-маляром і маючы ўжо не абы-якую славу паэта, Шаўчэнка стаў старацца, каб асесці ў сваёй роднай Украіне. Гэта яму і ўдалося, асеў ён у Кіеве, дзе і работу дастаў па душы.

У гэты час шмат чаго напісаў паэт. Талент яго акрэп і развіўся.

У Кіеве, сярод разумных і справядлівых людзей, глыбока адчуваючых народнае гора і крыўду, злажыўся гурток (называўся ён Кірыла-Мефодзіеўскае таварыства), паставіўшы сабе

мэтай дабіцца скасавання прыгону, роўных правоў для ўсіх людзей — ды каб усе славянскія народы злучаліся ў федэрацыю, г. зн. у гэткую адну дзяржаву, у якой[2] кожны народ сам бы сваімі справамі кіраваў, і каб усюды па школах і ўрадавых інстытуцыях была заведзена родная мова. Шаўчэнка, усёй душой спагадаючы гэткім думкам, таксама належаў да гэтага таварыства.

У 1847 годзе Шаўчэнку з другімі хаўруснікамі гуртка арыштавалі. Усіх іх сурова пакаралі. Шаўчэнку пакаралі цяжэй, як другіх, дзеля таго, што ў яго паперах знайшлі нецэнзурны верш «Сон». Дзеля гэтага паэта аддалі ў салдаты і саслалі аж у Арэнбург.

Даўняя мікалаеўская салдатчына нераўня цяперашняй. Надта цяжкае жыццё пачалося для Шаўчэнкі. Мучылі яго ўсе казарменныя парадкі ды муштры, мучыла журба за родным краем, але найцяжэй было тое, што яму забаранілі пісаць і маляваць. З часам Шаўчэнку перавялі ў другое месца, дзе яму было ўжо лягчэй жыць, і тамака мог паэт пісаць, ды і на муштру не хадзіў. Але знайшоўся афіцэр, які данёс аб гэтым начальству,— паэта саслалі ізноў у далёкую крэпасць, і тамака ён ужо аніякай змогі не меў пісаць і маляваць. Гэтак пражыў Шаўчэнка цэлых сем гадоў. Праўда, у 1855 годзе яму дазволілі пісаць, але толькі па-расейску, а

не па-ўкраінску, ды і тое пад даглядам афіцэра. На волю пусцілі паэта аж у 1857 годзе. Усяго праслужыў у салдатах ён 10 гадоў і чатыры месяцы. Цэлых 10 гадоў праслужыў няшчасны паэт. У салдаты яго ўзялі вясёлым, крэпкім, бадзёрым; вярнуўся ён адтуль зусім лысым, з сівой барадой, хоць меў тады ўсяго 43 гады, і з прапаўшым назаўжды здароўем. Толькі 4 гады пражыў пасля гэтага Шаўчэнка, і памёр ён 26 лютага 1861 года.

Гаротнае жыццё надламала здароўе паэта гэтак, што памёр ён зусім без пары, але не здолела яно зламаць сілы яго духу. Вярнуўшыся, Шаўчэнка да самай смерці шчыра працаваў для дабра роднага краю, жыва цікавіўся грамадзянскім рухам, які тады, у пачатку панавання Аляксандра II, быў у Расіі дужа моцны; колькі мог і сам прымаў у ім удзел[3]: пісаў вершы, думаў напісаць шмат папулярных кніжак для народа ў роднай мове (паспеў напісаць ён толькі лемантар). І памёр паэт, цвёрда верачы ў тое, што дажджэ лепшай долі народ.

Мы бачым, што надта многа гора перанёс вялікі паэт на сваім вяку. Бадай ніколі яно не пакідала яго; мала светлых дзён бачыў Шаўчэнка. Мучыўся ён, будучы ў панскім падданстве. Толькі дзеля шчаслівага здарэння асвабадзіўся ён адтуль. Каб не сустрэча з Сашэнкам — дык так і астаўся б Шаўчэнка панскім нявольнікам,

век бы ён мусіў маляваць платы ці іншую работу рабіць паводле панскага загаду, так і прапала б для Украіны і ўсяго чалавецтва гэткая сіла.

Праўда, не прапала яна, як прападаюць дзесяткамі і сотнямі таленты, а можа, нават і геніі-сярмяжнікі, прыгнечаныя жыццём і не меўшыя ніякай змогі дабіцца варункаў, пры якіх іх творчыя сілы былі б выкарыстаны,— праўда, вялікую спадчыну пакінуў Шаўчэнка, але ці ўсё тое ён зрабіў, што мог бы зрабіць пры лепшых варунках?

Цэлых сем гадоў, калі паэт быў у поўным расцвітанні здароўя і сіл, ён не мог нічога пісаць; салдатчына так надламала здароўе, што памёр ён, маючы толькі 47 гадоў. Каб не гэта, можа, пражыў бы ён шмат болей; толькі на 24-м годзе жыцця асвабадзіўся Шаўчэнка з панскай няволі — вось трэба толькі ўспомніць усё гэта, і адразу мы зразумеем, што шмат болей мог бы напісаць Шаўчэнка, болей бы даць чалавецтву перлаў сваёй творчасці, каб лепшае меў ён жыццё.

## II

Хоць тады, калі пачаў пісаць Шаўчэнка, украінская мова знаходзілася на палажэнні

«простай», акурат таксама, як цяпер беларуская, хоць гаварыў ёй толькі працуючы народ, а панства пакінула яе і перайшло к чужынцам, шмат украінцаў-пісьменнікаў пісала па-расейску (пісалі гэтак не толькі не надта выдатныя сілы, як Капніст, Багдановіч, Нарэжны, Гнедзіч, але і гэткі выдатны, як Гогаль), усе ж ткі адразу стаў тварыць Шаўчэнка ў роднай мове. Праўда, пісалі перад Шаўчэнкам паўкраінску некаторыя нават даволі выдатныя пісьменнікі (Катлярэўскі, Квітка-Аснаўяненка, Гулак-Артэмоўскі, Грабёнка)[4], але ўкраінскае народнае адраджэнне тады толькі пачыналася.

Тым не менш адразу паэт дадумаўся да таго, што, чужому навучаючыся,— свайго чурацца нельга, ды адразу стаў на справядлівы шлях.

Не надта многа напісаў за сваё жыццё Шаўчэнка, шмат пісьменнікаў напісала куды болей, але ўсё-ткі «Кабзар» (гэтак завецца поўны зборнік вершаў Шаўчэнкі) дае нам гэткі ўсебаковы агляд украінскага жыцця і яго патрэб, што застаецца толькі дзівавацца з творчай сілы, абхапіўшай гэткі шырокі далягляд[5].

Багата Шаўчэнкавых твораў даюць нам абразкі слаўнай мінуўшчыны ўкраінскага народа — доўга геройскі змагаўшагася з ворагамі «за вольную волю», пакуль не перамаглі яны зусім.

Де поділось козачество,
Червоні жупани,
Де поділась доля-воля,
Бунчуки, гельмани?

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Мовчать гори, грае море,
Могили сумують,
А наддітьми казацькими
Поганці панують.

*(«Тарасова ніч»).*

Але пры гэтым Шаўчэнка дужа далёкі ад кісла-салодкага патрыятызму, ад таго, каб хваліць усё ў мінуўшчыне Украіны. Добра бачыць ён і цёмныя бакі — разумее, што не адны толькі ворагі са стараны загубілі Украіну, але багата ім памог у гэтым эгаізм гетманаў і старшын, якія неміласэрна гнялі «братів нязрячих грэчкосїів», і не раз гнеўным словам абрушваецца на іх паэт.

Разумее добра Шаўчэнка і тое, што хоць і шмат у роднай гісторыі ёсць момантаў, успамінаючы якія сэрца спачынае, але ўсё гэта мінула і не вернецца болей:

Не вернуться сподівана,
Не вернеться воля,
Не воскрэсне козачина,
Не встануть гетьмани.

Ад усяго гэтага асталася толькі слава, якая:

не поляже;
Не поляже, а розкаже,

Що діялось в світі,
Чия правда, чия кривда
І чиї ми діти.
Наша дума, наша пісня
Не вмре, не загине...
От де люде, наша слава,
Слава України!

*(«До Основ «яненка»)*

Цяпер зусім другія ўжо часы, другія патрэбы, нельга на адну толькі мінуўшчыну аглядацца, трэба аб тым, што нас акружае ды як звясці благое ў ім, падумаць. Моцна задумаўся над гэтым Шаўчэнка, недарма ж ён быў сялянскі сын і панскі падданы. Багата даў ён нам твораў, малюючых прыгонныя парадкі і тагачаснае[6] жыццё народа. У расейскім пісьменстве таксама шмат хто займаўся гэтым, але ніхто з такой глыбінёй і сілай не здолеў намаляваць іх, як гэта зрабіў вялікі ўкраінскі паэт. Гэта прызнае і расейская літаратурная крытыка.

Аж страх погано
У тім хорошому селі:
Чорніше чорноі землі
Блукають люди; повсихали
Сади зелені, погнили
Біленькі хати, повалялись,
Стави бур'яном поросли,
Село неначе погоріло,
Неначе люди подуріли.
Німі на панщину ідуть
І діточек своіх ведуть!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І не в однім отім селі,
А скрізь на славній Україні
Людей у ярма запрягли
Пани лукаві... Гинуть! Гинуть!
У ярмах лицарські сини.

*(«І виріс я на чужині»)*

Гэтак жыў тады народ ва ўкраінскай вёсцы, як і агулам ва ўсёй Расеі. З гэткімі парадкамі павёў Шаўчэнка няўпынную барацьбу і даў у сваіх творах такія абразкі іх, якія, да глыбіні душы ўзрушваючы[7] сучасніка гэтага, для дзетак патомных будуць яркай памяткай аб тым, як жылося іх бацькам.

Ви — розбійники неситі,
Голодні ворони.
По якому правдивому,
Святому закону
І землею, всім даною,
І сердешним людом
Торгуєте? Стережіться ж,
Бо лихо вам буде.

*(«Холодний Яр»)*

Гнеўна звяртаецца Шаўчэнка да паноў, гнятучых сваіх падданых і мала нават задумваючыхся над тым, ці маюць яны на гэта маральнае права.

Багата злыбеды і няпраўды бачыў на свеце паэт, але заўжды верыў ён у тое, што:

...Недовго на цім світі
Катам панувати,
Встане правда — встане воля.

Горача клікаў Шаўчэнка землякоў сваіх не чурацца роднай мовы і цвёрда памятаць:

...що ми,
Чиі діти, яких батьків.

Далей знаходзім мы ў Шаўчэнкі абразкі ціхага, сямейнага шчасця, любоўных перажыванняў і г. д.; усё гэта глыбока праікнута гуманнасцю, любоўю да чалавека, агулам да ўсіх пакрыўджаных і абяздоленых найболей. Трудна ў кароткім газетным артыкуле[8] нават і пералічыць усе тыя тэмы, якія мы знаходзім у «Кабзары», ніхто з гэткім талентам не пісаў па-ўкраінску, ні перад Шаўчэнкам, ні пасля яго. Творы Шаўчэнкі тлумачаць на ўсе еўрапейскія мовы, на ўвесь свет праславіў паэт сваю бацькаўшчыну Украіну.

Нам, беларусам, якія жывём у варунках, дужа падобных да ўкраінскіх,— толькі пачынаючым яшчэ тую працу над адраджэннем свайго краю, якая на Украіне даўно ўжо вядзецца, трэба жыва цікавіцца ўкраінствам і шмат у чым браць адтуль прыклад.

Дужа карыснай для нас будзе і бліжэйшая знаёмасць з украінскім пісьменствам, якое з'яўляецца найболей дэмакратычным у свеце. Мова ўкраінская дужа падобна да беларускай,

беларус, бадай што, усё напісанае па-ўкраінску можа зразумець.

Шаўчэнкавага «Кабзара», кнігу, даўно ўжо стаўшую каранам украінства, кожны свядомы беларус павінен прачытаць; трэба, каб вялікі ўкраінскі паэт папраўдзе стаў і нам бацькам мілым, — як гэтага жадае ў сваім вершы Янук Купала[9].

# ЖЫЛА, ЖЫВЕЦЬ І БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

(К гадаўшчыне «Нашай нівы»)

Пакратай мінуўшчыны попел,
Што ў казках не кінула жыць...

*Я. Купала*

Жыла, жывець і будзе жыць душа народа нашага!

Душа народа нашага — гэта тая падземная імпэтная моц жывой крыніцы, якая[1], знаходзячыся пад каменным пластом, шукаець сабе болей рыхлага слою зямлі для выхаду ўверх. І напор той маець гэткую сілу ў сабе, што нягледзячы ні на якія перашкоды, нарэшце, усё ж такі, вырываецца на сонейка і, разбіваючыся цудоўным фантанам, разыходзіцца па лугах-палёх ручайкамі, разліваецца на бязмерныя абшары, падымаючы свой зычны кліч: «Жыла, жывець і будзе жыць!..»

Душа народа нашага — гэта тая жывая кіпучая кроў у жылах, тыя пачуцці і думкі ў сэрцы, якія перадаюцца нам, як спадчына, з роду ў род... У сваёй самабытнасці, у сваёй іначасці ад другіх выяўляець яна свой блеск, сваю неацэненую вартасць як для сваіх, так і для чужых, акружаючых яе.

Душа народа нашага жыла ў благіх гістарычных варунках, жыла пад няволяй у другіх, мацнейшых, якія хацелі сцёрці яе самабытнасць, але такі ніякай рады не далі,— і пры першай бліскавіцы свядомасці чужы налёт папічаў рассейвацца, як попел ветрам, а душа народа пачала красавацца ў сваёй чыстаце і блеску.

Колькі трагізму было ў гісторыі народа нашага! Колькі цемнаты і нядолі! Колькі вызыску яго рознымі грубымі сіламі! Колькі болю і слёз, пачынаючы ад часу прыгону! Здавалася, ужо ворагі краю беларускага свайго дасціглі, дабіліся таго, што шмат з нашых братоў ахвяравалі свае сілы чужым, запрадалі ім душы свае...

Узгадаваныя на руках пакутніка-ратая, гэтыя адступнікі выкпівалі з яго, адракаліся памагаць чым-колечы «хаму-мужыку». Дайшло да таго, што «хам» гэты думаў, нібы ён прапашчы навекі чалавек; нібы ён ніжэйшае стварэнне ад другіх «паноў багатых ды адукаваных разумнікаў». Ужо, здавалася, канец, магіла. Але сваім чародам, па закону, прызначаным ад прыроды, душа беларуская: «Жыла, жывець і будзе жыць!»

Душа народа, нягледзячы на нішто, гадавалася ў творчасці, харастве. У песнях сумных і вясёлых, у вырабах — тканінах, рэзьбах і г. д.— яна вылівала затаеныя думкі свае і такім

парадкам тварыла нам свае скарбы, пісала сваю летапісь — Евангелле... Несвядома ішла барацьба духу беларускага з усім для яго шкадлівым. Што гэта? Што гэта,— пыталася само сэрца народнае. Мы жыць хочам! Жыць хочам!..— адказвала яно самому сабе кожны раз... і як блізкі, зразумелы былі народу гэтыя чулыя струны сэрца!.. Нешта да болю, да слёз кратала, будзіла сыноў Беларусі-маткі да вольнага, светлага жыцця, да пазнання сваёй вялікай вартасці.

«Жыла, жывець і будзе жыць!..»

Гэты міфічны кліч восем гадоў таму назад пабудзіў выліцца думы сэрца народнага ў болей рэальныя і відзімыя формы. Паявілася ў свет першае свядомае беларускае друкаванае слова— «Наша доля», а ўслед за ёю — «Наша ніва».

«Наша ніва», не гаворачы аб іншых розных беларускіх часопісах,— ад пачатку свайго паяўлення ў свет па сягоннешні дзень — гэта чыста народная часопісь, у якой ясна адбіваецца думка нашых мазольных братоў з розных глухіх куткоў Беларусі. З кожным годам паяўляюцца на ніве роднай усё новыя і новыя сілы. З кожным годам наша родная мова на старонках[2] «Нашай нівы» «шліфуецца-гартуецца», робіцца ўсё болей чыстай, гібкай і выразнай, робіцца здатнай на маляванне самых чуць ухопных пачуццяў душы і звініць, як той жаў-

ронак вясною над свежай раллёй, як тая дудка хлопчыка-пастуха на лузе...

І большая частка братоў нашых ужо пачынае разумець, што мова наша не ёсць «простая», «хамская»... І вучоная моладзь наша — вучыцелі, студэнты, дактары, аграномы, інжынеры і г. д.— ужо не гавораць і не пішуць толькі на «панскіх» мовах, але самае першае мейсца займаець у іх свая родная...

«Наша ніва» не прапаведуе сляпога, шавіністычнага нацыяналізму, але маець за закон: «Свайго не чурайся і чужога навучайся!» Мэта яе: праца шчырая і прасвятленне роднай Белай Русі на эканамічным і культурным грунце. Праўда, шмат нападкаў маем ад суседзяў сваіх, яны стараюцца чым болей каменняў накідаць на шляху нашым, але мы, не астанаўліваючыся, цвёрда ідзём наперад.

І вось у часе гадаўшчыны «Нашае нівы» мы смела кажам: «Жыла, жывець і будзе жыць Беларусь-маці!» Мы ў гэта свята верым!

## МОВА ЦІ ГУТАРКА

Калі я прачытаў у № 5 «Нашай нівы» карэспандэнцыю я-ця «Argusa»[1] аб тым, як у Піншчыне «паркалёвенькія» беларусы даводзяць, што наша мова не мова (язык), а толькі

гутарка (нарэчые), і што інтэлігент-беларус, спагадаючы адраджэнню сваёй бацькаўшчыны, баіцца, ці будзе што з гэтага, бо хіба ніколі ў нас не будзе геніяў; прачытаўшы ўсё гэта, я ўспомніў, што колькі разоў і мне даводзілася чуць гэткае.

Дужа сумна, але гэта факт, што цяпер яшчэ шмат беларусаў кажа гэтак. Вось гэтых людзей можна раздзяліць на дзве катэгорыі. Да адной належаць перш-наперш кар'ерысты, думаючыя толькі аб тым, як бы дагадзіць начальству. Гэтых людзей, хоць ім кол на галаве чашы, цяпер не пераканаеш, бо на беларушчыну глядзяць зверху коса. Во каб зверху глядзелі прыхільна, тады і яны казалі б іначай. Далей ёсць людзі пустыя, мала начытаныя, няўмеючыя думаць крытычна і дзеля гэтага хватаючыя на веру слоўцы, якія яны дзе пачуюць. Каб яны падпалі пад уплыў свядомага беларуса, то пачалі б гаварыць іначай, але ад гэтых хлестаковых беларушчыны, бадай што, не вялікая карысць будзе.

Да другой катэгорыі належаць людзі, самі па сабе нават нішто, якія часта трымаюцца паступовых думак, але на беларушчыну глядзяць яны непрыхільна дзеля таго, што зусім мала з ёй знаёмыя. Вось ім трэба сказаць і вытлумачыць, што дужа паважаныя ў вучоным свеце філолагі і этнографы — паміж іншымі і расейскія,— пасля сур'ёзнай і сумленнай працы

прыйшлі да вываду, што беларусы гэта аддзельны народ, мова іх распадаецца на свае гаворкі (нарэчыя) таксама як і вялікаруская, але зусім незалежна ад яе. Трэба прыпомніць гэтым ягамосцям, што беларускае «нарэчые» было праз цэлыя вякі часу дзяржаўнай[2] мовай, у ёй законы пісаліся, ва ўсіх дзяржаўных установах яна панавала, па-беларуску гаварылі князі і вяльможы, беларускіх кніг тады друкавалася болей, як маскоўскіх, першая наша кніга надрукавана без малага 400 гадоў таму назад (1517 г.— Біблія Скарыны).

Далей, шмат ёсць такіх людзей, якім, канешне, патрэбен аўтарытэт нейкі, ім трэба паказаць, што і дужа выдатныя людзі трымаліся гэткіх поглядаў на беларушчыну, як мы. Вось ім можна параіць прачытаць хоць бы «Историю русской этнографии». Т. III, «Белоруссія» Пыпіна[3] (імя здаецца даволі аўтарытэтнае), варта перачытаць славутых расейскіх філолагаў і этнографаў, якія займаліся Беларуссю, прыпомніць, што ўсе расейскія паступовыя партыі прызнаюць справядлівасць нашых нацыянальных дамаганняў і выступалі ў абарону іх.

Вось звярнуўшы на ўсё гэта ўвагу ды добра растлумачыўшы, можна дзе якога «блуднага сына» вярнуць да бацькаўшчыны.

Тым ягамосцям, што вытыкаюць нам, чаму ў нас няма Пушкінаў і Талстых, не шкодзіць

памятаць, што беларускі рух пачаўся зусім нядаўна. У расейцаў таксама не адразу паявіліся вялікія пісьменнікі. Пачалося пісьменства, як гэта павінна быць інтэлігенту вядома, не з Пушкіна, а з Канцяміра, Трэдзьякоўскага Ламаносава, Сумарокава, Хераскава і інш. Нямала гадоў прайшло, пакуль з'явіўся Пушкін. Здаецца, нашы маладыя пісьменнікі не горш хіба ад Канцяміра, Трэдзьякоўскага і інш. Пачакайце, ягамосьці, дайце часу, можа, будзем мець і сваіх Пушкінаў ды Талстых.

А калі і не будзем, нічога гэта не даводзіць. Геніі на каменню не родзяцца, з'яўляюцца, не падлягаючы ніякім законам. Датчане, сербы, балгары, румыны і інш. народы лепей ад беларусаў жывуць, не дэнацыяналізаваны, а пісьменнікаў, роўных Талстому, у іх няма. Тым не меней ніхто, здаецца, не сумняваецца ў тым, што гэтыя народы маюць права да нацыянальнага жыцця. Маем яго і мы, беларусы, хоць бы і папраўдзе ніколі не даждацца нам сваіх Пушкінаў і Талстых. Прытым як будзе, яшчэ пабачым.

Аж прыкра ўспамінаць гэтыя старыя праўды, але што ж зробіш, калі не ўсе ўцямілі іх.

Праводзіць і шырыць справядлівыя погляды на гэта сярод іх — наша святая павіннасць.

# ЯКОЙ НАМ ТРЭБА ШКОЛЫ

## I

Патрэбу і карысць асветы ў нашай вёсцы цяпер людзі пачынаюць разумець. Даўней, калі загаварыць аб гэтым з селянінам, найчасцей пачуеш, што гэта ўсё пустое, што араць патрапіць і неграматны і, адным словам, не трэба пасылаць дзяцей у школу; а цяпер ужо не. Гэткай гаворкі неяк зусім не чутно,— бадай кожны кажа, што грамату ведаць трэба, што непісьменнаму[1] надта цяжка жыць на свеце, і пры гэтым прыводзяць прыклады з жыцця і выказваюць думкі, калі і дзе грамата бывае патрэбна. Найбольш яны звяртаюць увагу на тое, што цяпер часта прыходзіцца выязджаць людзям у гарады, а непісьменны зусім неяк у горадзе траціць галаву, не ведае, куды папасці, дзе чаго шукаць, а калі работу і найдзе, усё яму пападзецца работа пушчэйшая, і плацяць яму меней. Цяжка непісьменнаму і ў салдатах: з «словеснасцю» надта трудна яму справіцца,— захоча ліст дамоў напісаць — прасі ласкі, а то і гасцінца давай, бо сам жа не патрапіш гэта зрабіць. У штодзённым вясковым жыцці таксама непісьменнага і ані не ўмеючага лічыць грошы пры ўсякай куплі і прадажы ці плацячы за работу, лёгка можна ашукаць, акруціць; а пасля,

калі пісьменны прыяцель праверыць рахунак, ашуканы бядак толькі чухае патыліцу, чаму гэта ён у дурных застаўся, а паправіць таго ўжо няма як.

Вось гэтыя факты штодзённага жыцця і навучылі селяніна, ясна далі яму зразумець, наскольні патрэбна грамата.

Праўда, усё гэта было і даўней, а тым не менш казалі тады, што грамата не патрэбна, але за апошнія гады народ стаў куды разумнейшы, стаў болей думаць над тым, што к чаму ідзець, і зразумеў праміж іншага карысць асветы.

Болей разумныя і ўдумлівыя сяляне кажуць яшчэ і так, што пісьменнаму і тое добра, што можа чытаць ён газеты і кніжкі, а з іх шмат чаго даведацца аб тым, як гэта весці гаспадарку, каб яна давала большы даход, як людзі жывуць на свеце, што яму самому рабіць, каб палепшыць сваё жыццё і г. д. Наогул, скажу тут ужо ад сябе, што чытанне разумных і карысных кніжак дужа развівае чалавека: даведаўшыся з іх, адкуль што і к чаму вядзе, ён робіцца святлейшым, прывучаецца думаць незалежна, крытычна, не браць на веру ўсяго, што дзе пачуе, а прымаць толькі тое, што, абдумаўшы, прызнае добрым; ён вызваляецца ад улады ўсялякіх забабонаў, з'яўляецца і сёе і тое, можа, што добрага з гэтага выйдзе, і прадзядоўская думка, што раз пры бацьках і дзядах нашых гэтага не было,

значыць, і нам не трэба,— выдаецца яму і смешнай і глупай.

Адным словам, вялікае[2] значэнне мае асвета і тое, што наш народ гэта зразумеў, не чураецца яе, а наадварот, хапае яе, колькі мага адусюль — во гэта адно, а побач з гэтым некаторыя іншыя праявы жыцця напаўняюць нас радасцю і даюць змогу верыць у тое, што

будуць жыці дзеткі патомныя
добраю доляй, доляй шчасліваю[3].

Але хоць і прызнае народ патрэбу асветы, усё ж такі мы часта чуем, што наракае ён на цяперашнія школы: кажа, што не таго ў іх вучаць, чаго трэба, што дзеці шмат часу там марнуюць дарма, без усялякай для сябе карысці, і наогул не надта ён імі здаволен. А калі прыгледзецца да гэтай справы лепей, дык і праўда, ёсць такі чым быць нездаволеным,— шмат што нарыхтавана зусім не так, як трэба.

Перш-наперш мала ў нас школ, страшэнна мала. Цяпер адна школа ад другой часта бывае аддалена на некалькі вёрст, а то і міль,— дзеткам прыходзіцца рабіць такія пераходы, якія ім, асабліва зімой, у сцюжу, бываюць дужа цяжкія, а то і зусім непасільныя. Далей, школы не могуць стоўпіць усіх, што хочуць вучыцца. Усякаму, хто знае жыццё нашай вёскі, добра вядома, як гэта кожную восень прыходзіць за-

пісваць сваіх дзяцей у школы маса бацькоў і вучыцелі шмат каго з іх адпраўляюць з носам, бо нягледзячы на найлепшую ахвоту ніяк нельга ўсіх прыняць, мейсцаў не хапае. Вядома таксама, што часта школы памяшчаюцца ў дрэнных старых хатах, брудных, сырых, халодных, так што і вучыцелю і вучням хоць кажухі надзявай у класе, каб не мёрзнуць. Усялякай школьнай прыладай: кніжкамі, глобусамі і да т. п. народныя школы ўзапашаны ў нас далёка не так, як за граніцай — усяго мала — тым часам, каб ткі навука добра ішла, гэтак быць не павінна — трэба было б, акрамя таго, пры ўсіх школах завесці бібліятэкі, каб і вучні, і іх бацькі мелі змогу свабодную часінку правесці не ў карчме за чаркай і сваркай, а за добрай карыснай кніжкай. Усё гэта трэба... эх, і нічога гэтага няма.

Каб завесці агульную асвету і даць змогу кожнаму вучыцца ў школе, трэба цэлыя дзесяткі тысяч новых школ адкрыць, каб упарадкаваць гэтыя школы і ўсё ў іх як найлепей наладзіць, трэба на кожную школу куды больш расходаў, чым гэта цяпер робіцца. Адным словам, трэба грошы і яшчэ раз грошы, трэба мо ў дзесяць разоў больш даваць на народную асвету, чым даецца цяпер. І дзяржава[4] гэта павінна даць, няхай казна дае на гэта грошы не жалеючы, бо народная асвета — гэта адна з найбольш

пякучых і неадкладных[5] дзяржаўных патрэб — шмат на чым іншым можна і варта зберагчы грошы, змяншаючы расходы, але на народную асвету грошы жалець нельга.

Далей мы ведаем, што наш народ жывець дужа бедна, што харчуецца ён дрэнна — хлеб часценька бывае з мякінай, а напрадвесні бывае, што і саўсем яго няма — дзеткі ў школу прыходзяць часта галодныя, а ведама і зразумела павінна быць кожнаму, што галоднаму не надта на карысць пойдзе навука, што нялёгка яе ўцяміць, калі есці хочацца. У бацькоў усё з грашамі няўпраўка — няма за што і адзежы як мае быць дзеткам купіць, і ідуць яны, бедныя, у школу часам некалькі вёрст па марозу, у дзіравых лахманах мерзнуць і хваробы нажываюць.

Паміж іншым, добра было б завесці і тое, каб у вучылішчах, як гэта за граніцай ужо шмат дзе ёсць, дзецям давалі гарачыя харчы і адзежу, каб кожны, пасылаючы дзіцё ў вучылішча, ведаў, што і навучаць яго там як трэба і парупяцца, каб і галоднае яно не было. Цяпер паглядзім, як гэта ў нас наладзілася навука па школах і ці ўсё там зроблена так, як павінна быць, ці такую мы маем школу, якой нам трэба.

## II

Калі прыгледзецца, чаго ў нашых народных школах вучаць, то адразу выдаецца, што і многа чаго вучаць: і арыфметыцы, і геаграфіі, і граматыцы, і вершам усялякім, і шмат чаго іншага. Падумаеш, ці ўсё гэта, што трэба, і неяк здаецца, што не ўсё. З чаго ж тыя дзеткі будуць жыць, над чым ім прыйдзецца працаваць, скончыўшы школу? Найбольш з іх будзе працаваць каля зямлі, іншыя, можа, пойдуць у гарады. Калі так, дык каб школьная навука была болей карыснай, каб болей яна знадабілася ў жыцці, трэба было б дзетак вучыць, як добра гаспадараваць, як хадзіць каля зямлі, як вырабляць яе лепей, як скаціну даглядаць, як з ворагамі-чэрвямі, жукамі, што псуюць пасевы і сады, змагацца і г. д. Тады б мо, зрабіўшыся гаспадарамі, вучні лепей бы сталі гаспадараваць ад сваіх бацькоў і болей бы мелі з гаспадаркі, як яны. Добра было б, каб пры школах вучылі і рознай майстэркі і вучылі там рабіць дзе кавальства, дзе сталярства. Каб усяго гэтага павучыцца, мо трэба было б які гадок даўжэй вучыцца,— што ж, нічога не зробіш,— затое куды карыснейшай была б гэткая навука ад цяперашняй. Каб надта дзіцяці[6] галаву не дурыць, можа, добра было б меней, як цяпер, вучыць граматыцы і геаграфіі, бо, праўду сказаўшы, калі прагледзець добра пра-

грамы таго, чаго навучаюць цяпер у школах, то шмат што варта было б і выкінуць або замяніць іншым, болей карысным для хлебароба і рамесніка.

Мы ведаем, што дома дзеткі гавораць, як і іх бацькі, па-беларуску, інакшай мовы нідзе і не чуюць. Іх бацькі, пабываўшы ў салдатах, у гарадах, маючы дзела з начальствам, хоць і гавораць самі па-беларуску, але і расейскую мову разумеюць, ну а дзеткі і саўсем яе не знаюць. Вось стануць яны хадзіць у школу, а вучыцель адразу да іх па-расейску, і ўся навука ў расейскай мове вядзецца. Слухаюць яны, дзівуюцца: чаму тут гавораць не так, як дома, і шмат чаго не разумеюць. Усякія тут мудрыя, не чуваныя дагэтуль словы: ізба, лук, забор, нужно, потолок, стул і т. д., і колькі дзетка намучаецца дармо, пакуль дадумаецца, што гэтыя словы азначаюць тое, што і добра вядомыя, саўсем не падобныя да іх словы: хата, цыбуля, плот, трэба, столь, зэдлік. Часамі бывае, што пачуе і знаёмае слова, але саўсем другое яно значыць, напрыклад, «пахаць», гэта значыць — «араць», а па-нашаму баронамі пашуць, «пряник» — саўсем не падобны да нашага «праніка», якім бялізну выбіваюць, «благой» падобны да нашага «благі», а значыць яно па-расейску — добры, гэтаксама слова «уродливый» падобна да нашага «урадлівы» — «ураджайны»; а па-нашаму

«твар» саўсем не тое значыць, што па-расейску.

Адным словам, калі ў Вялікарасеі дзіцяці адны труды ўцяміць навуку, у нас, на Беларусі, беларускаму дзіцяці трэба куды болей дарма патраціць часу на разгадку незразумелага, а на навуку сваім парадкам трэба класці сілы. Не дзіва, што за той самы час беларускае дзіця куды меней паспее навучыцца і чужая школа яму не гэтулькі дае карысці, колькі магла б даць свая, такая школа, у якой[7] навука адбывалася б у роднай яго мове. І нашто гэта вучыць па-чужому? У нашай мове ўсё чыста, што трэба, можна сказаць. Увесь народ гаворыць ёю, і слоў яму, каб усё выказаць, хапае. І газеты, і кніжкі, якія аб усім пішуць, у нашай мове выходзяць: з кніжак мы ведаем, што калісь даўней нашай мовы не чураліся і князі, і паны, і духоўныя ўсе гаварылі ёю, усе кнігі, законы пісаліся ў ёй, у судзе суды ў ёй вяліся, князі і баяры прамовы ў ёй гаварылі, войскам камандавалі, во як было. І выходзіць, што наша мова такая ж добрая, як і ўсе другія, і ўсё ў ёй выказаць можна, а нам яна яшчэ і затое добрая і дарагая, што яна наша родная, што ад пялёнак яе мы чуем кругом сябе, што з малаком матак нашых мы высcалі нацыянальны склад душы сваёй, што першае слова, сказанае намі, было беларускае, што беларуская кроў у нашых жылах цячэ, і што памятаем мы, чые мы дзеці,

якіх бацькоў, і дамагаемся, каб усе гэта памяталі, каб не адбіралі ў нас нашага найдаражэйшага скарбу, роднай мовы, каб не забівалі нашай душы.

Вось усюды мы, беларусы, павінны чуць беларускую мову: і ў храме Божым, і ў судзе,— у роднай нашай мове, а не інакшай якой, павінна вясціся і навучанне нашых дзетак. Гэтак павінна быць, і цвёрда мы верым, што дажджом таго, калі гэтак будзе.

Усе школьныя кніжкі павінны быць дапасаваны да патрэб нашага народа і краю. Трэба, каб у большых класах вучылі і расейскай мовы, як дзяржаўнай, але ўся пачатковая навука павінна вясціся толькі па-нашаму.

Калі ўсяго гэтага мы дажджом, калі ўсё, аб чым я тут мяльком толькі, саўсем не счэрпаўшы справы, намякнуў, будзе заведзена, вось тады на пытанне, якой нам трэба школы, мы і адкажам — такой, якая ў нас ужо ёсць.

## АБ ВЯСКОВАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

Па нашых вёсках і мястэчках, пасярод шэрай хлебаробскай масы, шмат жыве вясковай інтэлігенцыі: народных вучыцеляў, фельчараў, пісараў ва ўсялякіх канцылярыях і інш.

Як вядома — гэта найболей беларусы з крыві

і косці, сялянскія дзеці, якім пашэнціла або закончыць спецыяльныя школы (фельчарскія школы, вучыцельскія семінарыі), або проста навучыцца сяк-так грамаце ды дзе-небудзь прыстроіцца. Плату яны атрымліваюць найболей надта малую; з грашамі, як ні круці, як ні беражы, каб на ўсё меней выдаць, пастаянная выходзіць няўпраўка. Значыцца, гора і бедната, з якой яны пазнаёміліся, гадуючыся ў бацькоўскай хаце, не пакідае іх і пасля, ды праз усё жыццё гняце.

Але ўсё ж такі жывуць яны лепей ад сялян, працуюць не рукамі, а галавой, свабоднага часу маюць шмат болей, і зусім натуральна было б, каб яны шмат чыталі, і ўсім цікавіліся, ды шырылі асвету сярод сярмяжных братоў, служылі б цэнтрамі, каля якіх групаваліся б усе болей культурныя і свядомыя сілы вёскі.

Гэтак яно магло б быць і павінна быць, але не заўсёды гэтак ёсць.

Пісарчукі, праўда, меней ад другіх зарабляюць, але і культурная вышыня між імі шмат ніжэйшая. Людзей удумлівых, развітых душой, людзей, каторыя б пачувалі на сабе якую-небудзь павіннасць, апрача скарынкі хлеба на свой жывот, працаваць яшчэ і для народа, тутака дужа мала. Перамагаюць людцы, якія з вялікай пагардай глядзяць на той народ, з якога яны выйшлі, чураюцца роднай мовы сваёй і,

хоць часта дужа дрэнна, гаворацъ «па-панску», адным словам, «паркалёвыя» людцы з ідэалогіяй: карты, гарэлка, распуста, адным словам, бруд жыцця.

Шмат культурней народныя вучыцелі і фельчары. Паміж імі куды болей людзей, якія добра разумеюць сваю грамадзянскую павіннасць, ды колькі мага яе выпаўняючых; людзей, якія сочаць за поступам і развіццём думкі культурнага чалавецтва. Але ўсё ж такі і тут гэткіх людзей не шмат, і толькі невялічкая частка вясковых інтэлігентаў робіць усё, што трэба. Затое шмат людзей і тутака — далей цыркуляраў начальства — свету Божага не бачаць. Усю грамадзянскую мудрасць яны чэрпаюць з чарнасоценных газет, на таварышаў, што думаюць іначай, гэтыя людцы гатовы і брахлівы данос напісаць. Але тут гэткія людцы большасць не састаўляюць. Большасць вучыцеляў і фельчараў чытае якую-небудзь шаблонную ліберальную газетку,— часта прачытае паважную, сумленна апрацаваную кніжку ці твор краснага пісьменства, але агулам чытае мала; у акружаючым іх разбіраюцца не надта добра; акром таго, што вымагае служба, не вядзе ніякай культурнай працы ў народзе, хоць на славах прызнае вялікую яе патрэбу.

Жывуць гэтыя ягамосці сярод гаротнага народа, самі з яго выйшлі, самі шмат гаруюць, і

тым болей павінны былі б адчуваць супольнасць з ім; але неяк з простымі, беднымі сялянамі зусім мала яны сябруюць. Трымаюцца або толькі самі з сабой, або вядуць кампанію з людзьмі багацейшымі, у якіх свабодную часіну запаўняюць карты, гарэлка, плёткі ды інш. У такой кампаніі паважныя рэчы не ў модзе, разумнай гаворкі не пачуеш. Тым болей сумна, што сярод праводзячых гэтак час пападаюцца і людзі разумныя, якія шырэй глядзяць на свет.

Тым часам колькі дабра мог бы зрабіць інтэлігенты працаўнік! Шмат дзе па вёсках ёсць такія ж бедныя, як усе сяляне, але людзі разумнейшыя ад другіх, болей удумлівыя, развітыя і якія хочуць яшчэ чаго даведацца. Гэткія людзі ахвотна чытаюць, а іншыя гэтак начытаны і развіты і энергічны, што самі шыраць асвету; але куды болей такіх, якім патрэба крапчэйшых сяброў, якія б патрапілі падтрымаць іх энергію і лепшыя парывы. Калі гэтага няма, то яны апускаюцца,— культурныя патрэбы памалу знікаюць, і хутка яны ўжо нічым не розняцца ад звычайных шэрых сялян.

Вось вясковыя інтэлігенты перш-наперш павінны згрупаваць каля сябе гэткіх людзей, завадзіць з імі сур'ёзныя гутаркі, заахвочваць да чытання добрых кніг і газет, агулам не даваць заглохнуць іхнім культурным патрэбам. Трэба парупіцца, каб гэткіх людзей рабілася

ўсё болей ды болей, каб з іх памалу шырылася асвета і ў цёмнай масе. Трэба дбаць, каб там, дзе варункі падыходзяць да гэтага, закладаліся ўсялякія хаўрусы і гурткі, каб народ прывучаўся лепей гаспадараваць на зямлі.

Але яшчэ большае значэнне мае рост грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці; куды важней ад матэрыяльнай карысці,— якую дасць добра развіваючыйся хаўрус, або новы спосаб гаспадаркі,— тое, што з поступам асветы ўсё болей і болей крытычна ва ўсім разбірацца будзе народ,— што аслабаніцца ён дзеля гэтага з-пад улады ўсялякіх забабонаў і страхаў і лепшую долю сабе здабудзе.

## ХТО З НАМІ, ХТО ПРОЦІЎ НАС

Усё болей ды болей шырыцца і развіваецца беларускі культурна-нацыянальны рух. Прыбываюць новыя сілы: паэты, пісьменнікі, грамадскія працаўнікі. Хутка расходзяцца ў народзе беларускія газеты, календары, кніжкі... праз што ўсё больш ды больш цяпер людзей, якія ведаюць, што яны беларусы, што, навучыўшыся добрага ў чужых, свайго чурацца нельга.

Вось дзеля гэтага на нас цяпер болей звяртаюць увагі ўсе нашы суседзі, як прыяцелі, так і ворагі з паміж іх. Пакуль беларусы маўчалі

і ніякай нацыянальнасці ў нас не было, датуль мала хто аб нас успамінаў. Возьмем хаця б адносіны[1] да нас расейцаў. Тыя людзі з паміж расейцаў, каторыя, як цяпер усялякія чарнасоценцы, казалі, што ніякіх перамен у жыцці працуючага народу не трэба, што нібыта яму і так добра жывецца, а ўсіх, як яны называюць, інародцаў трэба ціснуць, каб зрабіць іх расейцамі. Гэтыя людзі рэдка калі спаміналі нас, мабыць, думаючы, што і так «заснула Беларусь, навекі заснула».

Вялікія пісьменнікі, паэты, публіцысты, грамадзянскія дзейцы, вучоныя, праславіўшыя расейскае імя на ўвесь свет (пасярод іх прыхільнікаў чарнасоценства ў той ці другой форме так як бы і зусім не было), ды іх прыхільнікі, голасна кажучы, што шмат у чым патрэбны перамены, каб палепшала народнае жыццё, заступаліся за ўсіх прыгнечаных і пакрыўджаных. Але і яны неяк забываліся аб тым, што беларускі народ гэта адзін з найболей прыгнечаных і пакрыўджаных, — з якога б боку на яго ні глянуць, і мала на яго звярталі ўвагі.

Жадаючы перамен у народным жыцці, дзеля якіх шмат яно палепшала б, жадаючы гэтага для ўсіх расейскіх грамадзян, само сабой яны не выключалі адгэтуль і беларусаў. Гаротная доля нашага селяніна не магла не кінуцца ў вочы, і расейскія пісьменнікі не раз малявалі

яе ў сваіх творах. (Напрыклад, адзін з найвялікшых вялікарускіх паэтаў Някрасаў два разы спамянуў яго ў сваіх творах дужа моцнымі словамі («Железная дорога», «Кому на Руси жить хорошо»). З гэтага боку мы на расейскае грамадзянства жаліцца [мы] не маем [права]. Але аб тым, што ў беларусаў ёсць таксама і нацыянальныя патрэбы, што для таго, каб глыбей і шырэй пранікла культура ў народную масу, ва ўсіх школах вучыць трэба па-беларуску і агулам завесці ва ўсіх установах [інстытуцыях] нашага краю родную народу мову,— аб гэтым паступовыя [расейцы][2] неяк зусім мала гаварылі. Горача баронячы нацыянальныя правы тых жывучых у Расеі народаў, каторыя самі за іх змагаліся, лепшыя расейскія людзі аб нас мала гаварылі, дзеля таго, што і самі мы сваіх нацыянальных правоў не баранілі, а ім збоку мала было і відаць, ці нам што гэткае трэба, ці мо і не. Усё ж такі некаторыя выдатныя расейцы, што пісалі аб Беларусі навуковыя працы, лепей пазнаўшы пры гэтым наш край і яго патрэбы, зусім ясна ды цвёрда выказалі думку, што беларусы — гэта асобны[3] народ. Аб гэтым пісалі знакаміты расейскі гісторык Пыпін, этнограф Бяссонаў[4] і інш. Пісалі яны шмат часу перад тым, як пачалося беларускае нацыянальнае адраджэнне, і тым большае значэнне маюць іх словы.

Цяпер, калі не толькі асобныя людзі, а і беларуская народная маса памаленьку пачынае рабіцца нацыянальна свядомай, усё гэта зусім перамянілася.

Нацыяналісты і ўсе, хто з імі, многа пішуць аб беларусах; шкада толькі, што страшэнна мала там праўды, сумленнасці, логікі, а ўсё найболей брахня, выдумкі, даносы, лаянка; чаго толькі яны аб нас не пісалі, якой напрасліны не ўзвальвалі, ніякіх уступак і палягчэнняў не хочуць яны нам даць, а ўсе выступаюць супраціў.

Інакш цяпер адносіцца да нас і паступовая Расея. Цяпер, калі мы змагаемся за сваё нацыянальнае права, то немінуча трэба даць і ім нейкі адказ: ці прызнаць гэтыя дамаганні справядлівымі, ці не. Вось тут мы можам сказаць, што дайжа ўся паступовая Расея за нас. У 3-й і 4-й Думе паступовыя дэпутаты [як кадэты, так і трудавікі і сацыял-дэмакраты] выступілі ад імя сваіх фракцый з прамовамі, у якіх баранілі правы другіх народаў. Успаміналі нас, кажучы, што наша мова павінна мець такія ж правы, як і ўсе іншыя. Час ад часу заступаюцца за нас у сваіх артыкулах публіцысты. Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Пецярбургскага універсітэта сустрэў дужа прыхільныя адносіны з боку прафесараў; некаторыя пры гэтым болей шырока выказалі свае думкі аб

беларушчыне. Паміж іншымі прыхільна да нашага народу адносяцца такія выдатныя вучоныя, як Шахматаў[5], Аўсянікаў-Кулікоўскі[6], Карскі[7], [Раманаў][8]. Але ўсё ж такі нельга змоўчыць і таго, што зусім мала пішуць аб нас расейскія паступовыя газеты і часопісы, рэдка калі бароняць нас [і дэпутаты]. Гэта тым болей прыкметна, што нацыяналісты і ўсялякія іх сябрукі, наадварот, надта многа ўвагі звяртаюць. Калі паступоўцы прызнаюць справядлівасць нашых дамаганняў, то часцей павінны б былі гаварыць аб нас.

Як бы там ні было, але надта добра і тое, што сімпатыі гэтай стараны з намі, а не з нашымі супраціўнікамі. Гэта мае для нас вялікае маральнае значэнне, і мы заўсёды можам сказаць, адказваючы на пытанні, хто ў расейскім грамадзянстве з намі, а хто супраціў нас[9].

## ІЗНОЎ ПАРКАЛЁВЫЯ

Нашы «паркалёвыя землячкі», сустракаючыся са свядомымі беларусамі ў супярэчцы з імі, часта выказваюць гэткую незнаёмасць элементарных, усім хоць трошку інтэлігентным людзям даўно вядомых праўд, што ім прыходзіцца даказваць ледзьве што не тое, што два разы два — чатыры, а не лаёвая свечка.

Ягамосць Піліп Дубчонак прыводзіць у № 10 «Нашай нівы» свой разгавор з «землячком», якога яму пераканаць не ўдалося. Калі б гэты «землячок» быў чалавекам сумленным ды ўмеў, хоць трошку, лагічна і крытычна думаць,— пераканаць яго было б не трудна. Што ж можа быць ясней ад таго, што нават пасярод людзей, якія заўсёды гавораць роднай мовай, якія ў сваёй роднай мове вучыліся ў школе, якія чуюць яе ва ўсіх урадавых установах, што нават пасярод іх далёка не ўсякі можа быць свядомым крытыкам, знаўцам і суддзёй у тым, як ачышчаць родную мову ад усялякіх няспрытных слоў ды зваротаў і замяняць іх лепшымі. Каб даць што-небудзь цэннае, трэба пасвяціцца навуцы аб мовах, філалогіі, добра пазнаць усе адмены і гутаркі сваёй мовы, і тады, разважыўшы і размеркаваўшы, чалавек можа даць цэнную ўвагу аб мове.

Каб гаварылася аб мове французскай, нямецкай, расейскай ці іншай,— нічога супраціў гэтага не адважыліся выказаць бы і «паркалёвыя»,— але раз гаворка ішла аб беларусах, то, відаць, «паркалёвыя» думаюць, што тут ужо ніякія законы логікі іх не абавязваюць: можна забыцца на тое, што беларускае нацыянальнае адраджэнне цяпер толькі пачынаецца і што, каб гаварыць і даводзіць нешта, то трэба ведаць тое, аб чым гаворыцца.

Колькі сот гадоў таму назад у нас дзяржаўнай мовай была наша родная беларуская мова, кніг тады ў нас друкавалася шмат (паводле Эстрэйхера, да завядзення гражданкі, кірыліцай было надрукавана кніг па-беларуску і ўкраінску — 897, па-славянску для Беларусі і Украіны 144, значыць, усяго 1041 кніга, а па-расейску і славянску для Расіі ўсяго толькі 556). Пасля:

Усё прайшло, мінула,
Як і не было;
У капцах паснула,
Зеллем парасло.

Здавалася, што Беларусь нацыянальна ўжо згінула зусім. Перад першымі працаўнікамі над адраджэннем бацькаўшчыны цяжкая стаяла задача. Уяўлялася канечная патрэба паставіць родную мову на такую вышыню, каб усё чыста, што цікавіць сучаснага інтэлігента, можна было ў ёй выказаць. Тым часам некалькі стагоддзяў[1] гаварыў па-беларуску толькі сярмяжнік, і дзеля гэтага сваіх слоў, выходзячых за граніцу яго далягляду[2], не хапае. Але пройдзе яшчэ гадоў 20—50 ці колькі сумленнай і шчырай працы, і справа нацыянальнага існавання беларускага народу не будзе ўжо выклікаць ніякіх супярэчак, будуць у нас свае школы, універсітэты і вучоныя (мо паміж імі знойдуцца і слаўныя на ўвесь свет людзі), будзе... Эх, шмат чаго

будзе гэткага, чаго няма цяпер. Нашы патомкі ўжо што-небудзь дастануць па бацьках гатовага, не так, як мы, прадстаўнікі першага пакалення нацыянальнага адраджэння Беларусі. Мы павінны цешыцца з таго, што на нашу долю дасталася хоць і нялёгкая, але высокая задача падлажэння фундаменту пад будынак лепшай будучыні роднага краю. Усякі, колькі можа, павінен у гэтым кірунку працаваць. Справа чыстаты мовы ды падняцця яе на вышыню вымаганняў сучаснасці дужа важная. Недахват пакуль што ў нас да гэтай работы вучоных спецыялістаў, але няхай шчыра працуюць самавукі. Калі што зробяць яны і не гэтак, як трэба, вякі патомныя ім даруюць, калі ўбачаць, што рабілася ўсё што можна і ад шчырай душы і сэрца.

Усіх сваіх сыноў кліча Беларусь да працы. Няхай і «паркалёвыя» скінуць з душы налёт чужога ды пачнуць сплачваць Старонцы сыноўскі доўг. Пэўна, што лепшая памяць застанецца аб тых, хто хоць і пазнавата, але вярнуўся да бацькаўшчыны, чым аб тых, хто да канца кідаў у родную матку гразёй.

Калі бачыць хто ў сучаснай беларускай мове недахваты,— няхай успомніць, у якіх яна варунках развіваецца! Шмат чаго можна тады зразумець.

А то яшчэ лепей, каб гэткі крытык сам

папрацаваў над чыстатой роднай мовы і на дзеле паказаў, як і што трэба казаць і пісаць. Само сабой, трэба палажыць не мала працы, каб пазнаць родную мову, трэба вучыцца роднай мове, трэба прыслухацца да таго, як народ вымаўляе тое ці іншае слова ў той ці іншай старане, трэба заглядаць і ў кніжкі і пазнаць, як гаварылі і пісалі даўней на Беларусі. «Землячок», які «сам беларус», але роднай мовы даўно адчураўся, не можа быць крытыкам і суддзёй у справе беларускай мовы, і лепей бы было яму не бяззубую крытыку разводзіць, а за працу ўзяцца.

У супярэчках з «землячкамі», прыводзячы гэтыя і падобныя довады, «землячкоў» — людзей шчырых, але мала думаўшых аб беларускім адраджэнні, можна пераканаць, ну, а хто ўжо паміж іх не зможа лагічна думаць аб ёй, дакуль на гэта крыва глядзіць начальства, то на гэткіх, бадай што, прыйдзецца махнуць рукой.

## ПІЛЬНУЙЦЕСЯ СВАЙГО

Нашае Даўгінава дужа гандлёвае і ажыўленае мястэчка. Шмат сялян з суседніх вёсак прыязджае ў нядзелі, а яшчэ болей на торг у чацвяргі. Але дарма шукала б вока нацыянальнай беларускай адзежы. Праўда, сярмягі і кажу-

хі носяць яшчэ блізка што ўсе, але самадзельная адзежа ўсё болей і болей выцясняецца фабрычнай тандэтнай[1]. Яшчэ меней свайго засталося ў жаночай адзежы. Тут ужо саўсем усё крамнае, беларускіх галаўных убораў, шнуровачак у нашым мястэчку ніколі не ўбачыш. Эх, браткі! Нашто ж гэта вы ўсяго свайго чураецеся? Няўжо ж у вас ужо саўсем загінула пачуццё красы і вы не бачыце, наколькі прыгажэй свая добра зробленая адзежа ад тандэты, якую вы цягаеце? Строіцца[2] ж вясковая моладзь, як хлопцы, а яшчэ болей дзяўчаты, дужа любіць. Чаму ж вы не строіцеся ў сваю родную, нацыянальную адзежу, якая і пекна, і танна, а гэтулькі выкідваеце грошы на тое, каб адзецца «папанску». «Старыя» дужа наракаюць на тое, што гэтыя строі саўсем руйнуюць народ. І праўду яны кажуць. Цяпер моладзь апошнюю капейку аддае на тое, каб мець камашы, галёшы, бопанскі гарнітур, каўнерыкі. Дзяўчаты яшчэ болей строяцца, некаторыя да таго дайшлі, што нават малююць сабе сажай (ці іншай якой брыдой) бровы і чырвонай паперай (ці бураком) — колеры на твары.

І смешна, і сумна глядзець гэта. Другі з апошніх сіл выбіваецца, недаядае, не купіць дужа патрэбнай у гаспадарцы снасці, а глядзіць, каб быць адзетым не пушчэй другіх.

Нашто гэта? Усе мы дужа бедныя, цяжка

працуем, каб зарабіць грошы, і ўсё роўна ніколі іх не хапае, усё роўна бядуем. На што ж яшчэ гэтак руйнавацца на адзежу? Ці ж не лепш за тыя грошы, што мы дарма пушчаем, гуртам, у складчыну выпісваць кнігі, газеты, часопісы[3]. Шмат чаго з іх даведаемся, як людзі жылі і жывуць на свеце, як яны паляпшаюць сваё жыццё, што нам для гэтага трэба рабіць, як лепей гаспадараваць, каб большы быў даход, і іншае і іншае. Калі мы згаворымся гэта зрабіць у складчыну, то і каштаваць нам усё гэта будзе меней, як цяперашнія лішнія расходы на адзежу каштуюць. А карысці з гэтага куды болей будзе. Зачніце гэту працу, браты. Выпісвайце кніжкі і газеты не толькі чужыя, але і свае, і перш за ўсё свае: «Нашу ніву», «Саху», «Маладую Беларусь». Няхай у нас такжа будуць усе беларускія кніжкі, якія дагэтуль надрукаваны. Беларускія газеты і кніжкі аб нас пішуць, аб нашай нядолі, аб тым, што мы кругом сябе бачым і адчуваем. І наша павіннасць — падтрымаць іх, чытаць іх і браць глыбока ў душу тое, што там пішацца, саўсем стаць нацыянальна свядомымі і шырыць асвету паміж другіх.

## СВАЙГО НЕ ЧУРАЙЦЕСЯ, ЧУЖОМУ НАВУЧАЙЦЕСЯ

«Чужому навучайцеся, свайго не чурайцеся», гэтыя словы вялікага ўкраінскага паэта Шаўчэнкі заўсягды трэба памятаць і ніколі нельга забываць нам — беларусам. Нашы ворагі ўсімі годнымі, а яшчэ часцей нягоднымі спосабамі стараюцца давесці нас да таго, каб ткі мы свайго адчураліся, забыліся, хто мы такія, перасталі быць беларусамі і перарабіліся на расейцаў ці палякаў. Іхняя работа даўно ўжо вядзецца — дужы надта нашы ворагі,— у кабальнай, эканамічнай і ўсякай іншай залежнасці ад іх знаходзіцца наш народ. Не дзіва, што і шмат такі яны патрапілі нам пашкодзіць. Не ўдалося ім, праўда, дабіцца таго, каб увесь народ перастаў гаварыць роднай мовай, сваіх абычаяў усіх адрокся; але ўдалося задурыць народу галаву, так, што народ наш стаў думаць, быццам яго мова і звычаі нейкія «простыя» і кожны бязмала беларус, якому ўдалося дабіцца трошкі лепшых варункаў жыцця, ухапіць трошку асветы, ужо станавіўся саўсем чужым народу, з якога выйшаў, і, гледзячы па веры, лічыў сябе ці расейцам, ці палякам.

Калі пачалося беларускае адраджэнне, калі з'явіліся людзі, глыбока адчуваючыя сваю кроўную сувязь з беларускім народам, людзі, хочу-

чыя шчыра працаваць для яго лепшай долі, то ім стала ясна, што свайго чурацца нельга, бо толькі стоячы на сваёй нацыянальнай аснове, народ можа нармальна развівацца і рабіць свой уклад у агульналюдскую культуру. Але побач з гэтым гаварылася, што і «чужому навучацца» трэба. Спору ў нас наконт гэтага не было — гэта праўда элементарная і ўсімі прызнаная. Словы «свайго не чурайцеся, чужому навучайцеся» пішуцца як эпіграф на беларускіх кніжках, і гэта думка праводзіцца ў іх у газетах.

Мы добра ведаем, што ўсе нацыі знаходзяцца ў цеснай залежнасці адна ад другой і што супольныя ў іх інтарэсы не толькі эканамічныя ды палітычныя, але таксама і культурныя. А нават на грунце культурным яны найкрапчэй звязаны адны з другімі. Нядаўна, у № 34 «Нашай нівы», ягамосць Юры Верашчака ў артыкуле «Ці ёсць расейская і польская культура», разглядзеўшы гэту справу, ясна паказаў, што ёсць цяпер агульналюдская культура, у якую ўсе культурныя нацыі палажылі сваю долю працы і з якой усе карыстаюцца. Англіец Стэфансон выдумаў чыгунку, амерыканец Фультан — параход, немец Гутэнберг — друк, а карыстаюць з гэтага не толькі аднапляменцы гэтых вялікіх людзей, а ўсё чалавецтва[3]. Вучоныя, мысліцелі ўсіх краёў і народаў: французы, немцы, англійцы, італьянцы, расейцы, палякі — тое ці другое

выдумлівалі, такую або іншую навучную тэорыю ўстанаўлівалі, а карысць з гэтага для ўсіх выйшла.

Вялікія пісьменнікі і паэты: Шэкспір, Байран, Шылер, Гейнэ, Гюго, Дастаеўскі, Талстой і іншыя; маляры штук-майстры: Рафаэль, Міхель Анжэлі, Рубенс, Вандэйк; музыкі: Моцарт, Бетховен, Шапэн і інш. таксама невядомай сілай ударають па сэрцах усіх культурных людзей, да якой бы яны нацыі ні належалі. Той народ, які гэтай праўды, што і чужому навучацца трэба, не разумее ці не хоча разумець, праз гэта асуджае сябе на культурны застой, таксама, як той народ, які чураецца свайго, асуджае сябе на пагібель. Адным словам, са скарбаў агульналюдской культуры павінны мы карыстацца, але разам з тым павінны мы і самі жыць сваім культурным жыццём, каб магчы даць і сваю долю ў скарбніцу агульналюдской культуры, а даць тады толькі зможам, калі будзем стаяць на сваёй нацыянальнай аснове, калі свайго не будзем чурацца.

Праўда, ад таго часу, калі вышэйшыя станы ў нас адракліся ад свайго народу, ад роднай мовы і звычаяў, калі ўсе «выйшаўшыя ў людзі» пераходзілі да чужых і для іх працавалі, а прайшло з той пары ўжо не мала часу,— беларушчына затрымалася на мёртвай точцы, не развівалася далей, а праз гэта наша нацыя-

нальнае багацце пакуль што не надта вялікае.

Тым болей і энергічней павінны мы працаваць, каб дагнаць другіх, каб папоўніць усе недахваты шматвяковага застою, каб як найхутчэй паўнапраўнымі сябрамі ўвайсці ў агульналюдскую сям'ю. Увайсці ж мы туды зможам толькі як беларусы, толькі цвёрда стоячы на грунце нацыянальнай асобнасці.

## НАЦЫЯ І РЭЛІГІЯ

«Наша ніва» і невялічкі спачатку, а пасля ўсё болей і болей разрастаючыйся гурток яе супрацоўнікаў і прыхільнікаў праз сем гадоў сваёй нялёгкай, бо пад градам розных нападаў і аплёвывання, працы, усё ж такі зрабілі тое, што шмат беларусаў сталі нацыянальна свядомымі, што цяпер хутка расходзяцца ў народзе беларускія газеты і кніжкі, а побач з імі шырацца і нацыянальныя думкі.

Але, бачачы гэта, нельга забываць і таго, што дагэтуль нацыянальна свядомым стаў не ўвесь дзесяцімільённы беларускі народ, а толькі, калі прыраўняць, невялічкая частка яго, што шэрая, цёмная, у большай частцы непісьменная маса беларускага сялянства дагэтуль стаіць у баку ад беларускага руху, нават самога слова «беларус» не чула, ні беларускай кніжкі ды газеты не бачы-

ла і часта не ведае, што яны на свеце ёсць.

Мы цвёрда верым у тое, што калі нашы думкі да іх дойдуць, калі ўвесь народ будзе мець змогу даць свой голас у гэтай справе, здаровы розум, патрэбы штодзённага жыцця і тлеючаяся ў глыбіні душы, нягледзячы ні на што, інстынктыўная любоў да свайго пераможа і ўвесь народ стане разам з намі дамагацца правоў для сваёй мовы, захоча чуць яе ўсюды: у царкве, у касцёле, у школе і г. д., стане будаваць сваю нацыянальную культуру. Мы верым, што гэтак будзе, але пакуль што, калі запытацца ў цёмнага, неразвітага беларуса: «Хто ты такі?», ён пачухае патыліцу ды і адкажа: «Тутэйшы», або, гледзячы па веры: «Рускі», «праваслаўны», ці: «Паляк», «католік». Адным словам, пачуццё нацыянальнай асобнасці ў ім надта слабае, і два, не маючых нічога супольнага паміж сабой паняцці — нацыя і рэлігія,— ён змешвае і лічыць сябе «рускім» ці «палякам» затое, што ён праваслаўны ці католік.

Вось гэту справу трэба разгледзець і абгаварыць, бо ў ёй блытаюцца і робяць памылковыя высноўкі не толькі саўсем цёмныя, непісьменныя людзі, але часам і тыя, хто і асветы трошку ўхапіў дзе.

Рэлігіі, або веры, тым адна ад другой розняцца, што староннікі іх розна вераць у Бога, інакшыя маюць дагматы і абрады. Ёсць, напрыклад,

веры паганскія, якія саўсем не верацъ у Бога, а багамі сваімі лічаць сонца, месяц, усялякіх балванаў і да т. п. (Гэткай веры трымаюцца найбольш дзікія людзі.) Далей ёсць веры, якія хоць і прызнаюць таго ж Бога, што і мы, але не прызнаюць Спаса нашага, напрыклад, магаметане, жыды. Хрысціянскія рэлігіі, прызнаваючыя Бога і Хрыста, таксама шмат у чым розняцца. Усялякі беларус добра ведае, што праваслаўе і каталіцтва не надта да сябе падобны, хоць яны абедзве веры хрысціянскія; і ў царкве іначай выглядае служба Божа, чым у касцёле; ёсць яшчэ і іншыя хрысціянскія веры — лютэранства, кальвінізм, непадобныя ні да праваслаўя, ні да каталіцтва. Адным словам, на свеце многа ёсць усялякіх вер, набярэцца іх больш тысячы.

Нацыю складаюць людзі, якія гавораць аднай мовай і адчуваюць сувязь паміж сабой; прызнаюць сваёй даную мову ці культуру. Паняцце — нацыя — больш труднае і заблытанае, чым рэлігія, і мы яго тут не будзем разбіраць падрабязна, а хто цікавіцца гэтым, раім прачытаць тыя карысныя і важныя кніжкі, якіх аб гэтай справе шмат ёсць у мовах — украінскай, расейскай, польскай, а дачакаемся, будуць і беларускія кніжкі аб гэтым. Нацый на свеце болей, як вер, і набярэцца іх болей 3000. Вось тут адразу кідаецца ў вочы тое, што нацыя і рэлігія

не адно і тое ж, калі нацый ёсць болей, як вер. Далей мы ведаем, што, часта бывае, адной веры ёсць некалькі народаў. Так, напрыклад, праваслаўнай веры трымаюцца большая частка беларусаў, расейцы, украінцы, балгары, грэкі, сербы, грузіны, румыны і інш.; каталіцтва прызнаюць меншая частка беларусаў, палякі, літвіны, французы, італьянцы, іспанцы, чэхі, частка немцаў і шмат іншых народаў; лютэранства трымаюцца шведы, датчане, частка немцаў, латышоў і інш.; магаметанства — татары, туркі, кіргізы, башкіры і г. д.

Часамі бывае, што якую-небудзь веру прызнае толькі адзін народ, напр., іудзейскай веры — на свеце адны толькі жыды. Але найчасцей бывае, што ў адным і тым жа народзе часць народу трымаецца адной веры, а часць другой. Напрыклад, немцы ўсе гавораць адной мовай і прызнаюць сябе адным суцэльным народам — а па веры ёсць сярод іх і лютэране і католікі; сярод французаў ёсць католікі і кальвіністы; сярод украінцаў — праваслаўныя і уніяты (украінцы-уніяты жывуць у Ґаліччыне — у Аўстрыі), і — што маем далёка хадзіць — мы, беларусы, будучы адным суцэльным народам, гаворым адной мовай, таксама раздзяляемся па веры: паміж намі ёсць і праваслаўныя і католікі. Багата ўсялякіх прычын злажылася на тое, чаму той ці іншы народ

трымаецца цяпер гэтай, а не іншай веры; чаму бывае, што часць яго адной веры, а часць — другой. Ці багата было прычын таго, чаму ў нас на Беларусі так пастаўлена справа, разглядаць гэтага тут не будзем. Прыпомнім толькі ўсім вядомы факт, што цяпер ёсць беларусы і праваслаўныя і католікі. Але яны складаюць адзін народ, бо і ў адной старонцы жывуць, і мова ў іх адна і тая ж самая, і звычаі, і адзежа, і ўсё аднолькава.

Што цёмны непісьменны народ заблытаўся ў гэтай справе і змешвае ў адно саўсем асобныя паняцці, нацыя і рэлігія,— гэта не дзіва, але во дзіва тое, што расейскія і польскія нацыяналісты, сярод якіх ёсць людзі вучоныя, таксама блытаюць гэта. Робяць яны гэта саўсем не праз тое, што не ўмеюць адрозніць нацыі ад рэлігіі, яны гэтую розніцу добра ведаюць і разумеюць, што нацыя адно, рэлігія другое; яны тутака толькі наўмысна прытвараюцца дурнямі, каб задурыць і збіць з толку цёмны народ, каб падтрымаць у ім яго забабоны і лягчэй у мутнай вадзіцы лавіць рыбу. Мэта іх тая, каб перарабіць беларусаў на расейцаў ці палякаў (адны хочуць аднаго, другія — другога),— вось яны круцяць, муцяць, не прызнаюць беларусаў народам, не дапушчаюць беларускай мовы ў царкву і касцёлы. Калісь-то ўсюды ў нас панавала беларуская мова, у ёй Богу маліліся, у

ёй законы пісаліся, суды вяліся, найвялікшыя паны ёй гаварылі,— пасля наша гісторыя так зложылася, што ўсё гэта знікла, і цяпер наша мова не мае ніякіх правоў, цяпер саўсем хочуць нас адны абрусіць, другія — апалячыць, так, каб і са свету чыстая, родная наша мова звялася, людзі перасталі ёю гаварыць, і імя беларускае замёрла. Але мы, ведаючы тое, што хоць мы славяне, таксама як расейцы і палякі, і хоць мы блізкі па крыві адным і другім, бо з адных каранёў славянскіх як іхні, так і наш род вядзецца, і што мы бліжэй з роду і племені да адных і другіх, чым, напрыклад, да немцаў ці туркаў, што хоць мы ўсходнія славяне, як украінцы, велікарусы, і ім мы бліжэй, як славянам заходнім, чэхам, ці палуднёвым, балгарам і сербам, усё ж такі мы саўсем асобны ад усіх і найбліжэйшых славянскіх народаў, народ беларускі, бо і мова ў нас ёсць свая, іншая, як у іх, і звычаі свае, і ўсё такое. Усё сваё нам павінна быць дарага і блізка — нельга яго нам чурацца — і не дамо мы ўсяму свайму загінуць, як гэта хочацца нашым ворагам; а наадварот, не пакладаючы рук, павінны мы працаваць для лепшай, святлейшай долі нашай і для дабра сваёй роднай старонкі — бацькаўшчыны — Беларусі.

## СІЛА З НАРОДУ

Калі чалавек працуе ў меру, робячы сваю долю работы, якая патрэбна грамадзянству і ўсяму свету, то ён спаўняе свой абавязак — абавязак чалавека і грамадзяніна. Калі б кавалі перасталі каваць, звошчыкі — вазіць людзей і тавары, земляробы — засяваць хлеб і г. д., усё жыццё людское перакулілася б.

Значыцца, самая нават простая работа, якую ўсякі робіць, грамадзянству патрэбна, і кожны працаўнік сам па сабе — маленькае кола ў сусветнай машыне. За працу ў гэтай грамадзянскай машыне дастаець на хлеб штодзённы.

Але калі чалавеку, каб задаволіць канешныя свае патрэбы да жыцця, прыходзіцца аддаваць усю сваю сілу і час на працу, то яму мала застаецца часу аддыхнуць і падумаць аб патрэбах душы, розуму і сэрца.

Трэба старацца наладзіць жыццё так, каб апрача працы заставалася яшчэ сілы і часу прылучвацца сваім духоўным да ўсясветнай культуры. Каб на алтар гэтай культуры кожны мог дакінуць і свае скарбы розуму, душы і сэрца.

Колькі то жалезнай волі, энергіі і бязмежнага[1] кахання да свету навукі трэба мець беднаму чалавеку, каб стацца карысным працаўніком не толькі для чорствага кавалка хлеба, але і для агульнага дабра і шчасця людскога! Аднак мы

бачым шмат вялікіх людзей, якія, хоць выйшлі самі з-пад саламянай страхі беднага бацькі земляроба або ад варштата рамесніка, сваёй працай і розумам асвечвалі дарогу наперад усяму грамадзянству.

Мы ўспомнім тут хоць некалькі вялікіх геніяў і талентаў, якім прыйшлося не мала гора і бяды ператрываць, пакуль выбіліся без усякай помачы на шырокую дарогу жыцця.

*Англійцы:* Уатт[2], што першы выдумаў машыну, быў слёсарам, механікам, таксама і Стэфансан[3], каторы прыдумаў чыгунку; Джэмс Кук[4] — з чорнарабочых — адкрыў шмат нязнаных да таго часу земляў; астраном Гэршэль[5] быў сынам беднага музыкі, спачатку сам музыка.

*Амерыканцы:* сын селяніна, працуючы спярша як просты работнік на караблі, Лінкальн[6] стаўся пасля прэзідэнтам Злучаных Амерыканскіх Штатаў і дабіўся таго, што ў яго бацькаўшчыне асвабадзілі ад нявольніцтва неграў, дзеля чаго з прыхільнікамі нявольніцтва прыйшлося нямала ваяваць; таксама цяжка працавалі і надта многа гора перацярпелі, пакуль дайшлі да мэты Фултан[7] (ён выдумаў параход); Эдысан[8] (спярша прадавец газет — выдумаў электрычную лямпу, фанограф, тэлефон і шмат яшчэ чаго); Веньямін Франклін[9] — знаны вучоны і вельмі карысны грамадзянскі працаўнік.

*Немцы:* оптык (што робіць акуляры) Фраўэнгофэр[10] выдумаў палепшаныя тэлескопы, каторымі можна ясна бачыць звёзды; сын шаўца, спачатку сам шавец Вінкельман[11] напісаў гісторыю штукарства; вялікія музы́кі, творы каторых яшчэ і цяпер чаруюць слухачоў, Бетховен[12] — сын беднага музыкі; Гайдн[13] — сын селяніна-калесніка; маляр Каульбах — сын злотніка, філосаф Фіхтэ — сын ткача; Аўгуст Бебель, што летась памёр, знаны на ўвесь свет правадыр нямецкіх работнікаў, аўтар навучных кніг, быў перш токарам.

*Французы:* заслужаны доктар, аператар, бацька сучаснай аперацыі Парэ[14] — сын цырульніка; сялянскімі дзецьмі былі Жанна д'Арк, якая вызваліла Францыю ад англійцаў[15], і філосаф Рамус[16].

Дацкі пісьменнік Андэрсан[17] быў краўцом; грэцкі пісьменнік-баечнік Эзоп[18] і філосаф Эпіктэт былі нявольнікамі.

Калі пяройдзем цяпер да славянскіх народаў, то таксама нойдзем шмат прыкладаў. Першы расейскі пісьменнік, бацька расейскай літаратуры і заслужаны вучоны Ламаносаў — сын селяніна; паэт Кальцоў — таксама селянін. Вядомы ўсяму свету сучасны пісьменнік Максім Горкі гэтулькі ўсякай усячыны пацярпеў у сваім жыцці, што падобна яно да казкі.

Апрача таго, што шмат расейскіх пісьмен-

нікаў выйшла з паміж дробных чыноўнікаў і беднага вясковага духавенства.

У ўкраінцаў найвялікшы паэт Тарас Шаўчэнка — сын селяніна, у маладосці сам панскі падданы.

Але што нам далёка шукаць прыкладаў, калі іх даволі маем тутака ў сябе — на Беларусі.

Большая частка нашых пісьменнікаў і грамадзянскіх працаўнікоў выйшлі з пасярод працуючага народу. Не адзін з паміж іх і цяпер ходзе з мазалямі на руках. Паміж імі ёсць даволі выдатныя таленты, якія звярнулі б на сябе ўвагу і ў болей багатым, чым нашае, пісьменстве, ёсць і ціхія, сціплыя[19], малапрыкметныя працаўнікі, але ўсё ж ткі шчыра — колькі змога працуючыя для вялікай справы адраджэння сваёй бацькаўшчыны.

## [ЯКІ ШРЫФТ?]

Дзіўна мне і вельмі, вельмі сумна робіцца, што ёсць яшчэ людзі, якія маюць такую арыгінальную любоў да лацінскага шрыфту. Гэта ж яны, відаць, адракаюцца ад традыцый мінуўшчыны сваёй бацькаўшчыны, ад таго шрыфту, якім пісалі нашы слаўныя князі часоў нацыянальнай незалежнасці, які ўжываў урад Вялікага княства Літоўска-Беларускага, якой кары-

сталіся даўней усе, не адрокшыеся ад свайго народу. І так усе нашы традыцыі, уся наша нацыянальная святасць, усё, што павінен любіць кожны беларус, дастойны гэтага імені — усё тое кажа, што рускі шрыфт для нас глыбока родны, бо гэта адзін з нашых найдаражэйшых скарбаў, які нам нашы бацькі пакінулі разам з роднаю моваю і які мы павінны сцерагчы і цаніць. На якія ж традыцыі, на што ў нашай нацыянальнай слаўнай мінуўшчыне могуць спаслацца прыхільнікі лацінскіх літар? — Хіба на традыцыі нацыянальнай здрады і адрачэння ад свайго «простага», мужыцкага... Але гэтага хіба ніводзін шчыры беларус не выставіць. Значыцца, гледзячы з боку традыцыі — мінуўшчыны, трэба падаваць голас за рускія літары.

Але глянем цяпер і на цяперашнія варункі. Прыхільнікі лацінскіх літар кажуць, што лацінскі шрыфт пануе ўсюды паміж культурнымі народамі. Вось і выходзіць, што расейцы, украінцы, сербы, балгары, грэкі, японцы, жыды і г. д. і г. д., маючы свой, а не лацінскі шрыфт, быццам і не належаць да культурнага свету. Няўжо ж гэта ўсе дзікія, што стаяць далёка ад культуры? І каб нават і так, то і тады не можна было б адрачыся ад нацыянальнай традыцыі, і тады трэба было даць свету першы ўзор народу, што мае іншы, чым усясветны шрыфт. (...).

Цяпер аблічым, колькі ёсць беларусаў праваслаўных і колькі католікаў. Каляндар «Н[ашай] н[івы] кажа, што першых ёсць у тры разы больш. Мне здаецца, што яно не так. Пішацца тамака, што ў Віленскай губ[ерні] жыве беларусоў 1 мільён 76 тысяч душ. А мы ведаем, што праваслаўных у гэтай губерні ёсць 450 тысяч душ (з гэтага будзе найменш 300 тысяч беларусаў). Калі так, то выйдзе, што ў Віленскай губ[ерні] ёсць беларусаў-католікаў 776 тысяч душ. У Мінскай, Віцебскай, Гродзенскай і іншых бадай ці набярэцца другое столькі, бо найбольш католікаў у тых губернях — гэта латышы (у Віцебскай), палякі (сяляне ў колькіх паветах Гродзенскай губ[ерні] на граніцы з Польшчай і паны). Вось і выходзіць, што беларусаў-католікаў набярэцца каля 1 мільёна 500 тысяч, а праваслаўных — больш 7 мільёнаў, ці, бадай, у 5 разоў больш, як католікаў. Але няхай сабе будзе, што іх болей толькі ў 3 разы. Усё ж такі і тады перавага вялікая, што, каб нават праз тое, што «Наша ніва», друкуючыся толькі рускімі літарамі, была адрэзана ад усёй каталіцкай Беларусі, нават і тады трэба было б з болем сэрца зрабіць гэта... Але праз гэта «Наша ніва» яшчэ зусім не адрэжа сябе ад усіх католікаў-беларусаў. Беларусы-католікі таксама ходзяць у школы, як і праваслаўныя. Паміж іх знаючых рускія літары знойдзецца не менш, як і паміж

праваслаўных. После ж, як болей будзе школ, то болей будзе і граматных. Такіх жа, якія знаюць толькі лацінскія літары, не так ужо і шмат, і пэўна, што ў дзесяткі разоў меней, як знаючых толькі рускую грамату. Дзеля таго і які ж можа быць выбар? І так у галасаванні за тое, якім шрыфтам мае выходзіць «Наша ніва», я падаю свой голас за рускія літары; адным словам, так, як павінен падаваць кожны свядомы беларус. Звярну яшчэ ўвагу, што хоць я сам... католік, ды гадаваўся ў польскім духу (матка мая з Польшчы), але ўсё ж такі, як прызнаў сябе беларусам, маю адвагу не адракацца ад свайго роднага, ад мінуўшчыны і рабіць такія вывады, якія толькі можа даць логіка ды шчырая грамадзянская павіннасць.

## ВЯЛІКАЯ ГАДАЎШЧЫНА

53 гады таму назад, 19 лютага 1861 году, быў падпісан маніфест, які[1] касаваў няволю сялянства — прыгон; маніфест, паводле якога дзесяткі мільёнаў нявольнікаў сталіся людзьмі. Так... сталіся людзьмі, бо перад тым яны былі панскай рэччу, таварам, які купляўся, прадаваўся і мяняўся.

Гэткія парадкі трывалі праз цэлыя вякі, і толькі ў 1861 годзе ім прыйшоў канец. Усе

лепшыя і справядлівыя людзі добра разумелі, што гэтак быць не павінна, што сяляне такія ж людзі, як і паны, і яны маюць права на ўсё, што належыцца вольнаму чалавеку. Гэткія думкі ўсё болей ды болей шырыліся, шмат некаторыя вялікія чыноўнікі і паны, якія самі мелі падданых, сталі згаджацца з гэтым. Але ўсё ж такі агромная большасць паноў і слухаць не хацела аб скасаванні прыгону, і трэба было шмат другіх прычын, каб гэтая рэформа збылася. У канцы шмат дзе падданыя бунтаваліся, нападалі на двары і інш. На гэта звярнуў увагу сам цар Аляксандр II: на некалькі гадоў перад скасаваннем прыгону ён сказаў з'ехаўшымся ў Маскву панам: «Лепей мы дамо волю народу зверху, чым ён яе сам дабудзе зысподу».

Вось дзеля гэтых і іншых[2] прычын і надумаліся асвабадзіць сялян. Асвабадзілі не зусім так, як жадалася народу і тым людзям, якія за яго заступаліся: зямлі далі помала, налажылі на яе вялікі выкуп, аж да 1904 года да мужыцкай спіны мела права воласць, над народам паставілі гэтулькі начальства, што калі мужык у вершы Багушэвіча («Быў у частцы») надумаўся пералічыць новых паноў, то на гэты пералік не хапіла і пальцоў і выйшла; што цяпер «паноў» не меней, як да прыгону.

Але як бы там ні было, вялікую перамену зрабіў маніфест 19 лютага, вялікую ён цяжасць

з народу зняў. Шмат чаго благога, што было перш, цяпер няма. Вызваленне[3] з панскага падданства — гэта першы крок па дарозе да лепшай будучыні. За ім, раней ці пазней, дажджэцца народ таго, што хоць некалі бедната, цемната, уся злыбеда цяперашняя счэзнуць, што лепей ён зажывець. І заўсягды народ будзе памятаць той дзень, у які пала яго цялесная няволя, і 19 лютага для народу заўсёды будзе вялікай гадаўшчынай.

Святкуючы ж гадаўшчыну 19 лютага, наш народ павінен верыць у тое, што як 53 гады таму назад пала яго цялесная няволя, так калісь падзе і яго духоўная няволя; што дажджэцца наш народ таго часу, калі яго душа, мова, будзе вызвалена з-пад «прыгону», у якім многа вякоў знаходзіцца.

## ПРЫГОННАЯ СПАДЧЫНА

«Праца багаціць, а гультайства паганіць». Вялікую праўду кажа гэта прыказка. Праца корміць чалавека, усё, як ежа, так адзежа і найболей патрэбныя ў штодзённым жыцці рэчы,— усё, без чаго ніяк не маглі б абысціся людзі, дабыта працавітымі рукамі. Здаецца, што тыя людзі, якія ўсё гэта вытвараюць, не павінны б былі сарамліва хаваць вочы ды лічыць

сябе і сваю працу пушчэйшымі ад другіх. Прызнаваючы ўсю вагу работы вучоных: дактароў, вучыцеляў, інжынераў і іншых карысных працаўнікоў-інтэлігентаў, адносячыся да іх з пашанай, людзі, якія працуюць рукамі, здаецца, павінны б вымагаць, каб і да іх аднасіліся з належнай пашанай,— ды каб цяжкая праца не лічылася б нейкай плямай-ганьбай, якая ставіць іх ніжэй ад другіх. Здаецца, павінна было б так быць, але ёсць яно далёка не так.

У Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі ўсякая праца, як галавой, так і рукамі, лічыцца пачэснай[1] — там усіх людзей сумленных ды працавітых, чым бы яны ні займаліся, лічаць роўнымі, аднака карыснымі і патрэбнымі грамадзянамі. У іншых краёх хоць дзе-нідзе і засталіся яшчэ сякія-такія перажыткі даўніх поглядаў на гэту справу, але ўсё болей і болей зблiжаюцца да амерыканскіх думак аб гэтым. Тым часам у нас яшчэ бадай усе па-даўнейшаму разумеюць усё гэта, і вякамі пажытыя забабоны і зусім несправядлівыя думкі пакуль што трымаюцца дужа крэпка. Усяго 52 гады таму назад скасаваны ў нас прыгон, і свежы яшчэ ўспаміны тых часоў, калі сялян у людзі не лічылі, рабілі з імі што хацелі. То дзіва няма, што прыгоннай спадчыны не ўсе пазбыліся дагэтуль, што па бацьках-нявольніках яны ўжо і не нявольнікі, а ўсё ж такі прыгонныя душонкі атрымалі. Да

таго ж, бадай што, мала дзе вышэйшыя станы так востра і поўна аддзялялі сябе ад народу, як у нас. У нас паны, лічачы сваіх сярмяжных братоў «быдлам» і ўсялякай супольнасці з імі адчураўшыся, пакінулі нават родную мову ды пераянялі чужую, праз што яшчэ болей сталіся чужымі народу. Пасля, калі ўжо прыгон астаўся толькі цяжкім, благім успамінам, сялянскія дзеці, так ці іначай дабіўшыся трошкі лепшых варункаў жыцця, пераходзілі к чужым, адракаліся ад роднай мовы і найчасцей з нескрыванай пагардай глядзелі на той народ, з якога самі выйшлі.

Вось і не дзіва, што цёмны, у значнай[2] большасці непісьменны[3] народ, не прывыкшы думаць крытычна, патрошку пераніма́ў гэтыя думкі ды ў канцы і сам зусім згадзіўся з тым, што праца яго паніжае. Не так даўно гэтыя думкі панавалі скрозь. Цяпер народ стаў шмат святлейшы, як даўней, і ў яго светагляд увайшло багата чаго новага. Але векавой спадчыны адразу не пазбудзешся. Побач з гэтым новым надта многа засталося і старых забабонаў.

Цяпер таксама, як і даўней, беларусы надта ахвотна бяруцца за такую работу, дзе меней трэба рабіць. Шмат хто, скончыўшы якую-небудзь школку, ужо прэцца, каб у якую канцылярыю ўлезці. Зусім мала ён там будзе зарабляць, бедаваць прыйдзецца горш далёка як селяніну ці

майстру якому, але цешыцца хлопец, што стаўся ён «панам», «далікатным чалавекам», надзеў панскі гарнітур (хоць і з дзіравымі ці лапленымі локцямі), што вырваўся ён з сялянскай хаты і ўвольніўся ад «ганьбячай» сялянскай працы.

Не раз здараецца чуць, як заможны гаспадар ці добры майстар кажа: «Во каму жыццё», завідуючы якому памочніку пісара ў воласці ці дворнаму ціўну, хоць жывуць яны самі лепей ад гэтых падпіскаў ды ціўуноў, і ўсяго дабра там толькі што робяць яны як быццам лягчэй. Адным словам, так неяк зладжылася, што працаваць у нас сорамна, што працы ў нас унікаюць людзі, што ідэал нашага народу — гэта як найменей рабіць.

Гэткі пагляд — гнойная рана на народным арганізме, і яго трэба звясці дазвання. Бадай што, так скора зрабіць гэтага не ўдасца, бо вякамі яно гадавалася і глыбока ўкаранілася,— ды ўсё ж такі шмат аслабіць яго можна. Трэба, каб тыя людзі, якія згаджаюцца з вышэйсказанымі думкамі, і на дзеле чым-небудзь гэта праявілі. Трэба, каб хлопцы, якія закончылі якую-небудзь школку, калі яны не могуць здабыць вышэйшай навукі, якая папраўдзе многа дае чалавеку, не ўцякалі ў дробныя падпіскі і чыноўнічкі са сваёй вёскі, як гэта цяпер робіцца, а лепей узяліся хоць і за цяжкую, але такую працу, якая дае добры заработак: за рамясло, за

працу на бацькоўскім загоне. Калі чалавек з асветай возьмецца хоць бы за працу на зямлі, то спачатку, можа, і нялёгка пойдзе ўсё гэта, і шмат што не ўдасца; але пры добрай ахвоце, чытаючы кніжкі, ён патрапіць усё наладзіць добра і даходна. Ідучы гэткай дарогай, самі яны зажывуць лепей, чым пагнаўшыеся за лёгкім хлебам іхнія таварышы, а побач з тым і добры прыклад будзе таго, што, працуючы рукамі, можна і жыць нішто і быць чалавекам разумным і светлым.

Калі будзем мець на ўвазе і тое, што народ наш — ужо шмат паразумнеўшы — пэўна што не дзічэць ды назад ісці, а ўсё болей і болей крытычна ва ўсім разбірацца стане, то гэтыя прыклады будуць мець вялікае значэнне і шмат памогуць устанавіцца ў нас здаровым думкам на працу і яе месца і значэнне ў жыцці грамадзянства.

## ЯШЧЭ АБ ПРЫГОННАЙ СПАДЧЫНЕ

У № 43 «Нашай нівы» ў артыкуле «Прыгонная спадчына» я ўжо гаварыў аб тым, што цэлыя вякі нявольніцтва не прайшлі для нашага народу дарма, што яшчэ і цяпер мнагавата ўсялякіх перажыткаў прыгоннай псіхалогіі ў ім сядзяць; ды астанавіўся на разгляданні аднаго з гэтых перажыткаў, дзеля якога ў нас усякі,

хто толькі можа, уцякае ад працы рукамі на лягчэйшы «панскі» хлеб. Акром гэтага, яшчэ шмат у чым прыгонная спадчына праяўляецца.

Сурова панавалі над намі і ўсяляк здзекаваліся паны. Ніколі не дапытваліся яны ў «быдла», што яно лічыць для сябе карысным; завадзілі ўсялякія перамены ў сялянскім жыцці, часам і надта важныя тады, калі ім самім прыйшла ахвота рабіць гэта; пачуццё ўласнага гонару ды ініцыятыва самога сялянства прыпыняліся[1]. Не прывык народ сам сабой камандаваць, сам думаць над тым, як палепшыць сваё жыццё.

«Пры бацькох і дзядох гэтага не было, не трэба і нам»,— не так даўно гаварылі ў нас скрозь; цяпер, праўда, рэдка гавораць, часта нават з гэтага смяюцца.

Але, прыгледзеўшыся бліжэй, пабачым, што хоць нібы разумеюць людзі, што на бацькоў аглядацца няма чаго — сваім розумам трэба жыць,— ды на дзеле далёка не заўсягды сваім розумам жывуць. Не рэдка бывае, згаджаюцца людзі, што вось тое ці другое ў гаспадарцы карысна было б завясці, а ўсё ж такі не заводзяць бо: «хто яго ведае».

Яшчэ горш, калі што трэба зрабіць грамадой,— хаўрусную краму адкрыць, сельскагаспадарскі ці які іншы гурток арганізаваць, у складчыну купіць якую хлебаробскую машыну або газету ці кніжак выпісаць. Тут часта бывае,

усе кажуць, што гэта варта зрабіць, а калі пачнуць рабіць, дык, як тыя лебедзь, шчупак і рак у казцы,— адзін цягне сюды, другі туды, і нічога не выходзіць.

Праўда, не заўсягды гэтак бывае. За апошнія гады і гаспадараваць сяляне сталі шмат лепей, як даўней, і хаўрусаў усялякіх завялося многа. Вось толькі шмат дзе па хаўрусных крамах ды сельскагаспадарскіх гуртках усяму загад даюць паны, а сялян мала да іх належыць: або, належачы, толькі вачмі лыпаюць, і голасу іхняга там зусім не чутно; але побач з такімі панскімі хаўрусамі, з якіх і карысці селяніну «што з быка — малака»,— ёсць шмат іншых хаўрусаў, дзе парадкуюць усім самі сяляне або шчыра прыхільныя народу, працуючыя толькі для яго дабра інтэлігенты. У гэткіх хаўрусах не ганяюцца за тым, каб як найболей мець з хаўрусу даходу (тым часам калі ў панскіх хаўрусных крамах, напр., часта бывае, што тавар даражэй і пушчэй, як у жыдоў), а адзіная мэта іх — як найболей карысці народу прынесці. Гэткія хаўрусы ёсць ужо і ў нашым краі.

Вось гэтыя прыклады паказваюць, што пры добрай ахвоце сёе-тое і ў нас завесці можна: яны павінны ўсіх заахвочваць працаваць для дабра роднага краю. Пара прачнуцца. Годзе «так жыць, як набяжыць». Трэба, каб усюды святлейшыя людзі стараліся пераканаць сваіх

цёмных суседзяў ды самі былі добрым прыкладам. Асабліва важны добры прыклад. Народ наш адной гаворцы не надта верыць. Пераканаць яго лягчэй тады, калі ён на дзеле пабачыць, што тая ці другая перамена ў гаспадарцы або хаўрус які, яму карысна.

Трэба і сяк і так прабаваць. Можа, шмат чаго адразу і не ўдасца наладзіць — нічога, другі раз трэба пачынаць ці з іншага боку падыходзіць да справы. Пры добрай ахвоце дзела ў канцы наладзіцца. Вось толькі болей ініцыятывы трэба. Часта бывае, што ёсць дзе ў глухім цёмным кутку колькі святлейшых людзей. Яны і хацелі б культурную працу весці, але баяцца, што надта ўжо цёмны народ кругом, што ўсё роўна засмяюць толькі, ды нічога не выйдзе. Бывае, іншы раз, праўда, нічога зрабіць нельга — ці то ўжо надта цемната тамака пануе, што аніяк нельга падысці, ці самі пачынаючыя работу не ўмеюць яе як след наладзіць ды робяць не зусім так, як належыцца. У такіх варунках нічога не зробіш — ілбом сцяны не разваліш, — можна толькі спадзявацца, што, можа, у будучыні, бачачы, як кругом людзі кратаюцца ды новае ў сябе заводзяць, і гэты цёмны куток ажывець.

Але яшчэ часцей бывае, што дарма толькі наракаюць на цемнату, што самі святлейшыя людзі вядуць праміж сабой разумныя гаворкі,

ды самі нічога не заводзяць — ніякага добрага прыкладу не даюць, а нават з цёмным суседам і гаварыць не надта любяць, бо яму «хоць кол на галаве чашы».

Вось перш чым казаць гэтак, варта папрабаваць добра пачасаць гэты кол; з таго і другога канца трэба падысці, і сяк і так старацца перамагчы цемнату. Калі рабіць гэта, дык найчасцей акажацца, што прыступіцца і да найболей цёмных людзей можна, што і тамака можна што-небудзь наладзіць, што трэба толькі працаваць ды яшчэ раз працаваць. Трэба больш адвагі і ініцыятывы — трэба, каб святлейшыя людзі кругом сеялі «разумнае, добрае, вечнае». Трэба зусім звясці «прыгонную спадчыну» ў сябе — тады лягчэй будзе змагацца з ёю ўсюды.

## ВЯСКОВАЕ БУЯНСТВА І БАРАЦЬБА З ІМ

У нашым вясковым жыцці за апошнія гады з'явілася шмат чаго новага, даўней небывалага. Вось хоць бы і буянства, ці, як яго цяпер у Вялікарасеі ахрысцілі,— хуліганства. Даўней яго не было ў нас, а калі і было, то далёка не ў той меры, як цяпер, калі яно сталася адной з галоўных з'яў народнага жыцця, калі на яго звярнулі ўвагу і газеты, і земствы, і ўрад, які

апрацаваў праект закона дзеля змагання з ім.

Тут трэба агаварыцца, што буянства шмат крапчэй развялося ў Вялікарасеі і на Украіне, а ў нас яно праяўляецца слабей, мабыць, затое, што народ наш разважны, лагодны і ціхі. Усё ж такі і ў нас аб ім чуваць даволі. У карэспандэнцыях «Нашай нівы» і ў звестках розных іншых газет часта пішуць, што ў тым ці другім кутку нашага краю п'яныя, а часам і цвярозыя, павадзіліся без ніякай важнай прычыны, пасля пабіліся, далей пайшлі ў ход тапары, коллі — і некалькі нябожчыкаў у выніку. У другім мейсцы грамада хлопцаў скрыўдзіла дзяўчыну, там разнеслі ў шчэпкі стаячы пры дарозе крыж, там скалечылі жывёлу, там падпалілі нейкую будыніну, а за што, то ні ён, ні той, хто падпальваў, не ведае — і гэтак далей і гэтак далей. Найболей гэта робяць п'яныя, але бывае, што і цвярозыя. Гарэлка пхае чалавека да благога, але што п'яны гаворыць ці робіць, тое цвярозы думае.

Інтэлігенцыя, маючы ўсе выгоды і раскошы, якія ёй дае сучасная культура, не разумее таго, як крэпка пакрыўджаны гэтым селянін. Інтэлігенцыя мае (калі жыве ў горадзе, то заўсёды, а калі ў вёсцы, усё ж такі ёй гэта болей даступна) усё, што хто хоча: людзі болей удумлівыя — кнігі, часопісы, газеты, лекцыі, тэатр, кампанію разумных, ідэйных людзей, у

гутарцы з якімі можна адвесці душу і шмат чаму навучыцца; людзі пустыя маюць бульварную літаратуру і прэсу, аперэтку, кафэ-шантаны і т. п. Што ж мае селянін? Працаваць трэба цяжка, вынікі працы няважныя і частавата прыходзіцца цярпець горкую бяду — голад. Пры рабоце чалавек забываецца аб усім, але працаваць заўсёды — сіл не хопіць, трэба ж крыху і адпачыць. Адпачываць, нічога не робячы, можа толькі скаціна, для чалавека адпачынак у тым і змяшчаецца, каб заняцца тым, што любіш, каб прыемна правесці час.

Ну, а як жа можа правесці час селянін? Бібліятэк, дзе б можна было дастаць добрыя кнігі, часопісы, газеты, у вёсках і мястэчках так як бы і саўсем няма; купляць і выпісваць іх пры сялянскай беднасці няма за што, прытым у нас болей як палавіна непісьменных, а гэтым апошнім, каб набрацца ахвоты да чытання (каб і было што чытаць), трэба навучыцца грамаце. Ніякіх лекцый, тэатраў, прыстойных забаў няма. Што ж рабіць людзям пустым? Адно толькі пацеха і разрыўка, што даступна ім,— гэта гарэлка. Вось і п'юць, п'юць усё болей і болей. Прытым жа пастаяннае п'янства надакучвае, з'яўляецца нуда і выцякаючая з яе злосць на ўсё і на ўсіх. Прытым жа для злосці і другіх прычын багата, успомніць хоць бы горкую беднасць, здзек, які адсюль прыходзіцца перано-

сіць. Даўней усё гэта народ пераносіў з тупой пакорнасцю. Цяпер далягляд[1] яго крыху расшырыўся, і пераносіць гэта яму куды цяжэй. Становішча цяжкае; злосць усё болей і болей збіраецца і пачынае прарывацца, часта без важнай прычыны,— вось і буянства ад гэтага.

Як жа змагацца з ім? Ясна, што трэба паправіць становішча, трэба, каб ён быў сыцейшы і большым меў дастатак. Трэба завесці гэтулькі школ, каб усе былі пісьменныя[2], завесці ўсюды бібліятэкі, арганізаваць раз'язных лектараў, якія б ездзілі ўсюды, заглядаючы ў найбольш глухія куткі, і чыталі там лекцыі; арганізоўваць гурткі артыстаў-аматараў, хоры і інш. Само сабой, што для таго, каб з гэтага была карысць народу, каб культура шпарчэй развівалася і глыбей засядала ў душу, трэба ўсю гэту работу весці ў роднай мове народу. І ў нас на Беларусі ўсякая культурная праца гэтаксама павінна весціся ў беларускай мове.

Тым часам што ж мы бачым? Урад, які гэтаксама хоча звесці буянства, не толькі не спагадае гэтай рабоце, не толькі не паможа ёй, але яшчэ недаверліва адносіцца да той працы, якую ў гэтым кірунку вядуць грамадзянскія гурткі і паасобныя людзі. Ясна, што, шчыра хочучы звесці буянства, трэба пераманіць тактыку. Але ўрад не хоча гэтага рабіць і слухае «зуброў». Ён апрацаваў праект, па якому «ві-

наватыя ў тым, што не маюць работы, караюцца астрогам ад 2-х тыдняў да 6-ці месяцаў». І зноў жа ўводзяцца для буянаў скасаваныя розгі (ад 10-ці да 50-ці розгаў). Маем надзею, што гэты праект не станецца законам і Дума яго адкіне. Надта ўжо ён пахне прыгонным духам, надта ўжо ідзе супроць сучаснасці з яе патрэбамі. Хоць... хто ведае? Чаго ж толькі ў нас не бывала. Быў прыгон, былі ў Магілёўшчыне аракчэеўскія[3] ваенныя пасёлкі... Чаго добрага, і гэты праект стане законам і будзе спаўняцца. Што ж з гэтага выйдзе?

Бывалі ж за прыгону прыклады, што паддданыя не пераносілі здзеку розаг і канчалі самагубствам. З той пары прайшло больш 50 гадоў. Пачуццё ўласнага гонару дужа павялічылася, а нават само буянства шырыцца з той прычыны, што акружаючыя варункі не задавальняюць людзей... Да чаго ж гэта прывядзе? Што буянства праз гэта не счэзне, аб тым няма што і гаварыць. Затое дужа быць можа, што народ яшчэ болей азвярэе.

Няўжо ж урад гэтага хоча. Ён жа кажа, што хоча змагацца з буянствам. Дык нашто ж змагацца са злом так, каб яно не меншала, а болей развівалася. Нашто здзекавацца над цёмным народам, у якога ўсякіх бед і без гэтага многа? Каму гэта патрэбна? Нашто?

## ХТО ВІНАВАТ?

Часта здараецца чуць, як наракаюць нашы паны на тое, што надта цяжкія для іх насталі часы. Нядаўна «Kurjer Litewski», газета польскіх паноў, надрукавала некалькі пісьмаў сваіх чытачоў з розных куткоў нашага краю, у якіх у адзін голас жаляцца яны, што цяпер хоць зусім гаспадарку кідай.

Паводле іх, народ цяпер зрабіўся нейкі непаслухмяны, ганарысты. Ніякай пашаны ў яго да пана няма, відаць, не пераносіць ён, як даўней, сцяўшы зубы, чужую лаянку, а часта на яе нават адказвае. Тая ж газета даводзіць, што ніколі мужыкі не былі прыхільны пану, не спагадалі яму, не хацелі дабра. Заўсягды шчыра ненавідзелі яны пана, панская няўдача нават цешыла іх, а цяпер гэтае пачуццё яшчэ болей узрасло.

Наракаюць далей паны, што быццам-то народ наш надта лянівы і дрэнна працуе.

Але хоць і благое стварэнне гэты беларускі мужык, адным словам, «гад», ды цяпер і з яго паны былі б рады. Ды не сюды тое. Відаць, не хочучы «абдзіраць паноў» і мазоліць ім вочы, сяляне пачалі выязджаць у гарады ды ў Амерыку. Праз гэта шмат дзе ледзьве не палавіна вясковых жыхароў адышла на старану. А іншыя пачалі ісці ў школы і вучыцца на фельчараў, на

каморнікаў, а то і на інжынераў і прафесараў. Другая польская газетка, якую выдаюць для народу ксяндзы, «Gaz[ieta] Codz[ienna]», нават палічыла сваёй павіннасцю пасварыцца на сялян, каб не ад'ядалі панам хлеба: не ішлі ў вышэйшыя навукі, а займаліся тым, чым бацькі і дзяды. Адным словам, усё няшчасце ў тым, што панам прыходзіцца цяпер даражэй плаціць за работу ў дварах, а часта бывае, што і не хапае рабочых рук, і ў гаспадарцы выходзіць няўпраўка.

Разгледзім гэтыя жальбы панскай газеты па парадку. Вось не падабаецца ім найперш тое, што пачуццё ўласнага гонару ў народзе расце.

Ад сябе скажам, што іначай быць не можа, і дзякуй Богу, што яно гэтак ёсць. Усё болей і болей будзіцца ў мужыка-беларуса думка, «што і я чалавек». Часамі ён у прыкрай форме гэта панам выказвае, але ў гэтым самі паны вінаваты: даўно пара зразумець тое, «што Іван ды Сцяпан з той жа гліны, што і пан», ды пачаць адносіцца да мужыкоў так, як адносяцца да іх і ў другіх краях. Панам хацелася б, каб найміт спагадаў ім, быў верным, адданым служакай. Гэтага ніколі нідзе не было, няма і, бадай што, не будзе. Тое, што карысна гаспадару,— не на здароўе ідзе парабку. Гаспадар заўсёды будзе ісці к таму, каб меней парабку плаціць ды даўжэй ён рабіў; парабку карысна будзе якраз

наадварот. Спрэчка за гэта вядзецца не толькі ў нас, але і па ўсім свеце, з той розніцай, што там паны і фабрыканты, каб супакоіць незадавальненне наймітаў, ахвотней даюць усялякія ўступкі, дык барацьба наймітаў за лепшыя варункі жыцця не прымае такіх вострых форм.

Кажуць яшчэ, што надта лянівы наш народ. Нешта не лішне да праўды падобна гэтая гаворка. Чаму ж гэта, калі беларус паедзе ў Амерыку, яго там надта ахвотна бяруць да ўсялякай работы,— ён усё там робіць не пушчэй ад усіх, ніхто там яго працы не ганьбуе. Часта бывае, што яго лічаць лепшым работнікам ад другіх.

Граф Ігнат Корвін-Мілеўскі ў адной з сваіх кніжак нападае на беларусаў-сялян за гультайства ды хваліць вялікарусаў, якія, паводле графа, працуюць куды лепей ад нас. Гэта кажа тутэйшы пан, а вялікарускія паны на сваіх з'ездах кажуць аб сваіх работніках акурат тое самае, што і ў нас. Некалькі гадоў таму назад на шляхецкім з'ездзе некаторыя паны сталі бэсціць расейскага селяніна, што ён гультай, п'яніца і да т. п. Аж знайшоўся на з'ездзе адзін сумленны пан, які не вытрываў і на ўсю залу гукнуў: «Стыдна». Так, стыдна. Стыдна павінна быць і тутэйшым панам за тую напраслiну, якую яны валяць на селяніна-беларуса.

Не падабаецца панам тое, што беларускі селянін не сядзіць дома, а на чужыну ідзе

шукаць лепшай долі. Відаць, не цікава дома жывецца, бо хоць любіць беларус сваю старонку і неахвотна яе кідае, а ўсё ж такі кідае. Хочучы, каб гэтага не было, каб народ сядзеў дома, трэба, каб ён на мейсцы меў большыя заработкі, як цяпер. Цяпер за сваю цяжкую працу парабак зарабляе ў сярэднім рублёў 50 у год, мейсцамі болей, а мейсцамі меней; да гэтага дастае ардынарыю ды гароду кусок, але пражыць з гэтага па-людску не можа, харчавацца прыходзіцца дужа дрэнна, хату мае найчасцей такую, якую апісвае паэт Багушэвіч славамі:

А кінь вокам на хату маю:
І цячэ, і гніе, і крывая,
Усярэдзіне гной, ды стаіць на гнаю,
І дзіўлюся [redacted] сам, як трывае[1].

Не дзіва, што ад гэткага жыцця ўцякае народ куды вочы глядзяць. Уцякае і, пакуль так будзе, не перастане ўцякаць.

Кажуць паны, што зямля даход дае невялікі, што болей плаціць яны не могуць. Чаму ж гэта ў нас не можна, а за граніцай — шмат болей плацяць? Таму, што памешчыкі за граніцай лепей гаспадараць, бо тамтэйшыя памешчыкі, калі самі не вучацца, то хоць бяруць вучоных упраўляючых, розныя паляпшэнні заводзяць, і зямля там больш даход дае. Каб гэтак рабілі паны ў нас, таксама шмат болей карысці з гаспадаркі было б.

Пры цяперашніх варунках з наймітамі цяжка. Пры іпакшых пэўна было б лепей, а як тых інакшых варункаў няма, і наракаць на наймітаў няма чаго.

## ЗЕМСТВА І ВОЛАСЦЬ

### I

### Што такое земства

«Ой многа, многа для вёскі ўбогай трэба зрабіць, каб добра жыла»[1]. З якога боку на наша жыццё ні глянуць, якую старану яго ні пачаць разглядаць, усюды мы ўбачым адно і тое ж самае, што каб ткі лепей зажыла ўбогая вёска, шмат у чым патрэбны перамены. Шмат бядней і пушчэй жыве ў нас народ, як па другіх краях. Багата чаго, што тамака даўно ўжо зроблена ды добра нарыхтавана, у нас няма.

Праміж іншым (кажу праміж іншым, бо аб другіх не меней важных патрэбах сялянскага жыцця я, трымаючыся рамак пастаўленых загалоўкам артыкула, тутака гаварыць не буду) — звяртае на сябе пільную ўвагу вось што.

Дужа цёмны цяпер наш народ, гэта праўда. Шмат усялякіх забабонаў і страхаў яго трымаецца. Часта кідаюцца ў вочы патрасаючыя абразкі «жніва цемры» — казаў той: «У балоце народ жывець, ліповаму пню моліцца». Нялёгка

перамагчы народную цемнату. Вякамі збіралася і расло ўсё гэта, вякамі калечылася народная душа ды пакрывалася ўсялякім брудам, глыбокія карэнні панавання цемры пусціла. Глыбокія ды ўсебаковыя перамены патрэбны для таго, каб змаганне з імі дало добрыя вынікі[2]. Вялікае значэнне мае тут асвета. Трэба, каб усе былі пісьменныя, каб школ было гэтулькі, што б усе маглі ў іх стоўпіцца. У школах павінны ў роднай зразумелай мове вучыць таго, што ў нашым жыцці найболей карысна і патрэбна. Школа павінна працаваць над пашырэннем далягляду народа — павінна рупіцца, каб яе гадаванцы былі знаёмыя з галоўнымі законамі прыроды і грамадскага ладу, каб яны прывучаліся незалежна і крытычна думаць. Для падняцця культурнай вышыні народу адной школы мала. Трэба завесці ўсюды па мястэчках і вёсках добрыя бібліятэкі і чытальні, каб кожны, хто хоча што прачытаць, без вялікага клопату мог здаволіць гэту патрэбу; трэба арганізаваць народныя хоры і тэатр, каб і паглядзець было на што свабоднай часінкай, трэба... яшчэ шмат чаго зрабіць у гэтым кірунку. Усяго і не пералічыш. Паменшала б тады, а з часам і саўсем знікла п'янства і буянства, пачалі б вяскоўцы жыць не па-звярынаму, а па-людску ў поўным значэнні гэтага слова. Усё гэта пачынае цяпер штораз то болей і лепей разумець і сам народ. Усё прыбывае ды

прыбывае сялян, якія горнуцца да дабра, праўды і свету, якія хочуць болей даведацца, пачаць жыць культурна. Што ж, калі няма як. Школ мала, далёка не ўсе дзеткі могуць там стоўпіцца; бібліятэк, чытальняў ды іншых культурных устаноў, даступных селяніну, так як бы і няма; вучаць па школах у чужой, малазразумелай мове, ды далёка не таго, што трэба, і гэтак далей. Пры такіх варунках нават тым сялянам, што цяпер маюць культурныя патрэбы, нялёгка іх здаволіць, дзеля чаго парыванні к святлейшаму жыццю шмат у каго слабеюць. Самі яны дзічэюць, апускаюцца, ажно пакуль не зробяцца гэткімі, як і ўся народная маса. Тым часам трэба, каб было іначай, каб не толькі не дзічэлі болей культурныя сяляне, але лік культурных сялян трэба каб усё большаў ды большаў. Каб другія, прыглядаючыся да іх жыцця, самі захацелі бы гэтаксама жыць.

Далей, канешне, патрэбы бальніцы, дзе дарма лячылі б хворых дактары, ветэрынары (скацінныя дактары), адвакаты, якія б дарма давалі ўсялякія рады. Цяпер гэткай помачы народу ў нас дужа мала. Вось лечыцца народ у шаптуноў, скацінку водзіць да канавалаў, судзіцца, слухачы вясковых «адвакатаў», усялякіх лайдакоў, якія цкуюць людзей адных на другіх, каб болей было судоў і звадак, а «адвакатам» — заработкаў. Праўда, каб і былі бясплатныя док-

тарскія ды адвакацкія рады, можа, і тады знайшліся б (асабліва спачатку) людзі, думаючыя, што з шаптуна болей карысці, як з доктара, але пабачыўшы на свае вочы, чыя рада болей карысная, з часам усе пакінулі б гэтых ашуканцаў. Цяпер іншы селянін разумее ўсё гэта, рад бы звярнуцца па разумную раду, але то некалі, або няма ў каґо блізка парадзіцца, або за раду вялікія грошы бяруць. Дзеля чаго, хочучы не хочучы, звяртаецца іншы да шаптуна, бо гэта і бліжэй і танней.

Патрэбны нам гэткія дарогі, каб ва ўсякае надвор'е можна было праехаць, не паламаўшы снасці ды не здушыўшы каня. Якія дарогі цяпер, кожны ведае. Не ўсе сяляне і цяпер кажуць: «Пры дзядах і бацьках не было, то — не трэба і нам». Шмат хто рад быў бы сёе-тое завясці ў гаспадарцы новае, каб большы мець даход, але невядома, як за гэта ўзяцца, ды і грошы няма, каб нарыхтаваць гаспадарку па-інакшаму — лепей.

Вось, канешне, патрэбны і тут вучоныя людзі, якія з толкам маглі б параіць, што рабіць. Гэткія людзі (аграномы ды ўсякія інструктары) павінны даваць бясплатныя рады, мала таго, павінны ездзіць па вёсках — чытаць лекцыі, тлумачыць, што «во, людзям трэба зрабіць тое ды сёе». У адной вёсцы, напрыклад, варункі такія, што карысна гадаваць гусей, во трэба

параіць, як нарыхтаваць гэта, у другой — што іншае добра было б наладзіць. Гэтыя людзі, каб прынесці праўдзівую карысць народу, павінны любіць гэты народ, шчыра спагадаць яму, сумленна працаваць для дзела — а не тое, каб абы толькі збыць; павінны добра знаць мясцовыя варункі ды рады даваць з толкам. Калі (як гэта часта бывае цяпер) аграномамі будуць людзі, якія не знаюць як трэба ні свайго дзела, ні варункаў, якія думаюць болей аб тым, як бы большае жалаванне браць, чым аб народнай карысці, тады яны зробяць адну толькі шкоду. Народ, чуючы бесталковыя рады ад адных, не будзе верыць і другім ды звыкнецца з думкай, што ніякага толку ад перамен у гаспадарцы няма. Тым часам, чуючы разумнае слова, адны паслухаюць адразу, другія, прыгледзеўшыся на першых, значыць, крыху пасля. Карысць з гэтага выйдзе выразная і відавочная. Бачачы гэта, памаленьку завядуць тое і ўсе.

Для перамен у гаспадарцы ды лепшага нарыхтавання яе часта патрэбны гэткія грошы, якіх гаспадар не мае. Трэба наладзіць танны павер (крэдыт), каб без вялікага клопату можна было б на выгодных варунках дастаць грошы.

Усе гэтыя і таму падобныя справы дужа вялікае маюць значэнне. Але добра нарыхтаваць іх могуць толькі людзі сумленныя, шчыра прыхільныя народу і знаючыя мясцовыя варункі.

Хто ж лепей ад самых тутэйшых жыхароў можа ведаць, што для іх старонкі трэба і хто апрача мясцовых людзей патрапіць найталкаўнейшы загад даць гэтым справам? Пэўна, што ніхто. Вось найлепей будзе, калі ўстановы, парадкуючыя вышэй абгавораныя справы, будуць складацца з людзей, выбраных самімі жыхарамі гэтай старонкі. Гэтыя выбраныя людзі з'едуцца рады, абгаварыўшы, пастановяць, што трэба рабіць, як наладзіць тую ці іншую справу, якіх вучоных людзей, даючых рады народу, наняць на службу, якое плаціць ім жалаванне (усе рады вучоныя павінны даваць бясплатна, а каб было з чаго жыць, ім ідзе жалаванне.

Парадак, калі ўсімі такімі справамі камандуюць не асобныя[3] начальнікі, а выбраныя ад насельніцтва[4], і завецца земствам. Земствы заведзены цяпер ва ўсіх еўрапейскіх дзяржавах і ў большасці губерній Расеі. Перш такімі справамі загадвалі і пастанаўлялі, што варта завесці ці перамяніць, назначаныя ад казны чыноўнікі. Але толку з гэтага было мала. Чыноўнікі людзі наезджыя, мясцовыя варункі і патрэбы знаді мала. Нават і тыя з іх, што хацелі б працаваць для народнага дабра, не ведалі, як за што ўзяцца. Было шмат сярод іх людзей болей думаючых аб сваёй карысці, як аб грамадзянскай. Робячы што-небудзь, яны ўсё аглядаліся, ці ўпадабае гэта начальства. Вось і стала ясна,

што куды лепей будзе паручыць гэтыя справы тутэйшым людзям. Назначаючы са стараны, лёгка можна памыліцца, назначыць не таго, хто добра здолее павесці справу, а там пакуль яшчэ ў сваёй памылцы агледзімся, а вось выбіраючы, якраз можна выбраць каго трэба. Калі б выбраныя аказаліся благімі ці няўмекамі, другі раз можна выбраць лепшых. Калі грамадзянства цікавіцца гэтай справай і выбірае свядома, выбарны парадак забяспечвае найлепшы падбор — земскіх гаспадароў.

Як завялі выбарнае земства ў адным краі, гэта перамена аказалася гэтак добрай, што сталі завадзіць яго і па другіх мейсцах. У Расеі зараз жа па скасаванні прыгону, у 1864 г., завялі земскія парадкі ў 34-х губернях. У другіх губернях (праміж імі і беларускіх) — дзеля розных планаў урадавай палітыкі, земства не завялі.

Хоць у Расеі (як гэта мы пабачым далей), земства не зусім гэтак, як трэба, нарыхтавана, але ўсё-ткі ў тых губернях, дзе яно ёсць, шмат лепей і народная асвета, і медыцына, і ўсё іншае пастаўлена, як там, дзе земства няма. Карысць земскай гаспадаркі відавочная. У нашых 3-х губернях (Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай) — земствы завялі толькі ў 1911 годзе, у Гродзенскай і Віленскай яго і дагэтуль няма. Шкада толькі, што дзеля нацыяналістычнай палітыкі беларускія земствы надта ўжо «куртатыя» і

працуюць пакуль што не гэтак, каб здаваляць народныя патрэбы.

## II

### Як нарыхтавана цяпер земства ў Расеі

У 1864 годзе ў 34-х губернях еўрапейскай Расеі было заведзена земства. Зрабілі гэта дзеля таго, што благія вынікі чыноўніцкай гаспадаркі паказалі сябе надта ўжо выразна. Стала ясна, што, каб упарадкаваць гэтыя справы, трэба, канешне, прыцягнуць да кіравання імі само грамадзянства.

Каб земская гаспадарка вялася добра, то найсправядлівей было б, каб выбіраць земскіх гласных усе мелі роўныя правы ды гласныя выбіраліся супольна ўсім насельніцтвам; але ўрад пайшоў інакшай дарогай. Ён пастанавіў, што паны, жыхары гарадоў і сялянскія воласці павінны асобна, кожны ад сябе, выбіраць гласных, а гласныя ўжо з'едуцца разам на земскі сход. Паводле гэтага закона, сяляне выбіраюць 38 % гласных, а паны і чыноўнікі 42 % (гэта значыць з кожных 100 гласных прыходзіцца 38 сялянскіх, 42 панскіх). З самага пачатку земствы былі пастаўлены ў залежнасць ад адміністрацыі, якая далёка не заўсёды спагадліва[5] адносілася да працы земства, да іх праектаў.

У 1890 годзе выйшаў новы закон, які зрабіў земствы яшчэ болей залежнымі ад адміністрацыі, ды лік гласных ад сялян яшчэ болей зменшылі (цяпер іх стала толькі ўсяго 28 %), а ад паноў збольшылі.

Дзеля таго, што адны справы маюць значэнне толькі для аднаго павету, другія для ўсяе губерні ці вымагаюць такога вялікага кошту, што жыхарам аднаго павету цяжка гэта наладзіць, то земствы былі заведзены двух сартоў: павятовыя — у кожным павеце, і губернскія. Важнейшыя справы абгаворваюцца на земскіх сходах[6], на якія з'язджаюцца на некалькі дзён — штогод — выбраныя гласныя (гласных выбіраюць на 3 гады, як гэты час пройдзе, дык новыя выбары). Дзеля дагляду за земскай гаспадаркай праз увесь час, калі няма земскага сходу, выбіраецца земская ўправа. Яна пільнуе, каб пастановы земскага сходу выконваліся, кіруе ўсім, глядзіць за парадкам, прымае на службу земскіх працаўнікоў і да т. п.

Закон 1890 года прыціснуў земствы ды шмат звузіў круг іх працы,— але ўсё-ткі земская праца вялася рупна і шчыра. Шмат зрабілі земствы для падняцця культурнай вышыні народу. Для гэтага годзе параўнаць толькі губерні, дзе ёсць земства, з тымі, дзе яго няма,— параўнанне выпадзе далёка не на карысць апошніх.

Хоць большасць земскіх гласных выбрана

панамі, што ў некаторых мейсцах выразна праявілася і на выніках[7] земскай працы, усё-ткі шмат дзе перамагалі людзі, якія шырэй глядзелі на справы. Шмат дабра зрабілі яны і для сялян. Асабліва вялікія заслугі палажылі тут не самі гласныя, а нанятыя земствам на службу вучоныя працаўнікі — статысты, дактары, аграномы, настаўнікі. Добрым словам павінен спамянуць іх працоўны народ, маючы на ўвазе, у якіх цяжкіх варунках гэтым прыяцелям народу прыходзілася жыць і працаваць.

Пасля 1905 года памешчыкі, напужаныя аграрнымі сялянскімі рухамі, сталі выбіраць у гласныя прыхільнікаў прыгонных парадкаў. Гэтыя людзі, карыстаючыся з таго, што панскіх гласных шмат болей, як іншых, і ў земствах выйшла іхняя перавага,— перавярнулі дагары нагамі земскую гаспадарку. Куды болей рупячыся аб тым, каб пасярод земскіх працаўнікоў не знайшлося часам людзей з інакшымі думкамі, [чым] аб добрай пастаноўцы земскай справы, яны пачалі ўсіх, каго лічылі «неблагонадежными», гнаць вон з земскай службы. Тысячы дужа карысных працаўнікоў страціла мейсцы; без іх усё пайшло без толку. Гадамі сумленнай, шчырай працы збудаваныя культурныя ўстановы разваліліся або дужа аслаблі.

Але ў апошнія гады земская гаспадарка патрошку зноў наладжваецца. Вялікае значэнне

мае і тое, што шмат дзе сяляне пачалі выбіраць у гласныя ад валасцей святлейшых, разумных людзей, заступаюшчыхся за народ. Голас сялянскіх гласных у некаторых расейскіх земствах звяртае на сябе агульную ўвагу. Гэтак разумна і з толкам радзяць сялянскія прадстаўнікі, што ёсць чаго паслухаць. Лепшая частка гласных ад другіх станаў ідзе з імі разам. Шкада толькі, што сялянскіх гласных наогул надта мала: далёка не ўсе гласныя ад сялян выступаюць у абарону выбраўшага іх народу. Дужа часта выбіраюць сяляне ў гласныя людзей цёмных, а то і маласумленных. Сядзяць гэтыя гласныя на земскіх сходах, «брады свае ўставя», а талковай рады, разумнага слова ад іх не пачуеш.

Земствы ў 3-х беларускіх губернях нарыхтаваны меней-болей гэтак, як ва ўсёй Расеі. Толькі дзеля нацыяналістычнай палітыкі зменшаны правы «інародцаў», ды гласныя ад сялян, дайжэ ва ўсіх земствах, вачамі толькі лыпаюць і зусім у абарону паслаўшай іх роднай вёскі не выступаюць.

## III

### Якое нам патрэбна земства

Каб земства магло добра працаваць і прыносіць карысць, трэба, каб яно было як найболей незалежнае, каб тое, што пастановіць земскі сход, уваходзіла ў жыццё, а адміністрацыя не

перашкаджала. Само ж насельніцтва, а не хто, выбірае гласных, значыцца, калі хто дастуліўся гонару быць гласным, відаць, выбраўшыя лічаць яго вартым гэтага. Яго голас павінен мець вагу. Калі жыхары агледзяцца, што гласныя пастанаўляюць не тое, што патрэбна і карысна, яны другі раз інакшых гласных выберуць, якія акурат павядуць гэтак гаспадарку, як захоча насельніцтва. Выбраныя гласныя найлепей ведаюць земскія справы, усякая апека ад адміністрацыі ім шкодна і не жадана. Далей, земства бярэ грошы з усіх грамадзян, усе зацікаўлены, каб як найлепей яно рабіла сваю справу, усім важна, каб земства працавала для іх карысці. Дужа часта бывае, што тое, што карысна, напрыклад, памешчыкам, зусім не патрэбна сялянам. Тым часам гласных ад паноў цяпер болей. Для народа гэта крыўдна. Вось каб земскія гласныя былі праўдзівымі выбранымі ўсяго народу, каб яны вялі земскую гаспадарку, як гэта карысна большасці ўсіх грамадзян, трэба, каб гласных выбіралі ўсе супольна, разам. Усе дарослыя[8] людзі, чым бы хто ні займаўся (ці ён доктар, аграном, пан ці мужык), якой нацыянальнасці і веры ні быў, — павінны мець пры выбарах гласных роўныя правы. Выбары павінны быць супольныя ад усіх: за каго болей падаецца галасоў, той і ў гласныя пападзець. Гэткім парадкам выбраныя гласныя будуць праўдзі-

вымі прадстаўнікамі народу ў земстве: земская гаспадарка будзе весціся гэтак, як таго захочуць грамадзяне. Дзеля таго, каб мець за што весці культурную працу, земству патрэбны грошы. Яно накладвае на народ новыя падаткі. Праўда, народу і гэтак цяжка. Багата ён і без гэтага плаціць падаткаў, ажно вывернуцца з іх не можа, усё ў нядоімцы па вушы сядзіць. Калі дадаць яшчэ новыя падаткі, земскія, дык на першы погляд можа здацца, што толькі лішні цяжар узвальваецца на народныя плечы.

Нічога не зробіш: так званыя расходы — гэта адна з найбольшых і з найважнейшых патрэб, абысціся без якіх ані няма як. Земства выдае грошы на школы, дактароў, культурныя ўстановы, на лепшыя дарогі. Усё гэта такія справы, што змяншаць выдаткаў на іх не можна, а наадварот, пастаянна трэба павялічваць.

Цяжка народу плаціць падаткі, добра было б іх змяншыць, ды праўду кажучы, шмат па якіх расходах нашай дзяржавы варта было б зберагчы грошы, варта было б меней выдаваць. Гэта так. Але на культурныя патрэбы, памятаючы аб лепшай будучыні роднага краю, скупіцца з грашамі не можна. Прытым і падаткі можна размеркаваць гэтак, каб з багатых збіралася болей, з бедных меней, каб не цяжкія народу яны былі. Не маючы месца затрымлівацца над растлумачэннем, як гэта зрабіць, абмяжуюся[9] толькі

намёкам на тое, што шмат па якіх краях падаткі размеркаваны справядлівей — і з бедных не бяруцца без увагі. Можна было б гэтак наладзіць справы і ў нас, пры збіранні як земскіх, так і ўсялякіх іншых падаткаў.

Падзел земства на губернскае і павятовае павінен застацца і пры найлепшым палажэнні земства. Адны справы гэткіх вялікіх вымагаюць коштаў, што павятоваму земству не па сіле, ды значэнне маюць на ўсю губерню (напрыклад, больш каштоўныя школы, меліярацыі і г. д.), а другія лепей здолее наладзіць павятовае земства. Вось дзеля агульнага дабра працу праміж імі трэба падзяліць. Але гэтага мала. Павятовае земства, кіруючае цэлым паветам, дзе жыхароў некалькі сот тысяч, гэтаксама не ўсё як трэба можа споўніць. Ёсць такія справы, якія маюць значэнне толькі для адной воласці, для невялічкай лічбы людзей. Напрыклад, як пабудаваць мост праз якую рэчку, правесці канаву і да т. п., ды зрабіць гэта ў залежнасці ад мясцовых варункаў лепей і танней, аб гэтым могуць судзіць жыхары тых некалькіх вёсак (ці адной нават вёскі), якім гэты мост, роў патрэбны. Праўда, маюць яны гласных выбарных ад сябе ў павятовым земстве, але тамака пастанаўляюць справы гласныя з усяго павету. Гласныя выбраныя з гэтай воласці найлепей, знаючы мясцовыя варункі і патрэбы, будуць раіць зрабіць адно;

а гласным з другіх валасцей, у якіх інакшыя патрэбы, можа выдацца іначай. Яны на гэта могуць не згадзіцца. У канцы справа выйдзе наладжанай горай, чымся тады, калі б яе ўпарадкавалі адны толькі мясцовыя людзі. Яны ж найлепей гэту справу знаюць і жыва зацікаўлены ў як найлепшай яе пастаноўцы.

Далей, усякіх дробных спраў на цэлы павет набіраецца гэтак многа, што пры найлепшай ахвоце павятовае земства не паспявае ўсе іх як след разглядзець, абмеркаваць, абдумаць. Трэба спяшацца, каб хапіла часу ўсё гэта разабраць. Ну а вядома, спяшаючыся, таго не ўспомніш, на гэта забудзешся і зробіш сёе-тое не гэтак.

Вось і патрэбна земства яшчэ драбнейшае ад павятовага. Няхай губернскія земствы разглядаюць адны справы, павятовыя другія, ну а для парадкавання дробнымі справамі павінны быць яшчэ аднаго сорту земствы — земствы валасныя. Гэткага, дробнага, валаснога земства ў Расеі не заведзена, а яно надта патрэбна. Але аб тым, як наладзіць валаснае земства, пагаворым ужо ў чародным раздзеле.

## IV

### Воласць

Што такое цяперашняя воласць, ведае кожны селянін. Дзеля гэтага гаварыць аб тым, як яна нарыхтавана, не буду. Шмат нараканняў на

воласць адусюль даводзіцца чуць. Ды і праўда, ёсць-такі на што наракаць. Ні праўды, ні толку, ні справядлівасці, ні парадку ў ёй няма. Чаму гэтак? Перш-наперш вінавата, канешне, народная цемната. Выбіраюцца ў валасныя начальнікі не лепшыя, справядлівыя і талковыя, людзі, а тыя, хто ці дзеля нажывы, ці дзеля гонару хоча прайсці ў начальства ды не шкадуе грамадзе гарэлкі. Далей, беларускі селянін мала таго што цёмны, але яшчэ страшэнна баязлівы, запужаны. Вякамі адусюль пераносіў ён гнёт, у адносінах да сябе паноў і начальства не бачыў ні толку, ні справядлівасці. Зжыўся дзеля таго народ з думкай, што няма праўды на свеце, што багацейшы і мацнейшы, калі толькі захоча, заўсёды скруціць у барані рог беднага і слабага — усё роўна вінават той ці не. Аж надта добра на сваёй скуры пераканаўся народ, што закон у воласці, як той дышаль, куды яго павернеш, туды ён і выйшаў, — і для моцных закон не пісаны. Не знае народ сваіх правоў. І не ўмее бараніць сваіх правоў, тых, што дае закон, і як на тое пахілае дрэўца, на якое, як кажа прыказка, «і кожы скачуць», так з сялянскай цемнаты кожны карыстае. Лупяць скуры з народу і па закону і без закона — кожны хто не ленiцца. Валаснoе начальства, у нядаўнія яшчэ часы, гэткія выраблялa штучкі з валаснымі грашамі, ды і не толькі з імі, што ажно паверыць

трудна. Выраблялiся такiя штучкi дайжэ што не спатыкаючы адпору з боку пакрыўджанай грамады. Цяпер ужо не тое. Цяпер у воласцi часта гэткiя справы i наверх вылазяць. Знаходзяцца людзi, што выводзяць зладзействы i здзiрствы на чыстую ваду. Не гэтак ужо даецца стрыгчыся народ, як даўней, але ўсё-такi надта многа брыды робiцца па валасцях яшчэ i цяпер. Прытым калi i скiнуць, напрыклад, злодзея, хабарнiка старшыну, дык на яго месца выбiраюць не лепшага, а цi гэткага самага ашуканца, цi дурня.

Акрамя цемнаты, у гэткай пастаноўцы валасных спраў вiнавата тое, што на воласць народ глядзiць, як на казённую ўстанову, i карысцi ад яе не чакае. Яно i праўда. Цяперашняя воласць спаганяе з народу ўсялякiя падаткi ды павiннасцi, i болей нiчога.

Усе расходы па воласцi плацяць адны сяляне. Тым часам дужа часта звяртаюцца да яе, як да казённай установы, i паны: цi кантракт якi пасведчыць, цi што iншае. Нiякiх падаткаў (акрамя, можа, гасцiнцаў пiсару) яны не плацяць, а ўтрымлiвае воласць[10] адзiн толькi сярмяжнiк. Цi ж гэта парадак, цi ёсць тутака справядлiвасць. Тым часам расходы на ўтрыманне воласцi i валаснога начальства ў 1895 г. займалi 64 % усiх валасных расходаў; 24 % астаецца на iншыя, культурныя патрэбы воласцi.

Гэтае задавальненне культурных патрэб i

павінна быць галоўнай мэтай воласці. Воласць якраз падыходзіць да таго, каб быць дробнай земскай установай (аб каторай гаварылася вышэй).

Усё, што прыносіць карысць жыхарам, служыць для паляпшэння іх жыцця і гаспадаркі, што робіць вясковае жыццё лепшым і святлейшым, павінна быць парадкавана земскімі ўстановамі: валасной, павятовай, губернскай. Працу між іх трэба падзяліць гэтак, каб як найлепей спорылася работа. У валасное земства павінны выбіраць кіраўнікоў гласных усе жыхары гэтай воласці без розніцы веры, нацыянальнасці, чым бы хто ні займаўся. (Пры гэткіх парадках цяперашнія чыны — старшыны, староста і інш.— (будуць ужо не патрэбны). Для пастаяннага дагляду над земскімі справамі павінна быць выбрана гласнымі валасная ўправа.

Тамака, дзе воласць малая, можа не выбіраць гласных, а проста выгадней будзе ўсім грамадзянам сходзіцца на сход для абгаворвання спраў і выбару валасной земскай управы. Гэта нарыхтаваць трэба так, дзе як выгадней: дзе выбіраць гласных — няхай выбіраюць, а дзе на сход сходзіцца — няхай установяць сходы. Калі большая частка жыхароў якой вёскі ці фальварка знойдзе, што выгадней належаць да другой якой воласці, яна павінна мець поўнае права пераходзіць у граніцы той воласці.

Усе цяперашнія абавязкі валасной канцылярыі па збіранні падаткаў, вядзенню спісаў і да т. п. да валаснога земства належаць не павінны, і няхай гэта робіць іншая якая ўстанова. Калі ўзваліць гэта на воласць, яна не зможа добра парадкаваць земскімі справамі. Гэтыя ж справы павінна  мець толькі на воку ўсестанавая земская воласць, працуючая дзеля ўзняцця культурнай вышыні народу, дзеля задавальнення яго найважнейшых патрэб, дзеля народнага дабра і карысці.

## V

## Што рабіць цяпер?

Трэба спадзявацца, што некалі земская гаспадарка будзе нарыхтавана гэтак, як гаварылася ў папярэдніх раздзелах,— трэба ісці к таму і рупіцца, каб як найхутчэй усё гэта збылося.

Ну а пакуль што, як будзе? Што рабіць у цяперашняй воласці, як выбіраць гласных у земствы Міншчыны, Магілёўшчыны, Віцебшчыны?

Ці можна дапусціць, каб у валасное начальства выбіраліся тыя, хто болей барышоў дае, ну а пасля, калі надарыцца зручнасць, дык і «растрату» зробіць. Лепшыя, святлейшыя сяляне самі не хочуць пападаць у валасныя, начальства, не толькі не рупяцца, каб выбіраць на

гэтыя месцы людзей з пасярод сябе, але і агулам трымаюцца ўбаку ад валасных выбараў. Ці добра гэта? Не. Гэта блага. Праўда, цяперашняя воласць дайжэ толькі тое і робіць, што спаганяе з народу падаткі і павіннасці. Гэтымі справамі яна так завалена, што рабіць культурную працу не мае ані часу, ані грошай. Гэта так. Але падаткі і павіннасці ўсё роўна спаганяцца будуць, хто б ні быў старшыной, напрыклад, калі старшына будзе разумны і сумленны, дык хоць парадак які-небудзь у валасных справах будзе, хоць за гарэлку ці хабары не будзе крыўда перамагаць праўды, хоць сабраныя падаткі і валасныя грошы будуць цэлыя. Калі ж старшына жулік, ён сам шмат можа нашкодзіць, напсаваць, калі ён проста дурань, дык пісар, хаваючыся за старшыновым хрыбтом, можа ўсялякай усячыны нарабіць. Няхай сабе пасля гэта раскрыецца, будзе суд, але пакуль там што, дык шкоды і непарадку досыць. А яшчэ і па пакаранню вінаватых накрадзенае імі, бывае, што і прападае зусім. Воласці чыстая страта. Вось, каб гэтага не было, трэба выбіраць людзей сумленных. Дзе-нідзе на Расеі (і ў Беларусі гэтаксама), дзе народ разумнейшы, валаснoе начальства выбіраецца ўжо і цяпер не за гарэлку, а як павінна быць. Трэба, каб гэтак было ўсюды.

Яшчэ большае значэнне маюць выбары гласных у земствы віцебскія, мінскія і магілёўскія;

сяляне павінны добра разумець тое, што для іх далёка не ўсё роўна, якія будуць гласныя. Земскія гласныя сяляне не павінны сядзець і маўчаць або прадавацца за гарэлку і ісці проціў карысці братоў сваіх; трэба, каб голасна выступалі яны ў земствах у народную абарону. Трэба, каб земскія грошы не марнаваліся дарма, а выдаваліся з толкам, бо нялёгка народу дастаецца капейка. Дзеля гэтага і трэба ў гласныя выбіраць людзей сумленных, шчырых, талковых, што патрапілі б у патрэбе сказаць разумнае слова.

Праўда, гласных ад сялян мала, перамагаюць у земствах паны, але і сярод іх могуць знайсціся людзі, гатовыя папрацаваць не канечне для свайго толькі, але і для агульнага дабра. Ідучы побач з імі, гласныя ад сялян могуць шмат зрабіць дзеля нарыхтавання земскай працы так, як народу карысна.

Не можна адгаварвацца тым, што не варта рупіцца аб земскіх выбарах у сваёй воласці, бо ад іншых валасцей павету ці губерні могуць прайсці цёмныя сяляне, і нашы гласныя, будзь яны найлепшымі, нічога зрабіць не змогуць.

Перш-наперш мы раней не можам ведаць, якія адкуль выбраны будуць гласныя. Прытым няхай сабе ўсюды выберуць цёмных сялян, а толькі ў некаторых валасцях будзе лепей. Усё роўна гэтыя святлейшыя выбарныя павін-

ны не змоўчаць, галосна выказваць свае думкі ў земстве, каб усе, і прыяцелі і ворагі іх, чулі ды ведалі, чаго хоча свядомая вёска, што ёй патрэбна. Пачуўшы гэткае слова, можа, не адзін цямнейшы гласны далучыцца да прамоўцаў і будзе далей працаваць з імі побач.

Трэба звярнуць на земскія выбары пільную ўвагу. Дзеля гэтага кожнаму трэба тлумачыць, што такое земства, якая з яго можа быць карысць і да т. п., трэба, каб беларускае сялянства, дагэтуль дайжэ не маючае паняцця аб земстве, не толькі даведалася, што гэта такое, але і зразумела ўсё значэнне і карысць гэтай установы, змагло б у поўнай меры выкарыстаць яе дзеля задавальнення сваіх патрэб.

## КОЛЬКІ СЛОЎ АБ ХУТАРАХ

За некалькі апошніх гадоў у нашым краі, як і ва ўсёй Расеі, дужа энергічна вядзецца так званае «землеўстройства», якое ідзе и таму, каб сяляне пакінулі абшчыннае ўладанне зямлёй ды разышліся на вотрубы і хутары. Для Беларусі справа скасавання абшчыны мае не гэткае вялікае значэнне, як для Вялікарасеі, дзе дайжэ ўся сялянская зямля ў абшчынным карыстанні. У нас толькі дзе-нідзе, на ўсходняй ды паўночнай старане краю, спатыкаецца абшчына, і дзеля гэтага цэнтр урадавага землеўпарадкавання[1]

для нашага краю — гэта пераход з вясковага жыцця на хутарское.

Наогул, да сялян куды лягчэй даходзіць пахвала хутароў, чым ганьба, але ўсё ж такі на хутары яны разыходзяцца не надта ахвотна. Няўжо ж тут толькі цемната вінавата? Гэта тым болей дзіўна, што якраз найболей развітыя, начытаныя і крытычна думаючыя людзі ў вёсцы, як з пасярод сялян, так і інтэлігентаў, якраз праціўнікі хутароў. Чаму яно гэтак?

Вось гэта дужа важнае пытанне, якое і трэба з усіх бакоў разгледзець. Добра было б, каб як найболей чытачоў-супрацоўнікаў «Нашай нівы» гэтым занялося.

У нас для таго, каб жыць меней-болей прыстойна[2], трэба мець не менш 10-ці дзесяцін, а каб гаспадарыць добра, дык у 2—3 разы болей. Тым часам добра вядома, што большасць нашых сялян мае зямлі куды меней, значыцца, на хутарах жыць ім ані няма як. Перад разышоўшыміся на хутары, як і перад астаўшыміся жыць у вёсцы, становіцца адно і тое ж пытанне: «Трэба нам, трэба, як ласкі з неба, лепшы, даўжэйшы зямелькі шнурок»[3]. Без развязкі гэтага пытання лепшага жыцця не будзе.

Пакупка праз Сялянскі банк. Але во ягамосць Зрэбны прыводзіць вядомы яму прыклад, калі зямля прадаецца па 250 руб. дзесяціна, а банк ацаніў яе па 75 руб. Гаротнаму сярмяжні-

ку, які не мае ні граша за душой, трэба немаведама адкуль дастаць 7/10 усіх патрэбных на куплю грошай. Ягамосць Лемеш ізноў кажа аб тым, як банк ахватней садзіць на зямлю старавераў, чым беларусаў, нават хоць бы праваслаўных. Гэткіх і ім прыкладаў дзейнасці[4] банка, кожны, хто ведае вясковае жыццё, можа налічыць шмат. Вось і выходзіць, што ў нас Сялянскі банк не дае той карысці, якую мог бы даць.

Далей, пераход на хутары вымагае вялікага кошту на будоўлю, ды каб гаспадараваць тамака, трэба мець жывёлу, прылады да гаспадаркі, насенне, грошы на зварот і г. д. У календары «Нашай нівы» за 1910 год у артыкуле «Што трэба мець, каб сесці на хутар» ягамосць А. Уласаў аблічае, што ўсё гэта найменей будзе каштаваць 685 руб. 33 кап. А калі хто ўжо мае даволі гаспадарскай жывёлы, корму для яе, насення, дык трэба мець 392 руб. 98 кап.

Але вядома, што большасць нашых сялян мае ўсяго гэтага далёка не гэтулькі, як трэба, так што як ні круціся, а ўсё ж ткі, каб усё мець, то трэба выдаць, сядаючы на хутар, рублёў 400—500. Тым, што выходзяць на хутары, даюць без працэнтаў 150 руб. на падмогу (якія трэба аддаць праз 15 гадоў), значыцца, трэба яшчэ мець сваіх грошай найменей 250—350 рублёў. Мала сялян маюць гэткія грошы. Значыцца, ім трэба або садзіцца на хутары, не нарыхтаваўшы як

след гаспадарку, або пазычаць грошы ў працэнтшчыкаў на ліхву.

Пакуль народ не будзе мець болей зямлі ды не арганізуецца ўсюды танны павер, расхадзіцца на хутары няма як.

Жывучы на хутары, скацінку трэба трымаць у хлеве, тым часам пры нашым малазямеллі хоць бы і шмат лепей гаспадарыць, чым цяпер,— усё роўна корму для скаціны не будзе хватаць, вось і выйдзе, што ў рассяліўшыхся гаспадароў хутары скацінку звядуць,— гэта значыць тое, над чым ягамосць Д. Д-ч жартаваў, станецца сумным фактам.

Адным словам, з хутароў у цяперашніх варунках для шырокіх мас беднага, малазямельнага сялянства карысці не будзе. Ці карысцен быў бы пераход пры інакшых варунках, аб гэтым шмат чаго можна сказаць. Ёсць паважныя довады на карысць хутарной гаспадаркі, ёсць не меней паважныя довады і супраціў іх. Але аб гэтым на старонках «Нашай нівы» пагаворым яшчэ калі-небудзь другім разам.

## ЯШЧЭ АБ ЛЯСНЫМ ГОЛАДЗЕ

(З Барысаўшчыны)

У № 50 «Нашай нівы» за леташні год у карэспандэнцыі з Ігуменскага павету ішла гаворка аб адной з сучасных «бытавых» з'яў,

вырубцы лясоў, за якой у недалёкай будучыні пэўна прыйдзе лясны голад. Гэта з'ява дужа характэрна не толькі для Ігуменшчыны, але і для нашага павету (Барысаўскага), ды і агулам для ўсёй Беларусі. Цяпер у нас усе, як малыя панкі, так і магнаты, якія займаюць абшары ў тысячы і дзесяткі тысяч дзесяцін, безупынку сякуць лясы, прадаюць іх і сплаўляюць за граніцу, ды наробяць праз гэта такой бяды, што скора прыйдзецца хоць зубы на паліцу класці. Ужо шмат паменшала лясоў, а няхай пройдзе яшчэ гадоў 20—30 і ніякіх перамен не будзе, г. зн., калі не будзе забаронена панам руйнаваць лясное багацце нашага краю, дык, бадай што, і веніка не будзе з чаго звязаць. Без лесу ў нашых варунках абысціся няма як. Спальваць у печы гной, як гэта робіцца у некаторых бязлесных губернях, у нас не можна, бо на нашай зямлі, калі не даць гною, нічога не вырасце.

Каменны вугаль, торф...

Але для гэтага трэба было б нанава перарабляць печы — дастаўка гэтага па нашых благіх дарогах шмат будзе каштаваць.

Нашыя сяляне гэткія бедныя, што і цяпер ніяк з грашмі вывернуцца не могуць; калі ж апал будзе шмат даражэй каштаваць, яго не можна будзе дакупіцца, і прыйдзецца мерзнуць яшчэ болей, як цяпер. Будавацца таксама шмат цяжэй будзе, як не хопіць лесу, бо ўсе іншыя

матэрыялы даражэй каштуюць. Клімат краю — псуецца ад таго, калі мала лясоў; ужо і цяпер болей благіх гадоў, як даўней,— улетку ўсё спякота або дажджы, зімы бясснежныя.

Адным словам, сумная будучыня нас чакае. Няпраўду толькі кажа аўтар карэспандэнцыі № 50 «Нашай нівы», што мы яе самі робім. Не, не самі, бо не да нас належаць лясы, не мы, беларусы, адвечныя жыхары гэтага краю, гаспадары над імі. Нішчаць багацце Беларусі памешчыкі, людзі з нашым народам і яго патрэбамі не звязаныя, гаворачыя чужой мовай, людзі, найболей не пачуваючыя ніякіх грамадзянскіх абавязкаў да той старонкі, якая іх корміць.

Вось не мы самі, не працуючы беларускі народ гатуе сумную будучыню сваёй старонцы — гатуюць яе людзі чужыя... На іх і наракаць трэба. Ды што ўжо аб будучыні казаць, калі і цяпер гэткая лясная гаспадарка ўжо косцю ў горле нам становіцца.

Паны, прадаючы дзесяткі і сотні тысяч пнёў купцам, сплаўляючым дрэва за граніцу; селяніну, калі трэба дрэва на новую будыніну ці які сажань дроў у печ,— прадаюць надта неахвотна, бо, як кажуць, з гэткай прадажай болей клопату. Здаровае дрэва расце толькі для заграніцы, селяніну, калі няма сухастою ці буралому, часта не можна за гатовыя грошы — нідзе ва ўсёй ваколіцы — дрэва дакупіцца.

# БЮДЖЭТ НА 1914 ГОД

Дзяржаўная дума[1] прыступае ўжо да прагляду бюджэту на 1914 год; гэта значыць рэестру ўсіх даходаў і расходаў казны, у якім паказана, адкуль і з каго казна бярэ грошы і што з імі робіць. Казна аблічае, што ўсяго даходу будзе сёлета мець 3 558 200 000 рублёў. Паводле катэгорый дзяржаўны даход дзеліцца гэтак. Падаткі за зямлю і «прамыя» налогі — 264 500 000 руб.; акцызы («косвенныя» налогі) на цукар, карасіну, табаку і інш. 709 200 000 руб.; даход ад продажу гарэлкі 935 800 000 руб.; пошліны — 232 400 000 р.; дзяржаўныя рэгаліі — 133 600 000 руб. Даход з належачых да казны зямель, лясоў, двароў, фабрык, капіталаў 111 800 000 руб.; іншыя розныя даходы 147 000 000 руб.

Надта многа даходу мае казна з гарэлкі. Гэта атрута прыносіць болей 1/4 часці ўсяго даходу дзяржавы. Далей, вялікі даход прыносяць акцызы на найболей патрэбныя ў жыцці рэчы, без якіх найбяднейшаму чалавеку няма як абысціся. Каб акцызы былі меншыя — усё каштавала б танней. Другіх падаткаў таксама шмат набіраецца. Аблічана, што на кожнага чалавека ў Расеі сёлета прыйдзецца ўсялякіх падаткаў і акцызаў 12 руб. 24 кап. Гэтак выходзіць, што з сярэдняй сялянскай сям'і ў 5 чалавек бярэцца

61 руб. 20 кап. Пры нашай горкай беднасці гэта вялікія грошы.

Расходуюцца грошы гэтак. На Міністэрства імператарскага Двара 16 300 000 руб.; на вышэйшыя ўрадавыя ўстановы 8 600 000 руб.; на свяцейшы Сінод — 52 900 000 руб.; на Міністэрства ўнутраных спраў — 206 800 000 руб.; Міністэрства народнай асветы 161 600 000 руб.; Міністэрства фінансаў 494 500 000 руб.; Міністэрства заграпічных спраў — 7 700 000 руб.; Міністэрства дарог — 739 900 000 руб.; Глоўнае ўпраўленне землеўстройства і сельскай гаспадаркі — 157 600 000 руб.; Галоўнае ўпраўленне дзяржаўнага каняводства 4 600 000 руб.; Ваеннае Міністэрства 599 100 000 руб.; Марское Міністэрства 250 400 000 руб.; гаспадарскія патрэбы Ваеннага Міністэрства — 125 400 000 руб. Будоўля новых портаў 18 000 000 руб. Расходы на пакрыццё коштаў японскай вайны 400 000 руб. Працэнты за дзяржаўныя даўгі 402 800 000 руб. Розныя расходы 133 400 000 рублёў.

Шмат сабралася дзяржаўнага доўгу, калі адных працэнтаў штогод трэба плаціць ажно 402 800 000 руб. На народную асвету, гэту адну з найбольшых патрэб, выдаецца лішне мала, калі прыраўняць да іншых расходаў.

## ХУТАРА-РА, ХУТАРА

Усё балота ды балота!
Топчаш шорсткую траву...
Едзеш, едзеш, а дрымота
Так і клоніць галаву...

*Якуб Колас*

Лес, лес... Усё лес без канца і пачатку!.. Паганяе Сымон сваю прыстаўшую Белку... Скрыпяць калёсы, патрэскваюць, перакідваючыся з боку на бок, з карча на корч, скачуць па грэблі, грохкаючы коламі... Выкручваецца, крадзецца дарога паміж пнёў і дзераваў... Спатыкаецца Белка, фыркае... Сядзіць Сымон на кулі саломы і заводзіць сваю ўпадабаную песню, заводзіць, як бы хаваючы каго...

Спарадзіла мяне маці
У святую нядзелю...
Ой, хутара, хутара!
У святую нядзелю...

Не дала мне маці
Ні шчасця, ні долі...
Ой, хутара, хутара,
Хутара-ра, хутара!..
— Ні шчасця, ні долі...

Шуміць Палессе... Квакае жабіна царства ў балотнай дрыгве... Крэкча сытая рапуха... Ля-

скочуць дзергачы... Дзіцянём плача сава, захліпаецца... Паўзе па мокрай траве густы бледна-шэры туман... Сырасцю дыша балотная дрыгва... Хаўтурна звініць голас Сымона...

Толькі і дала мне маці
Прагоркую долю...
Ой, хутара, хутара,
Хутара-ра, хутара!..
— Прагоркую долю...

— До-о-лю-у, — падхоплівае цягучае рэха і замірае недзе ў далі...

Як зачаплю сваю долю
Дый на матузочак...
Павяду я сваю долю
У горад на таржочак...
Ох, люлі, хутара, хутара,
Хутара-ра, хутара!
— У горад на таржочак.

Квакаціць балота пад капытамі Белкі... Качаюцца калёсы па каўдобінах. Шыпяць колы, стрыгочуць...

Ваджу, ваджу сваю долю...
Ніхто не купляе,
Ніхто й дарам не бярэ...
Ой, хутара, хутара,
Хутара-ра, хутара!..
— Ніхто й дарам не бярэ...

Цямнеець лес... Па небе чорныя хмары плывуць... Калючае галлё сцёбае Сымона па шапцы...

Павяду я сваю долю
Дый назад да дому,
Пасаджу я сваю долю
Ў саду ды на сонечку...
Ох, люлі, хутара, хутара,
Хутара-ра, хутара!..
— Ў саду ды на сонечку...

— Тпрру, Белка, стой! Чалавеча, пачакай! Ці хутка будзе Кабанаўка?

Панурыла Белка галаву і стала...

— А хто яго знае?! Чорт тут мераў і шнур згубіў... Што ж, можа, вярста з валоўім чынам і будзе!..

Пачасаўся за каўняром падарожны, задумаўся...

— А сам, стары, скуль будзеш? — быццам нешта ўспомніў, запытаўся ён у Сымона...

— З Качай-Балота... Еду да братоў хутар дзяліць... Свайго мала... Балота скрозь... Няма куды і ступіць,— адказаў Сымон і таксама задумаўся...

— Так, так!.. Нячыстая справа! Ну, бывай здароў! — павярнуў падарожны і паплёўся па гразі...

Сымон паглядзеў яму ў плечы і кінуў галавою... Закалыхалася Белка, зарухалася... Пацягнуўся лес сцяной... Заграхаталі, затрашчалі калёсы па дрыжачым мосце, а пасля і па грэблі... Успомніў Сымон сваю песню і ізноў зацягнуў...

Як нап'ецца, з людзьмі б'ецца,
У хаце не начуе...
Ой, хутара, хутара,
Хутара-ра, хутара!
— У хаце не начуе...

— Не на-а-чу-уе... Дастаў люльку. Задыміў.

Сумуе Палессе. Паміж ціхіх заточын, трыснякоў і зарасняў вывіваецца, крадзецца маўчалівая рэчка...

У тумане хаваецца дымчаты бярэзнік і нізкарослым сасоннікам...

Сядзіць Сымон на кулі саломы і дрэмле. Белка храпе і фыркае. Прытаілася ноч да чорнай мокрай зямлі. Ціха... Ціха ў лесе, як у магіле, і канца яму няма...

Ціха, ціха...

## ИЗ БЕЛОРУССКОЙ ЖИЗНИ

В настоящее время белорусы заняты вопросом об обучении детей Закону Божию на родном языке. Как мы уже отмечали[1], министр народного просвещения в своем циркуляре, ссылаясь на манифест 17 апреля 1905 года о том, что преподавание Закона Божия должно происходить на родном языке учащихся, предписывает ввести преподавание этого предмета для белорусов-католиков

на русском языке. На этой почве завязалась борьба между польскими и русскими националистами, причем первые отстаивают господствующий в области вероисповедной польский язык и — во избежание навязывания русского — призывают белорусов, даже не научившихся еще по-польски, записываться поляками, а вторые стремятся провести циркуляр в жизнь в полном объеме.

Послушаем, что говорят по этому вопросу сами белорусы, для которых он имеет весьма существенное значение.

В статье «За родную мову» (в № 49—50) «Наша нива»[2], орган белорусских возрожденцев, прежде всего дает историческую справку о том, как в 1839 году правительство распорядилось, чтобы в римско-католических костелах проповеди и молитвы произносились исключительно на польском языке.

С того времени белорусы-католики, слушая постоянно польскую речь, так тесно связали ее с католической религией, что всякое покушение на первую считают равносильным посягательству на веру.

«С вопросом о языке в костеле тесно связан другой вопрос — на каком языке должны наши дети обучаться в школе Закону Божию. Эти два вопроса совершенно сливаются. Как молиться, так и учиться бе-

лорус-католик хочет только лишь по-польски».

«В настоящее время,— продолжает «Наша ніва»,— началась работа над введением преподавания Закона белорусам-католикам на русском языке. Несмотря на то, что народ этого не желает, что закон о всеобщем обучении, который это установил, отложен Государственным Советом, что — наконец — манифест 17 апреля 1905 года ясно говорит, что дети в школах должны обучаться Закону Божию на родном языке,— министр народного просвещения издал циркуляр, по которому дети должны изучать Закон не на родном белорусском, а на русском языке.

Не будем останавливаться на том, что циркуляр нарушает естественное право белорусов, что он противоречит основной идее манифеста 17 апреля 1905 г. Это понимают те, кто его составлял. Мы укажем лишь, что политика русского национализма насильно загоняет нас ■ объятия поляков.

Вопрос о преподавании Закона находится в таком же точно положении, в каком в свое время очутилась идея введения русского языка в костеле. Как тогда белорусы целыми массами переходили в «поляки», так и теперь происходит то же явление. Польские националисты призывают всех белорусов-

католиков, которые желают обучать детей Закону по-польски, объявить себя поляками, «хотя они еще по-польски не научились».

Идет широкая агитация в этом направлении, и народ прислушивается к ней: единственная перемена в костеле и в школе, на которую народ готов согласиться, это введение белорусского языка, но именно этого-то правительство допустить не желает. В результате — белорусы крепко придерживаются польского языка и, чтобы освободиться от обрусения в области религии, записываются в качестве поляков.

Так создается почва для окончательного разделения белорусов на русских и поляков, так ведется работа с целью уничтожения самого имени белорусов.

Каждый белорус должен подать свой голос и смело требовать введения родного языка в костеле и школе. Мы неуклонно пойдем по этому пути, будем трудиться изо всех сил, чтобы осуществить это, на что имеем все божеские и человеческие права: добиться введения для белорусов в школу и в дом Божий белорусского языка.

Кто чем может, пусть это требование поддержит. За нами — право и правда».

## ВЫСТУПЛЕНИЕ БЕЛОРУСОВ-РАБОЧИХ

Можно бороться с данным явлением, можно стремиться противодействовать его развитию, но нельзя его игнорировать, нельзя отрицать очевидных фактов.

Однако та часть печати, которая враждебно относится к национальному возрождению белорусов, применяет на практике именно прием отрицания действительности. Само собой понятно, что этим убедить никого нельзя, раз существуют столь яркие проявления движения, как газеты на белорусском языке, книжки, издательские товарищества и другие культурные учреждения, предназначенные для удовлетворения действительно существующих национальных запросов белорусов. Несмотря на отрицание правой и националистической прессы, белорусское движение существует, его корни покоятся в массе народной, а систематическая дифференциация движения говорит о его росте.

Движение, первоначально исключительно крестьянское, разветвляется: рядом с демократическим течением возникает клерикальное, а в то же время идея национального возрождения завоевывает симпатии среди интеллигенции и привлекает к активной деятельности рабочих. Выступление последних, обычно так легко подвергавшихся денационализации, мы и отмечаем

сейчас со слов рабочей газеты «Живая жизнь»[1].

Через депутатов Чхенкели[2] и Скобелева[3] в социал-демократическую фракцию поступила петиция от группы молодых белорусов-рабочих и ремесленников в количестве 20-ти человек из Копыля Минской губернии (эта же петиция передана и в трудовую группу). В этой петиции рассказываются исторические судьбы белорусского края, гонения на белорусский народ и попытки белорусов к развитию своей национальной культуры. Заканчивается петиция следующими словами:

«Мы, молодые белорусы, сознательные дети Копыля, одного из глухих углов своей многострадальной родины, дорогой Белоруссии, зная о существовании в Государственной думе социал-демократической и трудовой фракций, истинных представителей всего угнетенного человечества, написавших на своем знамени защиту их прав на достойную человека жизнь и не раз уже поднимавших голос, устами отдельных членов, в защиту нашего народа (Скобелев, Чхенкели в речах о народной школе), обращаемся к вам с нижеследующим:

1) подать голос в защиту великого и славного в прошлом, а ныне порабощенного более всех национальностей белорусского народа; 2) признания равноправия белорусского языка и прекращения интенсивной окраинной политики

русификации, так гибельно отражающейся на экономическом и духовном развитии края; 3) разрешения союзов и обществ национальных; 4) признания прав белорусов на национальное существование. А также просим внести запрос правительству об открытии университета в городе Вильно или другом крупном центре Белоруссии».

Теперь, когда начинает все более обостряться вопрос о языке преподавания белорусам Закона Божьего, когда столкнулись на этой почве агрессивная политика русского правительства и местных польских националистов, следовало бы обратить более серьезное внимание на конкретные проявления национального самосознания белорусов и считаться не с идеалами винствующего национализма, а с подлинными условиями жизни края. Только стоя на такой почве, быть может, удастся избегнуть тех отрицательных последствий, которые неминуемо повлечет за собой русско-польская борьба из-за монопольного права денационализации белорусской народности.

## ИЗ ЖИЗНИ БЕЛОРУСОВ

### Новый курс

Белорусское национальное возрождение проявляется в виде мирной культурной работы,

которую ведут соответствующие учреждения с издательством «Наша ніва» во главе. Работа эта, проникнутая стремлением пробудить в широких массах белорусского народа самодеятельность, ведется слишком открыто, чтобы в ней кто-либо мог найти что-нибудь «преступное». Даже столь определенный «государственник», как профессор Л. А. Погодин[1], резко выступающий против украинцев, которых он почему-то обвиняет в стремлении отделиться от России, заявил на днях на страницах «Биржевых ведомостей», что «узконационалистического, то есть реакционного и враждебного русской государственности направления» он «у белорусского национального движения не заметил». «Я полагал правильным,— пишет А. Л. Погодин,— выразить ему симпатию»[2].

Несмотря на это — или, быть может, именно поэтому,— в петербургских ультрареакционных сферах намечается курс, который имеет целью во что бы то ни стало уничтожить это движение, хотя бы пришлось пустить в ход силу власти. Для этого применяется давно практикующееся в России средство — заведомо ложный донос. «Россия» напечатала на днях такой донос, обвиняющий чисто культурное движение в революционизме. Отпор этому выступлению дает в последнем номере «Наша ніва» (см. № 33 от 16 августа 1913 г.); ввиду

того, что статья «Данос» разоблачает совершенно недопустимые приемы борьбы с белорусским движением, считаем полезным ознакомить с ней читателей[3].

«Белорусский народ,— пишет «Наша ніва»,— проснулся от спячки, стал жить своей особой жизнью, стал работать над зданием национальной культуры собственными руками. Пришла в движение крупная жизненная сила, затаенная в груди девятимиллионной массы. И этой силы уничтожить уже нельзя: она растет изо дня в день и с каждым годом будет создавать новые культурные ценности».

«Враги белорусского народа непрерывно «работают над тем, чтобы остановить белорусское движение. Его забрасывают грязными обвинениями польские черносотенцы из «Gaz. codz.» и другие, о нем писали забавные небылицы Ковалюки и Солоневичи, лишь бы только лишить его симпатии местного общества. Но напрасно: ни один честный человек, ни один искренний сын своего народа не верил этим небылицам и возмутительным нападкам. «Теперь враги белорусов из черносотенного лагеря избрали другой путь: в борьбе с белорусами они пользуются наиболее недостойным средством — ложными доносами, чтобы привлечь в борьбе правительство и добиться противодействия к национальному возрождению белорусов силой.

«В казенной «России»[4] в № 2372 напечатан такой ложный донос. Под ним значится подпись «Яков Нивич»; но под этим именем, конечно, вымышленным, прячется лицо, состоящее в близких отношениях с охранным отделением; слишком уж хорошо осведомлен автор о том, что нашла полиция при обысках у разных лиц — у учеников Молодечненской семинарии, в Минской публичной библиотеке и т. п.,— осведомлен о том, что заключалось в отобранной у них переписке. И вот этот агент-провокатор, несмотря на свою осведомленность, доносит кому следует, будто издательство «Наша ніва» печатало и распространяло прокламации «Белорусской социалистической громады», хотя именно охранному отделению должно быть известно, что прокламации эти печатались в 1903, 1904, 1905 и в начале 1905 года в периоде освободительного движения, а «Наша ніва» основана лишь в самом конце 1906 года, когда наступило общее затишье. Далее он же доносит, будто та же «Наша ніва» печатала революционные брошюры «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», «Чы хваціць для ўсіх зямлі» и др., хотя эти брошюры изданы до выхода в свет «Нашай нівы» и помечены совершенно иной фирмой. Одним словом, агент-провокатор пытается обвинить в революционности чисто культурную, мирную деятельность «Нашай

